

# РЭЗАЛЮЦЫЯ 17 З'ЕЗДА ВКП(б) ПА СПРАВАЗДАЧНАМУ ДАКЛАДУ т. СТАЛІНА АБ РАБОЦЕ ЦК ВКП(б)

**ПРЫНЯТА АДНАГАЛОСНА**

Заслухаўшы справаздачны даклад тав. Сталіна аб дзейнасці ЦК ВКП(б), 17 з'езд ВКП(б) пастанаўляе:

1. Ухваліць цалкам і поўнасцю палітычную лінію і практычную работу ЦК ВКП(б).

2. Ухваліць справаздачны даклад тав. Сталіна і прапанаваць усім партарганізацыям кіравацца ў сваёй рабоце палажэннямі і задачамі, высунутымі ў дакладзе тав. Сталіна.

# І ПАБОЛЬШЭВІЦКУ ЗА РАБОТУ!

Скончыў свае работы 17 з'езд ВКП(б). З'езд прайшоў пад знакам поўнага ідэйнага і арганізацыйнага адзінства радоў вялікай партыі Леніна-Сталіна.

Тав. Сталін, падводзячы вынікі спрэчкам, заявіў: «Спрэчкі на з'ездзе выявілі поўнае адзінства поглядаў нашых партыйных кіраўнікоў, можна сказаць, па ўсіх пытаннях партыйнай палітыкі. Пярэчанняў супроць справаздачнага даклада, як ведаеце, не было ніякіх. Выяўлена, значыцца, незвычайная ідэйна-палітычная і арганізацыйная згуртаванасць радоў нашай партыі. Дазвольце мне таму адмовіцца ад заключнага слова».

Гэтыя словы вялікага правадыра нашай партыі і ўсяго працоўнага чалавецтва свету ёсць выражэнне нябывалай арганізацыйнай і ідэйна-палітычнай згуртаванасці радоў ВКП(б) на аснове генеральнай лініі нашай партыі.

**Ленін**, пярэчачы экавамістам у першыя гады стварэння бальшэвіцкай партыі на II з'ездзе ВКП(б) пасля таго, як на баку бальшэвікоў аказалася бальшасць, заявіў, што мы больш «ліпчэ ганарыцца будзем, калі ўся наша партыя будзе адным калектывам, кампактнейшай на 90 проц. большасцю».

Зараз партыя ў праве ганарыцца тым адзінствам, той жалезнай згуртаванасцю, якая ёю пад кіраўніцтвам найвялікшага генія нашай эпохі Сталіна заваявана ў баях з апартунізмам, у баях за пабудову бясклясавага соцыялістычнага грамадства. Гэта згуртаванасць і бальшэвіцкая маналітнасць выражаецца ва ўсёй нашай рабоце.

«Паглядзіце на вялікую краіну Советаў, на яе комуністаў, рабочых і сялян. У якой гіганцкай гераічнай рабоце выражаецца іх аднадушнасць. У іх дзеяннях, ва ўсім тым вялікім затмяваючым самыя бліскучыя эпохі гісторыі чалавецтва, якое творыцца ў нашай краіне, выражаецца адзінства партыі. Гэтае адзінства праверана і правяраецца на рышташнях соцыялістычнага будаўніцтва і ў соцыялістычным спаборніцтве, на заводах, фабрыках, у соўгасах, калгасах, скрозь і ўсюды, дзе кіпіць работа за аўладанне тэхнікай, за якасць, там, дзе ствараюцца новыя каштоўнасці і новая соцыялістычная культура. Гераізмам, дзелавітасцю, вынаходлівасцю, асабістай мужнасцю і адвагай у вырашэнні складаных праблем соцыялістычнага будаўніцтва, арганізацыйнай смеласцю, гатоўнасцю ахвяраваць сабой для агульнай совецкай справы, дысцыплінай—гэтым адзначаны адзінадзейныя людзей нашай краіны.

Чаму рабочыя і сяляне аднадушна галасуюць за лінію партыі? Таму, што яны адчуваюць, што партыя ім блізка і родна; таму, што яны адчуваюць, што партыя робіць тое, што ім патрэбна; таму, што яны адчуваюць, што партыя клапоціцца, змагаецца аз іх кроўную справу, за новае шчаслівае жыццё, за соцыялізм.

Чаму іменна цяпер партыя дабілася такога поўнага адзінства? Таму, што палітыка партыі стала ясна для дзесяткаў мільёнаў працоўных, таму, што партыя ўзнялася на такую вышыню, адкуль мільёнам відзён далейшы шлях руху; таму, што партыя сваёй работай і поспехамі, асабліва апошніх год, заваявала сабе непадзельны аўтарытэт, глыбокае давер'е і павагу сярод мас («Праўда»).

Даклад тав. Сталіна на 17 з'ездзе аб рабоце Цэнтральнага Камітэта з'яўляецца баявой праграмай дзейнасці для кожнага комуніста і комсамольца, для кожнага чэснага тружаніка вялікай краіны Советаў і ўсяго свету.

Па свайму характару і сутнасці даклад тав. Сталіна з'яўляецца чырвонай старонкай ва ўсёй гісторыі ВКП(б).

Партыя і рабочы клас узбагаціліся дакументам па сваёй насычанасці, глыбокаму зместу, яснасці, геніяльнасці сапраўды вартым нашай вялікай эпохі. Гэтым дакументам узнята тэарытычная база комунізма на новую яшчэ больш высокую ступень. І не выпадкова 17

з'езд ВКП(б) замест звычайных рэзолюцый вынес рашэнне, што даклад тав. Сталіна ёсць баявая праграма работы і што выкананне яго ёсць найпярвейшы абавязак кожнай партыйнай арганізацыі.

У 4-гадзіннай прамове т. Сталін узняў аграмадную суму важнейшых рашаючых пытанняў будаўніцтва соцыялізма. Ён паказаў на яркіх прыкладах, што вучэнне Леніна аб магчымасці пабудовы соцыялізма ў адной асобна ўзятай краіне большэвікі ажыццявілі на практыцы на адной шостай частцы зямнага шара.

Соцыялізм перамог імення таму, што наша партыя пад кіраўніцтвам свайго правадыра высока несла сцяг марксізма-ленінізма, рашуча сакрушала спробы ўсіх ворагаў заплямiць гэты не ведаючы паражэння сцяг большэвізма.

Разбіты нагалаву рэнегаты ўсіх масцей. Разам з імі выкінуты ў сметнік гісторыі іх капітулянцкія тэорыі» і тэорыйкі».

Партыя крок за крокам ва ўсёй сваёй аграмаднай творчай рабоце згуртоўвала вакол сябе шматмільённыя масы працоўных, мабілізавала і арганізоўвала іх на барацьбу за пабудову бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Аграмадныя поспехі атрыманы намі на ўсіх без выключэння франтах вялікай соцыялістычнай будоўлі. За час з 16 з'езда да 17 з'езда ВКП(б), за апошнія 10 год пасля смерці Леніна ВКП(б) пад кіраўніцтвам лепшага ленінца — тав. Сталіна з гонарам завяршыла пабудову фундамента соцыялістычнай эканомікі ў першай пяцігодцы і практычна ўжо ажыццяўляе грандыёзныя пебываныя ў гісторыі планы другой пяцігодкі, пяцігодкі пабудовы соцыялістычнага грамадства.

Зараз «соцыялістычны ўклад з'яўляецца непадзельна пануючай і адзінай камандуючай сілай ва ўсёй народнай гаспадарцы... У гэтым выніку аснова крэпасці ўнутранага становішча СССР, аснова стойкасці яго перадавых і тылавых пазіцый у абстаноўцы капіталістычнага акружэння» **(Сталін)**.

Нашы поспехі асабліва рэльефна вырысоўваюцца на фоне ўсеагульнага крызіса капіталізма і развіваючагася на базе яго цяперашняга эканамічнага крызіса, які ахапіў усе без выключэння капіталістычныя краіны.

У той час як на працягу некалькіх год у капіталістычных краінах бушуе эканамічны крызіс, які бязлітасна руйнуе народную гаспадарку, Совецкі Саюз з дня ў дзень развівае сваю прамысловасць і сельскую гаспадарку, будуе на соцыялістычнай эканамічнай базе сваю соцыялістычную культуру.

Як геніяльна, вобразна адзначыў тав. Сталін.

«Сярод бушуючых хваль эканамічных патрасенняў і ваенна-палітычных катастроф — СССР стаіць асобна як уцёс, прадаўжаючы сваю справу соцыялістычнага будаўніцтва і барацьбы за захаванне міру».

У капіталістычных краінах няма ніякіх адзнак абнаўлення асноўнага капітала, якія-б сведчылі аб якіх небудзь адзнаках пачатку новага эканамічнага пад'ёму. Значыцца, як адзначыў т. Сталін, мы маем справу з «пераходам ад пункту найбольшага ўпадку прамысловасці, да пункту найбольшай глыбіні прамысловага крызіса — да дэпрэсіі, але да дэпрэсіі не звычайнай, а да дэпрэсіі асобага роду, якая не вядзе да новага пад'ёму і росквіту прамысловасці, але не варочае яе да пункту найбольшага ўпадку».

Лопнулі як мыльны пузыр усякія буржуазныя песенькі аб наступленні новага «праспэрыці». Не дапамаглі і не дапамогуць якія-б там ні былі рэцэпты аздараўлення капіталізма, на вынаходства якіх пусціліся лекары з II Інтэрнацыянала.

У перадсмяротных агоніях б'ецца капіталізм. Ён шукае шляхоў для таго, каб выйсці з таго эканамічнага тупіка, у якім ён апынуўся.

Бясконцыя свае ўнутраныя і знешнія супярэчнасці капіталізм хоча вырашыць за кошт новых контррэволюцыйных войн і ў першую чаргу супроць соцыялістычнай бацькаўшчыны працоўных усяго свету — СССР.

Сучасны «свет» нагадвае сабой парахавую бочку, якая вось-вось павінна выбухнуць.

Наша партыя, верная традыцыям большэвізма, заўсёды вяла і вядзе палітыку міру.

СССР вырас у магутную краіну, з якою не лічыцца нельга. У сувязі з гэтым становіцца зусім ясным факт прыз

нання ЗША дэ-юрэ Совецкага Саюза. У сувязі з гэтым становяцца зусім яснымі факты буйнейшых перамог, заваяваных за апошні час Совецкім Саюзам на міжнароднай арэне.

«Наша палітыка, — гаворыць тав. Сталін, — ясна, мы стаім за мір і адстойваем справу міру, але мы не баімся пагроз і гатовы адказаць ударам на ўдар падпальшчыкаў вайны. Хто хоча міру і дабіваецца дзелавых сувязяй з намі, той знойдзе ў нас заўсёды падтрыманне. А тыя, якія папрабуюць напасці на нашу краіну, атрымаюць сакрушальны адпор, каб надалей непаваднa было ім соваць сваё свіное рыла ў наш совецкі агарод».

У гэтай устаноўцы правадыра партыі закладзена сутнасць усёй нашай палітыкі. У ёй таксама з непраўзойдзенай пераконанасцю паказана тая магутнасць Совецкага Саюза, якой ён дасягнуў у рэзультаце выканання першай пяцігодкі.

Эканамічная і палітычная магутнасць Совецкага Саюза дасягнула небывалай вышыні.

Колькасць на пэўным этапе перайшла ў якасць. Соцыялізм атрымаў перамогу.

У галіне прамысловасці соцыялістычная сістэма манапольна. У сельскай гаспадарцы яна займае па пасеўных плошчах зернавых культур 84,5 проц. Як было раней указана, соцыялістычны сектар з'яўляецца непадзельна пануючым.

У рэзультаце большэвіцкага правядзення ленінскай нацыянальнай палітыкі на акраінах у былых калоніях і поўкалоніях царскага самаўладства створаны новыя магутныя прамысловыя ачагі з аграмаднай колькасцю пралетарыята. На практыцы атрымала вырашэнне ўказанне т. Сталіна аб тым, што

«Неабходна, каб апрача школ і мовы расійскі пролетарыят прыняў усе захады да таго, каб на акраінах, у адсталых у культурных адносінах рэспубліках, — адсталі яны не па сваёй віне, а таму, што іх разглядалі раней, як крыніцы сыравіны, — неабходна дабіцца таго, каб у гэтых рэспубліках былі пабудаваны ачагі прамысловасці».

Аграмадныя шматмільённыя працоўныя бядняцка-серадняцкія сялянскія масы Совецкага Саюза, аб'яднаўшыся ў калгасы, раз і назаўсёды пакончылі з кулацкай кабалой. Калектывізацыяй ахоплена ўжо звыш 65 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак СССР.

Цалкам і поўнасцю нашай партыяй праведзена ў жыццё мара класіка марксізма Энгельса, які гаварыў: «Калі мы завладаем дзяржаўнай уладай, мы не будзем і думаць аб тым, каб гвалтоўна экспрапрыяваць дробных сялян (усё роўна з узнагародай ці не), як гэта мы вымушаны будзем зрабіць з буйнымі землеўласнікамі. Наша задача ў адносінах да дробных сялян будзе заключацца перш за ўсё ў тым, каб іх прыватную вытворчасць і прыватную ўласнасць перавесці ў таварыскую, але не гвалтоўным шляхам, а пры дапамозе прыклада і прапановы грамадскай дапамогі для гэтай мэты.

Найвялікшы геній нашай эпохі Сталін тэарытычна і практычна разгарнуў аграмадную праграму пераробкі сельскай гаспадаркі на соцыялістычны лад. Суцэльная калектывізацыя і на яе аснове ліквідацыя кулацтва як класа — вось што праводзілася і праводзіцца нашай партыяй. Мы дабіліся таго, што асноўныя пытанні сельскай гаспадаркі вырашаны правільна, і сельская гаспадарка стаіць цяпер цвёрда на нагах.

Цяпер усе працоўныя не толькі краіны Советаў, але і ўсяго свету могуць заявіць, што шлях соцыялістычнай пераробкі сельскай гаспадаркі абгрунтован тэарытычна і праведзен на практыцы.

Мы можам сказаць, што сёння калгасы стаяць моцна і ўпэўнена на сваім шляху да большэвізацыі калгасных радоў, да заможнага жыцця.

Усе гэтыя перамогі не прышлі самацёкам, яны ёсць рэзультат упартай, карпатлівай работы ўсёй партыі, а пад яе кіраўніцтвам і мільёнаў працоўных. Яны ёсць рэзультат таго, што ленінскі ЦК і правадыр партыі т. Сталін нясхлабна ўпэўнена вялі нас ад перамогі да перамогі.

На 17 з'ездзе т. Сталін папярэдзіў: «не захапляцца дасягнутымі поспехамі, не зазнавацца».

Гэта папярэджанне павінна стаць асновай ва ўсёй рабоце. Аграмадныя задачы, пастаўленыя з'ездам партыі і тав. Сталіным у яго дакладзе, патрабуюць ад кожнага з нас мабілізацыі ўсіх сіл

на далейшую ўпартую барацьбу за новыя перамогі ў пабудове бясклясавага соцыялістычнага грамадства.

Толькі адпетыя апартуністы і рознага роду чыноўнікі, нічога агульнага не маючыя з партыяй, могуць сцвярджаць, што перамогі могуць прыйсці «самацёкам».

«Перамога ніколі не прыходзіць сама, яе звычайна прыцягваюць. Добрыя рэзалюцыі і дэклярацыі за генеральную лінію партыі — гэта толькі пачатак справы, бо яны азначаюць толькі жаданне перамагчы, але не самую перамогу. Пасля таго, як дана правільная лінія, пасля таго, як дана правільнае рашэнне пытання, поспех справы залежыць ад арганізацыйнай работы, ад арганізацыі барацьбы за правядзенне ў жыццё лініі партыі, ад правільнага падбору людзей, ад праверкі выкананння рашэнняў кіруючых органаў. Без гэтага правільная лінія партыі і правільныя рашэнні рызыкуюць пацярпець сур'ёзны ўшчэрб. Боль таго: пасля таго, як дана правільная палітычная лінія, арганізацыйная работа вырашае ўсё, у тым ліку і лёс самой палітычнай лініі, — яе выкананне або правал».

Вось як вучыць працаваць нас т. Сталін. Вось як на практыцы трэба ажыццяўляць баявую праграму, намечаную з'ездам.

Перад усёй партыяй, рабочым клясам пастаўлена задача — пабудаваць у другой пяцігодцы бясклясавае соцыялістычнае грамадства, асноўнай задачай якога з'яўляецца «канчатковая ліквідацыя капіталістычных элементаў і клясаў наогул, поўнае знішчэнне прычын, параджаючых клясавую розначць і эксплоатацыю і перамаганне перажыткаў капіталізма ў эканоміцы і свядомасці людзей, ператварэнне ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў свядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавага соцыялістычнага грамадства». **«Асноўнай і рашаючай гаспадарчай задачай другой пяцігодкі з'яўляецца завяршэнне рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі, стварэнне навейшай тэхнічнай базы для ўсіх галін народнай гаспадаркі».**

У рэзультаце выканання другой пяцігодкі наша краіна стане самай багатай краінай у свеце. Узровень жыцця шырокіх працоўных мас значна палепшыцца.

Сур'ёзнейшымі задачамі, высунутымі ў сваім дакладзе т. Сталіным, з'яўляецца барацьба за далейшае павышэнне ўраджайнасці, поўнае вырашэнне жывёлагадоўчай праблемы.

Буйнейшыя, яшчэ не вырашаныя праблемы транспарта і тавараабароту павінны заняць велізарнае месца ва ўсёй нашай рабоце.

Трэба нанесці сакрушальны ўдар па тых, хто недаацэньвае гэтых праблем і, ў прыватнасці, праблему тавараабароту і савецкага гандлю.

Трэба зразумець марксісцкую ісціну, што «толькі спажыванне завяршае працэс вытворчасці». Асабліва востра т. Сталін высунуў задачу ліквідацыі крызіса жывёлагадоўлі і далейшае быстрае вырашэнне жывёлагадоўчай праблемы.

**«СПРАВУ ЖЫВЁЛАГАДОЎЛІ ПАВІННЫ ЎЗЯЦЬ У СВАЕ РУКІ ЎСЯ ПАРТЫЯ І ЎСЕ НАШЫ РАБОТНІКІ, ПАРТЫЙНЫЯ І БЕСПАРТЫЙНЫЯ, МАЮЧЫ НА ЎВАЗЕ, ШТО ПРАБЛЕМА ЖЫВЁЛАГАДОЎЛІ З'ЯЎЛЯЕЦЦА ТАКОЙ-ЖА ПЕРШАЧАРГОВАЙ ПРАБЛЕМАЙ, ЯКОЙ БЫЛА ЎЧОРА ЎЖО ВЫРАШАНАЯ З ПОСПЕХАМ ПРАБЛЕМА ЗЕРНАВАЯ».**

На бальшэвіцкі друк, як на магутнага калектыўнага прапагандыста, агітатара і арганізатара, ускладзены выключна вялікія задачы. Трэба рашуча паставіць усе гэтыя пытанні на старонках газет. На кожным малейшым участку работы павінна быць выяўлена агромадная арганізуючая работа рабкораў і друку. А трэба прама сказаць, што пытанні павышэння ўраджайнасці, транспарта, тавараабароту, жывёлагадоўлі і т. д. ва многіх, калі не ва ўсіх раённых газетах, не пастаўлены на належную вышыню.

Публікуемыя ў сёнешнім нумары журнала матэрыялы аб рабоце некаторых газет, ярка сведчаць аб дрэннай пастаноўцы гэтых пытанняў на старонках друку.

XVII з'езд падняў на выключную вышыню пытанні кіраўніцтва, праверкі выканання і т. д. З выключнай яркасцю тав. Сталін у сваім дакладзе адзначыў два тыпы работнікаў. Адзін тып — людзі з заслугамі ў мінулым, якія думаюць, што ім усё можна, што законы партыі і ўрада іх не датычаць. Гэта тып работнікаў вяльмож. І невыпадкова тав.

Сталін заўстрыў, што партыя будзе знімаць з работы такіх таварышоў, не глядзячы на іх ранейшыя заслугі.

Другі тып работнікаў — гэта чэсныя балбатуны, якія сваёй балбатнёй могуць угробіць любую жывую справу. Партыя таксама і з гэтымі работнікамі будзе весці рашучую бязлітасную барацьбу. У сваім дакладзе тав. Сталін прама ўказаў, што трэба ўсіх гэтых работнікаў бязлітасна знімаць з работы і апублікоўваць у друку.

Гэта прамое ўказанне тав. Сталіна павінна легчы ў аснову работы друку.

Бязлітасна выкрываць і выкрываць канкрэтных носьбітаў зла, паказваць перад шырокімі масамі іх сутнасць — вось задача друку.

Дапамагаючы партыі ў перабудове ўсёй работы газеты павінны самым рашучым чынам самі перабудоўвацца.

Ключом к перабудове нашага друку з'яўляюцца рашэнні з'езда партыі.

Газеты павінны пабудаваць сваю работу так, каб ухапіўшыся за асноўныя галоўныя звенні, выцягнуць увесь ланцуг рознастайных складанейшых пытанняў нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

«У гэтым і заключаецца мастацтва бальшэвіцкага кіраўніцтва, каб выдзеліць галоўны фронт, налегчы на яго і ў той-жа час аглядаць усё поле боя, каб не было ўчастка, які ўслізгаў-бы з поля зроку» **(Кагановіч)**.

Асноўным метадам вырашэння гэтых задач з'яўляецца бальшэвіцкая самакрытыка. Толькі пры дапамозе разгортвання бальшэвіцкай самакрытыкі на ўсіх участках работы газеты змогуць выканаць задачы, якія перад імі стаяць.

Рашэнні XVII з'езда нашай партыі — гэта арпамаднейшая праграма работы. Выкананне іх патрабуе ад кожнай газеты, кожнага рабкора яшчэ большага павышэння рэволюцыйнай пільнасці, яшчэ большай непрымірымасці да класавага ворага і яго агентуры.

«Класавы вораг разбіт, але недабіт. І нішто не гарантуе нас ад новых наскокаў з боку жывучага і яшчэ жадаючага жыць ворага. Ён робіць і зробіць яшчэ не адну спробу адстаяць сваю безнадзейна праіграную справу, прыцягнуць на свой бок, накіраваць супроць дыктатуры пролетарыята нязжытыя яшчэ ў нашай краіне перажыткі капіталістычнай старыны. Барацьба з ухіламі на два фронты — рашаючая задача.

Дзве ўмовы, пры якіх можа быць у зачатку паралізован кожны ўхіл. Яшчэ мацней узброіць кожнага комуніста, кожнага кіраўніка нашай соцыялістычнай будоўлі **ТЭОРЫЯЙ МАРКСА-ЭНГЕЛЬСА-ЛЕНІНА-СТАЛІНА**, каб з неаслабнай сілай бачыць ворага, паражаць ворагаў партыі, ворагаў пролетарскай дыктатуры. Яшчэ мацней падцягнуць усе вагары нашага апарата, яшчэ вышэй узняць яго боездольнасць, рашуча выкараніць у рабоце элементы самацёку, бюрократызму, канцылярычныны, кіраўніцтва «наогул», — **АРГАНІЗАЦЫЙНА ПЕРАБУДАВАЦЬ АПАРАТ, ПЕРАГЛЕДЗЕЦЬ РАССТАНОЎКУ СІЛ БАЙЦОЎ.**

Высокая ідэйнасць, тэарытычная і арганізацыйная ўзброенасць — вось умовы выканання намечаных з'ездам вялікіх задач».

Бальшэвіцкі друк, як вастрэйшая зброя нашай партыі, павінен прыкласці ўсе намаганні да таго, каб рашэнні партыйнага з'езда ператварыць у канкрэтныя справы.

Прамова тав. Сталіна і рашэнні з'езда — гэта баявая праграма работы. І трэба, закасаўшы рукавы, пабальшэвіцку ўзяцца за іх выкананне.

---

**«Старая вёска з яе царквой на самым відным месцы, з яе лепшымі дамамі ўрадніка, лапа, кулака на першым плане, з яе паўразваленымі хатамі сялян на заднім плане — пачынае знікаць. На яе месца выступае новая вёска з яе грамадска-гаспадарчымі пабудовамі, з яе клубамі, радыё, кіно, школамі, бібліятэкамі і яслямі, з яе трактарамі, камбайнамі, малатарнямі, аўтамабілямі.**

**Знікае процілегласць паміж горадам і вёскай. Горад перастае быць у вачах сялян цэнтрам іх эксплаатацыі. Усё мацней становяцца ніці гаспадарчай і культурнай змычкі паміж горадам і вёскай.».**

**СТАЛІН**, з прамовы на XVII з'ездзе ВКП(б).

---



Брыгадзір II брыгады калгаса «Іскра», Каменскага раёна (Сярэдняя Волга) НІКУЛІН Міней Кузьміч у адзнаку 17 партз'езда прадаў кааперацыі з выпрацаваных 930 пуд. 537 пуд. хлеба.

## *У адказ на даклад правадыра*

# УХАПІЛІСЯ ЗА АСНОЎНАЕ ЗВЯНО

### „ШЛЯХ СОЦЫЯЛІЗМА“

**«Справу жывёлагадоўлі павінны ўзяць у свае рукі ўся партыя, усе нашы работнікі, партыйныя і беспартыйныя, маючы на ўвазе, што праблема жывёлагадоўлі з'яўляецца цяпер такой-жа першачарговай праблемай, якой была ўчора ўжо вырашаная з поспехам праблема зерневая»** — так паставіў пытанне т. **СТАЛІН** у сваім дакладзе на 17 з'ездзе ВКП(б).

На заклік правадыра адгукнуліся шырокія масы калгаснага сялянства.

**«1934 год зробім пераломным годам у развіцці жывёлагадоўлі»** — пад такім аншлагам чашніцкая раённая газета **«Шлях соцыялізма»** 7 лютага дае старонку, прысвечаную водгукам на даклад т. Сталіна.

У 1930 г. калгас **«Новы шлях»** меў усяго дзве каровы. Шляхам кантрактацыі, закупкі маладняка ў аднаасобнікаў, калгас дабіўся таго, што зараз мае сваю малочную таварную ферму з 84 галоў жывёлы.

**«На працягу трох год мы не зарэзалі ніводнай цёлкі на мяса...**

**... У 1933 годзе быў адзін выпадак адыходу, на гэта мабілізавалі ўсіх калгаснікаў і больш гэтага з'явішча не паўтараецца»** —

расказвае на старонках газеты старшыня калгаса «Новы шлях» **Унуковіч Мацвей.**

У 1930-31 г. г. класавы вораг — кулак правёў вялікую шкодніцкую работу па знішчэнню пагалоўя жывёлы. Пад уплыў кулака падпала і частка калгаснікаў. Знішчалі маладняк авец, свіней. І т. Унуковіч расказвае, як праўленне калгаса, калгасны актыў правялі шырокую масавую работу сярод калгаснікаў. У выніку спыніўся драпежніцкі ўбой жывёлы. Калгаснікі аказалі ўзаемадапамогу калгасу,

далі для фермы 18 авечак. Зараз аўцагадоўчая ферма калгаса налічвае ўжо 50 авечак.

Але калгаснікі з калгасу «Новы шлях» не задавольваюцца гэтым. У адказ на пастаўленую тав. Сталіным задачу зрабіць 1934 г. пераломным годам у развіцці жывёлагадоўлі яны бяруць на сабе **канкрэтныя** абавязацельствы, якія павінны забяспечыць ажыццяўленне гэтай задачы ў іх калгасе.

— Не зарэзаць ні аднаго цяляці.

— Не дапусціць ні аднаго выпадку ады ходу ў 1934 г.

— Укамплектаваць у 1934 г. стада рагатай жывёлы да 120 галоў, авец да 80 галоў, забяспечыць 100 проц. правядзенне веснавой злучнай кампаніі.

— Дабіцца ў гэтым годзе сярэдняга гадавога ўдою адной каровы не менш 2000 літраў — вось канкрэтныя самаабавязацельствы, якія ўзяў на сябе старшыня калгаса «Новы шлях» у адказ на даклад тав. Сталіна.

**«Абвясціць сталінскі паход за развіццё жывёлагадоўлі** — вось прапанова т. Унуковіча. Прапанову тав. Унуковіча падтрымлівае і старшыня калгаса «Вішкавічы № 2» т. **Сапелка.**

У гэтым-жа нумары «Соцыялістычнага шляху» надрукаваны і самаабавязацельствы калгаса «Вішкавічы № 2» па развіццю жывёлагадоўлі і самаабавязацельствы калгаса «Х кастрычнік».

«Соцыялістычны шлях» ухапіўся за **асноўнае звяно** — за развіццё жывёлагадоўлі. Трэба толькі, каб газета вяла гэту справу з нумара ў нумар, арганізавала штодзённы **кантроль над выкананнем прынятых абавязацельстваў у адказ на даклад т. Сталіна.**

## ДЗЕ-Ж КАНКРЭТНЫЯ СПРАВЫ, ТАВАРЫШЫ?

### „ЛЕНІНСКІ ПРЫЗЫЎ"

Аршанскі **«Ленінскі прызыў»** змясціў першую частку даклада т. **Сталіна** на XVII з'езд партыі 30 студзеня. Выходзячы праз дзень, газета змясціла першыя водгукі на даклад 2 лютага.

Газета пасля гэтага дае вялікую колькасць водгукаў. Але што гэта за водгукі? Больш за ўсё гэта паведамленні аб прынятых у сувязі з дакладам т. Сталіна самаабавязацельствах. Толькі ў чатырох матэрыялах паведамляецца аб тым, з чым рабочыя і калгаснікі паасобных прадпрыемстваў і калгасаў сустрэлі гістарычны з'езд партыі і даклад любімага правадыра.

Мы нікольні не пярэчым супроць паведамленняў аб прынятых самаабавязацельствах. Ахоплены новым пад'ёмам энтузіязма і творчай энергіі шырачэзныя масы працоўных нашай совецкай краіны рапартавалі з'езду партыі і т. Сталіну **аб атрыманых імі перамогах, аб выкананні прынятых раней самаабавязацельствах.** Але аб гэтым, на сутнасці гапоўным «Ленінскі прызыў» успамінае **выпадкова,** хоць і паўтарае двойчы ў «шапках», што **«канкрэтнымі большэвіцкімі справамі рабочыя і калгаснікі Аршаншчыны адказваюць на ўказанні любімага правадыра партыі і сусветнага пралетарыята т. Сталіна».** **Па старонках газеты** гэтага, на вялікі жаль, ніяк **не відаць.**

У нумары ад 8 лютага газета паведамляе, што па пастанове партыйна-комсамольскага схода зоны МТС абвешчан **сталінскі паход за развіццё соцыялістычнай жывёлагадоўлі.** Тут-жа паведамляецца аб выніках раённага злёта калгасных конюхаў, якія ў адказ на даклад т. **Сталіна** абавязаліся

> **«... дабіцца рашучага павялічэння конскага пагалоўя ў сёлетнім годзе, захаваць і вырасціць увесь прыплод маладняка і выканаць план злучной кампаніі, ..даць вясне каня вышэй сярэдняй упітанасці».**

Баявой задачай газеты з'яўляецца ўзнятненне ў абвешчаны сталінскі паход усіх соўгасаў і калгасаў раёна, арганізацыя шырокага паказу работы перадавых калгасаў і ўдарнікаў жывёлагадоўлі, шырокага абмену вопытам. **Максімум увагі развіццю пагалоўя жывёлы.**

Неадкладна трэба разгарнуць **праверку выканання прынятых у сувязі з дакладам тав. Сталіна самаабавязацельстваў.** Такая праверка, а, значыцца, і кантроль выканання, з'яўляюцца абавязковымі для таго, каб дабіцца большэвіцкага ажыццяўлення ўказанняў т. **Сталіна.**

# ПАКАЗАЦЬ УДАРНІКА-КАЛГАСНІКА,. РАСКАЗАЦЬ ПРА ЯГО РАБОТУ ЎСЯМУ РАЁНУ

## „КОМУНАР МАГІЛЕЎШЧЫНЫ“

**«Справаздачны даклад тав. Сталіна — баявая праграма барацьбы за другую пяцігодку»** — такім аншлагам **«Комунар Магілёўшчыны»** пачаў папулярызацыю даклада правадыра партыі на 17 з'ездзе ВКП(б).

У падборцы за 2-га лютага 3 аператыўныя заметкі аб водгуках калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў на даклад тав. Сталіна. Загаловак першай заметкі адразу акрэслівае яе змест. **«Уступленнем у калгасы адзначаюць аднаасобнікі даклад тав. Сталіна».**

Газета паказвае калгас **«Ударнік»**, які ўжо скончыў рамонт збруі і плугоў і прыступіў да праверкі ўсхожасці поўнасцю засыпанага і адсартаванага насення.

Распрацаваўшы даклад тав. Сталіна разам з працоўнымі аднаасобнікамі, калгаснікі абавязаліся да 10-га лютага скончыць рамонт калёс, поўнасцю вывезці ў поле гной. Калгас «Ударнік» **узяў на грамадскі буксір і арганізаваў дапамогу суседняму калгасу «Пралетарый».**

Адначасова «Ударнік» **пазычае пралетарцам насенне пшаніцы на 2 га.**

Газета не забывае працоўнага аднаасобніка. «16 аднаасобных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак у адказ на даклад тав. Сталіна падалі заяву аб уступленні ў калгас» — такі вынік канкрэтнага дзела і яга абмеркавання і распрацоўкі ў калгасе даклада правадыра партыі.

6-га лютага газета змяшчае чарговую падборку **«Большэвіцкімі справамі працоўныя Магілеўшчыны адказваюць на даклад тав. Сталіна».** Калгаснікі калгаса «Колас», якія «гатовы хоць сёння да выезду ў поле», распрацаваўшы ўказанні тав. Сталіна аб разгортванні соцыялістычнай жывёлагадоўлі, паставілі задачай атрымаць у 1934 г. 120 тыс. літраў малака. Жывёлагадоўчая брыгада паляпшае догляд кароў, арганізуе правільнае яе паенне, кармленне, чыстку.

У другой заметцы **«Заваюем заможнае жыццё»** газета паказала яркі прыклад прадуманага абмеркавання даклада тав. Сталіна кожным калгаснікам калгаса імя Карла Маркса. Тут у часе абмеркавання даклада ў спрэчках выступіла 11 калгаснікаў. Кожны з іх уносіў сваю прапанову, браў самаабавязацельства. Ударнік-каваль **Ільянкоў** выклікаў на соцспаборніцтва каваля **Царкоўскага** і абавязаўся скончыць рамонт сельска-гаспадарчага інвентара да 15 лютага, вартаўнік **Якаўлеў** тут-жа выклікаў на соцспаборніцтва вартаўнікоў **Лагуціна і Таборку.**

11-га лютага «Комунар Магілеўшчыны» расказвае, як палітаддзел Магілеўскай МТС на аснове рэалізацыі ўказанняў тав. Сталіна аб развіцці соцыялістычнай жывёлагадоўлі выкрыў факты шкодніцкага планавання з боку былога кіраўніцтва жывёлааб'яднання. Напрыклад, планавалася па МТФ калгаса «Комінтэрн» давесці стада да 1000 галоў у той час, як у даным калгасе не было належнай кармовай базы. І наадварот: у радзе калгасаў пры наяўнасці кармовай базы МТФ чамусці не арганізоўваліся.

Газета папулярызуе работу палітаддзельцаў, яна расказвае, як за некалькі дзён работы палітаддзел дапамог разбурыць рад калгасных МТС і СТФ. **Работнік палітаддзела, выехаўшы ў калгас «Комінтэрн», дапамог карэнным чынам перабудаваць работу МТФ, увесці здзельшчыну, палепшыць догляд маладняка.**

У гэтым-жа нумары «Комунар Магілеўшчыны» змяшчае падборку **«Поспехі ў падрыхтоўцы да сяўбы заваюе толькі моцная вытворчая брыгада».** Газета робіць спробу паказаць брыгаду «наогул». І ў выніку — і ў гэтай, як і ў радзе другіх падборак, не відаць паказу асобных ударнікаў, не відаць «дробязей» іх будзённай работы, няма перадачы іх вопыта.

**Старонкі «Комунара Магілеўшчыны» чакаюць ужо гэтага канкрэтнага паказу людзей, іх штодзенных большэвіцкіх спраў у адказ на даклад тав. Сталіна.**

# У ПАРАДКУ САМАЦЁКУ

## „БОЛЬШЭВІК БАРЫСАЎШЧЫНЫ“

1-га лютага газета змяшчае першы матэрыял аб ходзе распрацоўкі на прадпрыемствах г. Барысава даклада т. **Сталіна.**

29-га студзеня на дрэваапрацоўчым камбінаце «Комінтэрн» адбыліся цэхавыя сходы-мітынгі.

Аб гэтых сходах газета дае сціслую інфармацыю, падпісаную **С. А.** Асноўнае ў інфармацыі гэта тое, што

> **«дні работы ХУІІ партз'езда з'явіліся для камбіната днямі пералому ў выкананні промфінплана»,**

што

> **«сходы-мітынгі прайшлі з выключным уздымам, выліліся ў магутную дэманстрацыю глыбокай бязмежнай аддачасці рабочых камбіната сваёй большэвіцкай партыі, кіруемай правадыром т. Сталіным.**

Усё гэта вельмі добра. Але вось самаабавязацельствы, узятыя рабочым калектывам камбіната да ХУІІ з'езда, усё-ж не выкананы. Не выканан промфінплан. **«Большэвік Барысаўшчыны»** павінен быў **арганізаваць рабочых камбіната на праверку прынятых абавязацельстваў, на высвятленне і ліквідацыю прычын невыканання промфінплана.** Гэтага якраз газета і не зрабіла. Яна абмежавалася толькі інфармацыяй аб тым, што **«горача гаварыць Валодчанка і аб недахопах сваёй работы»** і не ўказвае гэтых недахопаў, і аб тым, што **«І Аўчук, і Круглік, і Разумовіч, і многія другія выступаючыя... рэзка крытыкавалі работу паасобных кіраўнікоў камбіната і цэхаў, не аўладаўшых ленінска-сталінскім стылем работы»** — і ні прозвішчаў гэтых «паасобных кіраўнікоў», ні таго, за што іх рэзка крытыкавалі, газета не ўказвае.

2-га лютага **ні аднаго** водгука на даклад т. Сталіна ў газеце няма.

3-га лютага — пад «шапкай» **«Пробнымі выездамі ў поле, прылівам лепшых адпаасобнікаў у калгасы адзначаюцца дні працы 17 з'езда партыі»** — газета дае рад заметак з калгасаў аб адказе на даклад т. Сталіна продажам хлеба кааперацыі, арганізацыяй пробных выездаў у поле, прылівам у калгасы.

4-га лютага — яшчэ адна інфармацыя, толькі падпісаная ўжо не ініцыяламі **С. А.,** а поўнасцю **А. Сцефановіч** — аб злёце ўдарнікаў фабрыкі «Пролетарская перамога».

І гэтым фактычна газета абмежавалася. Бо нельга-ж лічыць шырокім паказам таго, чым, якімі канкрэтнымі большэвіцкімі справамі адказваюць рабочыя, калгаснікі, усе працоўныя Барысаўшчыны на даклад правадыра, тры дробныя заметкі ў кутку 4-й паласы, якія губляюцца сярод шматлікіх іншых матэрыялаў (8 лютага) ды адно паведамленне аб уключэнні рабочых і спецыялістаў саўгаса **«Палелюм»** ва ўсебеларускі сталінскі паход за ўмацаванню свінагадоўчых саўгасаў (9 лютага).

«Большэвік Барысаўшчыны» — вялікая штодзенная газета. Ад яе мы маем права патрабаваць значна больш, чым ад другіх раённых газет. Чаму-ж так дрэнна пастаўлен паказ канкрэтных, практычных водгукаў на даклад т. Сталіна на старонках барысаўскай газеты? Таму, што рэдакцыя паклалася на самацёк: прыйсе чарговая пошта паведамленне з таго ці іншага калгаса аб ходзе распрацоўкі даклада т. Сталіна, «ціснe» яго рэдакцыя ў газету; праводзіцца сход на тым ці іншым прадпрыемстве, газета дасць аб ім інфармацыю.

А вось правесці **самой** належную арганізатарскую работу на прадпрыемствах, у калгасах, арганізаваць адказ на даклад правадыра „ канкрэтнымі большэвіцкімі справамі — газета не здолела, як і не здолела яна паказаць на сваіх старонках як сустрэлі даклад т. Сталіна асобныя брыгады, жывыя людзі-ўдарнікі.

---

**«Факты гавораць, што мы ўжо пабудавалі фундамент соцыялістычнага грамадства ў СССР і нам астаецца толькі ўвянчаць яго надбудовамі,—справа, несумненна, больш лёгкая, чым пабудова фундамента соцыялістычнага грамадства».**

**СТАЛІН, з прамовы на XVII з'ездзе ВКП(б).**

---

Л. ЭПШТЭЙН

# НА ВАРЦЕ ЗАВАЯВАННЯЎ СОЦЫЯЛІЗМА

Дзве сістэмы, два процілеглыя лагеры процістаяць адзін другому: асуджаны на пагібель, усё больш загніваючы капіталістычны свет, і свет пераможна ідучага ў нашай краіне соцыялізма, які расце, мацнее.

У капіталістычным свеце вось ужо пяты год бушуе небывалы па свайму размаху, зацяжнасці і разбуральнасці крызіс. Няма зараз такой капіталістычнай краіны, якая-б не была ахоплена крызісам. Крызіс капіталістычнай прамысловасці цесна пераплёўся з крызісам капіталістычнай сельскай гаспадаркі, захваціў гандаль, крэдытную, грашовую сістэмы, абвастрыў да крайніх межаў барацьбу капіталістычных краін за замежныя рынкі, да надзвычайных размераў узмацніў працэс распаду і разлажэння гаспадарчых сувязяй сусветнага капіталізма.

Вялікі правадыр сусветнай пралетарскай рэволюцыі, геніяльны кіраўнік пролетарыята і працоўных усяго свету тав. **Сталін** на 17 партыйным з'ездзе з надзвычайнай выразнасцю і пераканаўчасцю ахарактарызаваў сучаснае міжнароднае становішча, указаўшы, што сусветны эканамічны крызіс, які праходзіць ва ўмовах агульнага крызіса капіталізма, абвастрыў у такой ступені ўсе асноўныя супярэчнасці капіталістычнага свету, што ў любы момант можа наступіць паварот, які будзе азначаць ператварэнне эканамічнага крызіса ў рэволюцыйны крызіс. **«Свет ушчыльную падыходзіць да новага тура рэволюцый і войн»** (XIII пленум ВККІ).

Да крайнасці абвостраныя супярэчнасці паміж капіталістычнымі краінамі ствараюць глебу для ваенных канфліктаў і **«паставілі на чаргу вайну, як сродак новага перадзелу свету і сфер уплыву» (Сталін).** Адначасова з эканамічнай вайной ідзе шалёная гонка ўзбраенняў капіталістычных краін, ліхаманкавая падрыхтоўка новых войн. Рэзка абвастрылася барацьба паміж імперыялістамі за ўплыў у басейне Ціхага акіяна і т. д. Гэтыя краіны ўзмоцнена абганяюць адна другую ва ўзбраеннях, спаборнічаюць на колькасць ваенных суднаў, гармат; рэзка ўзраслі размеры ваенных бюджэтаў, не гледзячы на цяжкае і без таго фінансавае становішча і вялікі падатковы цяжар на працоўных.

Арганізуючы новую сусветную бойню, імперыялісты ў першую чаргу свае ўзрокі накіроўваюць у бок Совецкага Саюза. Наглыя правакацыі японскага імперыялізма супроць СССР, небывала наглы прызыў германскага фашызма да інтэрвенцыі супроць СССР—усё гэта з усёй яснасцю гаворыць аб спробах імперыялістычных драпежнікаў арганізаваць блок для інтэрвенцыі супроць СССР.

У абстаноўцы жорсткага крызіса пануючыя класы капіталістычных краін прабуюць пры дапамозе адкрытай фашысцкай дыктатуры, пры дапамозе ярага нацыянализма, шавінізма і падрыхтоўкі вайны ў галіне замежнай палітыкі, пры дапамозе жорсткага тэрора і праследванняў рабочага класа, у галіне ўнутраной палітыкі падрыхтаваць капіталістычны тыл будучых ваенных франтоў. Дарогу ваяўнічаму фашызму расчысціла міжнародная соцыял-дэмакратыя. Але фашызм—гэта адзнака слабасці імперыялізма. У той-жа самы час усё больш нарастае рэволюцыйнае абурэнне працоўных мас і гатоўнасць пайсці за Комінтэрнам, за сваімі компартыямі, на звяржэнне невыноснага ўціску эксплаататараў і на ўстанаўленне совецкай улады ў сваіх краінах, на падтрыманне працоўных СССР у іх барацьбе супроць капіталістычных драпежнікаў.

**Працоўныя вялікага СССР непакояцца ў першую чаргу за свае далёкаўсходнія граніцы, над якімі з асаблівай сілай навісла рэальная пагроза нападу японскіх імперыялістаў.** Японскі імперыялізм першым уступіў на шлях шукання выхаду з крызіса пры дапамозе ваенных авантур. На захвачаных кітайскіх тэрыторыях падрыхтоўваецца плацдарм для нападу на СССР. Паўтараста тысяч салдат, многа ваеннай тэхнікі ўтрымліваюць японцы ў Паўночным Кі-

таі, рыхтуючы шырокае наступленне супроць СССР. І калі да гэтага часу там не выбухнула вайна, то ў гэтым заслуга мудрага кіраўніцтва нашай партыі на чале з любімым правадыром тав. Сталіным, у гэтым заслуга настойлівай мірнай палітыкі, якую вядзе Совецкі Саюз.

Але і на нашых заходніх граніцах становішча рэзка абвастрылася. Мы ведаем, што імперыялістычныя імкненні фашысцкай Германіі накіраваны ў першую чаргу супроць СССР. Мы ведаем, што цэнтрам усіх інтэрвенцыяністкіх імкненняў і планаў супроць СССР з'яўляюцца англійскія цвёрдалобыя. Англійскі імперыялізм, германскі фашызм праводзяць узмоцненую фашызацыю прыбалтыйскіх краін, якія яны намераны скарыстаць як плацдарм для нападу на Совецкі Саюз.

**«У наш час са слабымі не прынята лічыцца—лічацца толькі з моцнымі» (СТАЛІН).** Совецкі Саюз у сваёй цяжкай і складанай барацьбе за мір апіраўся на растучую гаспадарчую і палітычную магутнасць пролетарскай дзяржавы, на маральнае падтрыманне мільёнаў мас рабочага класа ўсіх краін, кроўна зацікаўленага ў захаванні міру, на гераічную Чырвоную армію, гатовую абараняць Совецкую краіну ад любых наскокаў звонку.

**«Сярод бушуючых хваль, эканамічных патрасенняў і ваенна-палітычных катастроф, СССР стаіць асобна, як уцёс, прадаўжаючы сваю справу социялістычнага будаўніцтва і барацьбы за захаванне міру» (СТАЛІН).**

Магутна прагучэў 17 з'езд партыі, абвяшчаючы ўсяму свету трыумф ленінскай партыі, геніяльнага майстра пролетарскай рэволюцыі—тав. Сталіна, практычнага ажыццяўлення тэорыі аб пабудове социялізма ў нашай краіне. У барацьбе з апартуністамі ўсіх масцей вяла наша партыя пад кіраўніцтвам сталёвага Сталіна і вядзе працоўных совецкай краіны ад перамогі да перамогі. Ленінскі план пабудовы социялізма ў сваёй найбольш труднай і рашаючай частцы ўжо выканан. З краіны аграрнай СССР моцна і канчаткова ператварыўся ў краіну індустрыяльную. З краіны дробнай аднаасобнай сельскай гаспадаркі СССР стаў краінай калектыўнай, самай буйнай у свеце механізаванай сельскай гаспадаркі, стаў краінай суцэльнай пісьменнасці, перадавой культурнай краінай. У нас назаўсёды знікла беспрацоўе—біч рабочага класа. Знішчана збяднение вёскі. Мільёны ўчарашніх беднякоў і серадніякоў моцна становяцца на шлях заможнага жыцця. Бурна развіваюцца былыя, найбольш адсталыя царскія калоніі, нацыянальныя акраіны Совецкага Саюза. І ўсё гэта прароблена партыяй за небывала кароткі гістарычны тэрмін. У паспяховай барацьбе з астаткамі разбітага, але яшчэ недабітага класавага ворага перамагае другая пяцігодка, пяцігодка пабудовы бяскласавага социялістычнага грамадства.

**На базе індустрыялізацыі краіны і поспехаў социялізма расла, мацнела і развівалася наша слаўная Рабоча-Сялянская Чырвоная армія—магутная апора дыктатуры пролетарыята.** Большэвіцкая партыя, кіраваўшая баявой падрыхтоўкай пролетарыята да Окцябра, пераможна вёўшая яго на штурм цвярдынь капіталізма; ленінская партыя, арганізаваўшая Чырвоную армію і яе перамогі ў грамадзянскай вайне; ленінская партыя, стварыўшая Чырвоную армію, тэхнічна аснашчоную, класава згуртаваную, прадстаўляючую сабой першакласную армію ў свеце; комуністычная партыя, кіруючая і арганізуючая несакрушальную абарону социялізма,—яна, следуючы заветам Ільіча, пад кіраўніцтвам вялікага Сталіна і яго лепшага саратніка тав. Варашылава, здолее забяспечыць рашучую і быструю перамогу Чырвонай арміі ў недалёкіх надыходзячых баях. У гэтым зарука поспехаў нашай краіны, велізарнейшых поспехаў баявой і палітычнай падрыхтоўкі Чырвонай арміі ў бягучым вучэбным годзе.

Выступаючы на 17 партыйным з'ездзе, тав. Варашылаў, пад непасрэдным кіраўніцтвам якога ствараліся і раслі ўзброеныя сілы нашай краіны, заявіў: **«Мы маем на сёння зусім сучасную, адданую справе социялізма, моцную, словам, добрую армію. Нашы ўзброеныя сілы поўнасцю адпавядаюць узроўню развіцця нашай краіны, ад бурнага росту якой яны не адставалі і не смелі адставаць ні на крок».** Социялістычная індустрыя забяспечыла нашу армію ў вялікай колькасці высока-дасканалай ваеннай тэхнікай. Мы маем зараз у дастатковай колькасці для абароны краіны

сучасныя танкі, артылерыю, авіяцыю, кулямёты, радыё-сродкі, военна-інжынерную маемасць. І калі ў 1929 годзе, як указвае тав. Варашылаў, мы на кожнага чырвонаармейца мелі ў сярэднім 2,6 механічных конскіх сіл, то ў 1930 г. —3,07, то ў 1933 годзе мы маем рост механічных конскіх сіл на кожнага байца да 7,74, чаго няма ні ў адной з капіталістычных армій. Наша армія **«зусім перарадзілася, стаўшы ў адносінах якасці і колькасці ўзбраення, арганізацыйнай структуры і баявой падрыхтоўкі сваіх кадраў як-бы прынцыпова іншай арміяй» (ВАРАШЫЛАЎ).**

Прайшоўшая нядаўна чыстка армейскіх партыйных радоў паказала, што да 16-ай гадавіны Чырвоная армія прыходзіць цесна згуртаванай вакол большэвіцкай партыі, яе ленінскага ЦК, любімага правадыра, ганаровага чырвонаармейца тав. Сталіна, сцэментаваным перадавым атрадам нашай партыі, дысцыплінаванай, маналітнай армейскай партарганізацыяй, любімай і класава згуртаванай сям'ёй начсклада і байцоў, моцнай сваёй жалезнай дысцыплінай і палітычнай свядомасцю, дасканала ўладаючай баявой тэхнікай. Перамогі Чырвонай арміі—гэта перамогі генеральнай лініі нашай партыі.

І зараз, пад знакам барацьбы за выкананне ўказанняў правадыра, за выкананне рашэнняў 17 партыйнага з'езда, з дапамогай і пры падтрыманні пралетарыята і калгаснікаў, цесна звязаная з імі, цвёрда і няўхільна ідзе Чырвоная армія пад кіраўніцтвам сваіх слаўных камандзіраў і большэвіцкіх партыйных арганізацый да новых перамог у галіне баявой і палітычнай падрыхтоўкі.

Перад рэальнай пагрозай нападу на Совецкі Саюз Чырвоная армія, маючы на чале загартаваных у баях Сталіна і Варашылава, маючы на чале большэвікоў-камандзіраў, моцныя, маналітныя партыйныя арганізацыі, здолее нанесці апошні сакрушальны ўдар па ўсіх ворагах соцыялізма, і **«тыя, якія паспрабуюць напасці на нашу краіну, атрымаюць сакрушальны адпор, каб і надалей непаваднa было ім соваць сваё свіное рыла ў наш совецкі агарод» (СТАЛІН).**

«Вайна супроць СССР... будзе самая небяспечная для капіталістаў не толькі таму, што народы СССР будуць біцца на смерць за рэвалюцыю..., але і таму, што вайна будзе адбывацца не толькі на франтах, але і ў тыле ў буржуазіі».

**Уся совецкая краіна павінна ўзмоцнена і напружана рыхтавацца да абароны сваіх граніц.** Кожны ўдарнік-рабочы, кожны ўдарнік-калгаснік, змагаючыся пабольшэвіцку за выкананне промфінплана свайго прадпрыемства, за высокую прадукцыйнасць працы, за ўзорную працоўную дысцыпліну, за высокую якасць прадукцыі, за высокую ўраджайнасць соцыялістычных палёў, гэтым самым умацоўвае несакрушальную абарону соцыялістычнай бацькаўшчыны. Арганізаваныя ў Асоавіяхім працоўныя Совецкага Саюза рыхтуюцца да ўмелай і арганізаванай абароны і да адпору капіталістам. У радах Асоавіяхіма, у гуртках ПВА, ліквідуючы сваю ваенную няграматнасць, працоўныя рыхтуюцца да актыўнага адбіцця налётаў ворага. На ваенна-вучэбных пунктах, у школах, клубах, у лагерах Асоавіяхіма, у нізавых арганізацыях Асоавіяхіма кожны працоўны павінен умацоўваць сваю ваенную падрыхтоўку і на справе змагацца за тое, каб яго завод, фабрыка, МТС, калгас і соўгас былі-б варты ганаровай назвы «крэпасці абароны».

Развіваць фізічную культуру, актыўна дапамагаць прызыўной кампаніі, каб у Чырвоную армію трапілі сапраўды класава-вытрыманыя, граматныя ў палітычных і агульнаасветных адносінах, добрыя фізкультурнікі, ударнікі-прызыўнікі.

**Яшчэ больш умацоўваць цесную згуртаванасць працоўных нашай краіны з Чырвонай арміяй, паляпшаць работу комсамола па яго шэфству над морскім і паветраным флотам—такава задача працоўных у дзень гадавіны Чырвонай арміі.**

Тав. Варашылаў сказаў: «Пад кіраўніцтвам Цэнтральнага Камітэта нашай партыі, пад выпрабаваным у рашаючых баях за магутнасць партыі, за большэвіцкую пяцігодку кіраўніцтвам тав. Сталіна, чалавека, які ўсё сваё жыццё, усе свае сілы і энергію аддае самаахвярна справе соцыялізма, чалавека, паленінску кіруючага партыяй Леніна, пад яго вадзіцельствам цвёрдым большэвіцкім крокам, стройнымі радамі наперад, да новых і новых перамог».

**«Зніклі старыя знатныя фігуры кулака-эксплаататара, ліхвяра-крывасмока, купца-спекулянта, бацюшкі-ўрадніка. Цяпер знатнымі людзьмі з'яўляюцца дзеячы калгасаў і соўгасаў, школ і клубаў, старшыя трактарысты ды камбайнеры, брыгадзіры па паляводству і жывёлагадоўлі, лепшыя ўдарнікі і ўдарніцы калгасных палёў».**

**СТАЛІН, з прамовы на XVII з'ездзе ВКП(б).**

**ЮР. ТАКАРЧУК**

# НАСУСТРАЧ ВЕСНАВОЙ СЯЎБЕ

Мы стаім на парозе адказнейшага перыяда сельска-гаспадарчых работ—веснавой сяўбы.

Тав. **Сталін** у сваім справаздачным дакладзе XVII з'езду партыі аб рабоце ЦК ВКП(б) гаварыў:

> **«Адной з чарговых задач сельскай гаспадаркі з'яўляецца ўвядзенне правільных севазваротаў, пашырэнне чыстых папараў, паляпшэнне насеннай справы па ўсіх галінах земляробства».**

У гэтых словах—ясная, канкрэтная праграма работы для ўсіх партарганізацый, для ўсяго нашага друку. Раённы друк, аднак, яшчэ не ўхапіўся з усёй энергіяй, з усёй сілай за гэтыя рашаючыя звенні.

Вазьміце такое асноўнае пытанне для далейшага пад'ёму калгаснай вытворчасці, як увядзенне правільных севазваротаў.

Буржуазна-нацыяналістычныя элементы, нявыкрытыя прышчэпаўцы, пралезшыя ў зямельныя органы, не шкадавалі сваіх сіл, каб заблытаць гэту справу, парушыць севазвароты, разбурыць устойлівае землякарыстанне калгасаў і нанесці такім чынам удар па калгаснай вытворчасці. Яны, напрыклад, уводзілі так званыя «закрытыя севазвароты», накіраваныя сваім лёзам супроць арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў. Закрытыя севазвароты» вялі да фактычнага захавання хутарской сістэмы, закрывалі шлях да далейшага развіцця калгаснай вытворчасці, выключалі ўсякую магчымасць новага калгаснага прыліву.

Раённы друк не здолеў своечасова выкрыць гэты новы манеўр класавага ворага, не сігналізаваў аб буйнейшых скажэннях, аб фактах прышчэпаўскакандрацьеўскай практыкі ў пытаннях увядзэння севазваротаў.

Дзе карэнні такога становішча? Перш за ўсё ў тым, што нашы раённыя газеты яшчэ не ўваходзяць ва ўсе дэталі калгаснай вытворчасці, плаваючы ў моры агульных фраз, агульных лозунгаў і разважанняў.

У любой раённай газеце вы знойдзеце даволі рознастайных гучных аншлагаў, заклікаючых да ўвядзення правільных севазваротаў.

**А што такое правільныя севазвароты, як яны ўводзяцца ў даным раёне,** калгасе, як выпраўляюцца парушэнні севазваротаў,—аб гэтым самым важным. самым асноўным, рашаючым—як правіла — ні слова, ні радка.

Быў у гогалеўскага Чычыкава вядомы фурман, які чытаў кнігі толькі таму, што з паасобных літараў выходзілі новыя словы. Змест-жа кніг, сэнс гэтых слоў яго ніколькі не цікавілі і ён нават і не жадаў хоць трошкі разабрацца ў тым, што чытае ўласнымі вачыма.

Ці не нагадвае газета, якая піша аб карэнных пытаннях калгаснай вытворчасці толькі ў самых агульных тонах, не ўмеючы, або проста не жадаючы ўвайсці ў сутнасць справы, славутага гогалеўскага героя?

Пісаць не толькі для таго, каб пісаць, пісаць, **каб кожнае слова ўздымала жыццёвыя пытанні калгаснай вытворчасці,** каб кожным радком паказваць калгасніку, што трэба рабіць, каб выкрываць малейшую вылазку замаскаванага ворага, каб дабівацца канкрэтных

большэвіцкіх вынікаў,—вось у чым сутнасць справы.

А ў нас на старонках раённага друку, на жаль, яшчэ і зараз пасля ўсіх урокаў, звязаных са шкодніцтвам класава-варожых, буржуазна-нацыяналістычных элементаў у сельскай гаспадарцы, даволі часта пераважае чэсная балбатня замест чэснай арганізатарскай работы.

Укажам для ілюстрацыі на смалявіцкую раённую газету **«Шлях калектывізацыі»**.

Ці займаецца яна сваёй непасрэднай справай—пытаннямі севазваротаў у калгасах Смалявіцкага раёна? Ці праверыла яна, як ліквідуюцца астаткі нацдэмаўска-прышчэпаўскай практыкі ў галіне калгаснага землекарыстання, як выпраўляюцца памылкі, звязаныя з увядзеннем «закрытых севазваротаў», адным словам, як стаіць справа з гэтай важнейшай справай у калгасах раёна? Вясна-ж на парозе.

Нічога не знойдзеш аб гэтых пытаннях на старонках смалявіцкай газеты. Цішыня, поўны спакой. У лепшым выпадку—калекцыя агульных лозунгаў, заклікаючых «пабольшэвіцку падрыхтавацца да сяўбы яравых». І хіба смалявіцкая газета—выключэнне?

З балбатнёй, з алілуйшчынай трэба пакончыць раз і назаўсёды! Пытанні севазваротаў павінны заняць пастаяннае месца ў кожнай раённай газеце.

Трэба ва што-б там ні стала дабіцца, каб сяўба яравых была праведзена ў межах цвёрда ўстаноўленых правільных севазваротаў. Раённыя газеты павінны са дня ў дзень сачыць, як на справе, на практыцы вырашаецца гэта справа, як зямельныя органы кіруюць увядзеннем севазваротаў і т. д. Чаму-б той ці іншай газеце не склікаць нараду майстраў калгаснай вытворчасці—старшынь калгасаў і брыгадзіраў, работнікаў земаддзелаў і спецыялістаў, прысвечаную пытанням севазваротаў? Чаму-б не ўзяць адзін калгас і шырока паказаць, як у ім вырашана справа з увядзеннем севазваротаў, выкрыць памылкі, паказаць шлях да іх выпраўлення, папулярызаваць лепшы вопыт, практыку лепшай вытворчай брыгады.

Не менш адказнай, рашаючай справай з'яўляецца **насенне.** У чым асноўны недахоп, характэрны для раённага друку ў яго барацьбе за падрыхтоўку насення да сяўбы? Усё ў той-жа агульнасці, усё ў той-жа неканкрэтнасці, у няўменні ўхапіцца і ўхапіцца моцна, з усёй сілай за аснову, увайсці ў самую сутнасць справы.

Ссыпка насенфондаў зусім не азначае, што справа скончана, што задача выканана. Далёка не. Мала ссыпаць насенне. Трэба сістэматычна правяраць, як яно ахоўваецца, трэба забяспечыць яго найлепшую якасць.

Вазьміце такое жыццёва-неабходнае пытанне агратэхнікі, як праверка насення на ўсходжасць. Мы прагледзілі цэлы рад раённых газет—(Рагачоў, Бягомль, Смалявічы, Мазыр і т. д.). І вось, хоць праверка на ўсходжасць і вырашае лёс ураджаю, аб гэтым важнейшым пытанні ў адзначаных газетах—ні радка.

**Забяспечыць праверку насення на ўсходжасць, яго поўную захаванасць і найлепшую гатунковасць у адпаведнасці з глебавымі і кліматычнымі ўмовамі данага раёна—вось у чым задача,** вось у чым найпершы абавязак кожнай раённай, кожнай палітаддзельскай газеты.

Другая большэвіцкая сяўба другой соцыялістычнай пяцігодкі павінна быць праведзена на вышэйшы навейшых дасягненняў агратэхнікі. Ізноў трэба яшчэ і яшчэ раз папярэдзіць супроць агульнасці, неканкрэтнасці ў рабоце газеты па гэтаму пытанню. Кожны ўчастак агратэхнікі, будзь то насенная справа, або мінеральныя ўгнаенні, будзь то севазвароты, або ворыва, трэба асвятляць з максімальнай канкрэтнасцю, глыбока ўваходзячы ў самую аснову, у самую сутнасць справы.

Наўрад ці знойдзеце такую газету, такога работніка раённага друку, які-б не разумеў усёй выключнай важнасці ўгнаенняў для справы павышэння ўраджайнасці соўгасных і калгасных палёў. Але вельмі трудна знайсці такую газету, дзе-б гэта пытанне было пастаўлена шырока, канкрэтна, умела, дзе-б адчувалася штодзённая барацьба за паспяховае вырашэнне праблемы ўгнаенняў.

Гэта праблема заключаецца не ў тым, дзе здабыць угнаенні. Яны ёсць. Недахват штучных угнаенняў у тым ці іншым раёне можна заўсёды (і трэба абавязкова) папаўняць натуральнымі. Задача заключаецца ў тым, каб з максімальнейшай эфектыўнасцю скарыстаць кожную тону, кожны кілограм угнаенняў, каб угнаенні не ляжалі на складах, а былі перакінуты на палі. Тав. Сталін у сваім дакладзе на XVII з'ездзе нашай партыі ўказваў:

**«Угнаенне ёсць, але органы Наркамзема не ўмеюць іх прымаць, а прыняўшы, не праяўляюць клопатаў аб тым, каб своечасова даставіць іх на месца і рацыянальна іх скарыстаць».**

Гэты зусім справядлівы папрок павінен быць адрасаваны не толькі зямельным органам, але і раённаму друку. Кожная раённая газета абавязана сістэматычна асвятляць гэту справу, сачыць за максімальна-хуткай дастаўкай ўгнаенняў і за іх максімальна рацыянальным выкарыстаннем.

Наступнае важнейшае пытанне — пад'ём жывёлагадоўлі. Тав. Сталін выразна падкрэсліў усю важнасць, усё рашаючае значэнне гэтага пытання. Пад'ём жывёлагадоўлі кроўна звязан з паспяховым правядзеннем веснавой сяўбы. Шкоднай памылкай з'яўляецца характэрны для многіх газет механічны адрыў пытанняў жывёлагадоўлі ад пытанняў падрыхтоўкі да сяўбы. Кожная газета абавязана загадзя праверыць якасць ссыпаных фондаў насення кармовых траў, загадзя паставіць і практычна вырашыць дапамогай і пры непасрэдным удзеле зямельных арганізацый пытанні аб пасеўным плане, аб адводзе адпаведных зямель пад кармовыя культуры і т. д.

Мы спыняемся толькі на чатырох пытаннях падрыхтоўкі да сяўбы—севазвароты, насенная справа, угнаенні і кармовыя культуры. І робім гэта таму, што якраз гэтыя пытанні найбольш ігнаруюцца раённым друкам. Не аслабляючы, а яшчэ больш узмацніўшы барацьбу за своечасовы рамонт трактарнага і машыннага парка, за здаровага каня, за бальшэвіцкую арганізацыю працы ў брыгадзе, раённы і палітаддзельскі друк абавязан аддаць самую сур'ёзную штодзённую ўвагу і гэтым важнейшым пытанням.





Помнік Уладзіміру Ільічу Леніну ў Менску, каля Дома Ураду.

«Лічыць абавязковым перадрукоўванне агляду «Звязды» і журнала «Большэвіцкі друк» у газетах, рабоце якіх агляды прысвечаны». (З паст. ЦК КП(б)Б).

# ГАЗЕТА, У ЯКОЙ ТРЭБА ВУЧЫЦЦА


Большэвіцкі сцяг
№ 2 1934
2 студзеня
Орган палітаддзела Дзяржынскай М. Т. С.

## У ЦЕСНАЙ СУВЯЗІ З МАСАМІ

Газета **«Большэвіцкі сцяг»**—орган палітаддзела **Дзяржынскай МТС** — пачала выходзіць з 12 лістапада 1933 г. Размер яе—адзін невялікі лісток. Аднак, у газеты Дзяржынскай МТС ужо зараз можна многаму павучыцца іншым газетам. «Большэвіцкі сцяг»—газета ініцыятыўная і масавая, яна робіцца рукамі калгаснікаў-ударнікаў. На старонках газеты пераважна выступаюць майстры калгаснай зямлі—брыгадзіры, паляводы, калгаснікі і калгасніцы-ўдарніцы, рэдкалегіі калгасных і брыгадных насценгазет.

З першых дзён існавання газета асноўную сваю ўвагу звярнула на выяўленне і згуртаванне вакол сябе, вакол палітаддзела моцнага рабселькораўскага актыва, на моцную сувязь з рэдкалегіямі насценгазет і рабселькорамі. Гэта работа праводзілася не абязлічана. Рэдактар газеты «Большэвіцкі сцяг» т. **Раткевіч** і іншыя работнікі палітаддзела выяўлялі будучых актыўных селькораў палітаддзельскай газеты непасрэдна ў калгасах і брыгадах, правяралі твар кожнага селькора, правяралі іх на практычнай рабоце ў калгасе.

Другім спосабам прыцягнення лепшых калгаснікаў і калгасніц—ударнікаў да ўдзелу ў палітаддзельскай газеце былі шматлікія масавыя мерапрыемствы, за правядзенне якіх газета ўзялася з першых-жа дзён.

У кожным нумары газеты змяшчаецца многа рэйдавага матэрыяла, карэспандэнцыі селькораўскіх брыгад.

Апрача таго, важнейшай умовай, якая забяспечыла газеце Дзяржынскай МТС масавы ўдзел рабселькораў, з'яўляецца добра наладжанае **хуткае і выразнае рэагаванне** на селькораўскія допісы і лісты працоўных. Прыклад рэагавання паказваюць работнікі палітаддзела. Сёння, напрыклад, выходзіць нумар «Большэвіцкага сцяга», у якім надрукавана заметка аб прарывах у такім-то калгасе, і **сёння-ж** выязджае адзін з работнікаў палітаддзела ў гэты калгас і прымае па матэрыялах заметкі адпаведныя меры. У № 2 «Большэвіцкага сцяга» была змешчана карэспандэнцыя аб тым, што ў калгасе «Новы мір» празмерна вялікія прысядзібныя ўчасткі. І ў дзень выхаду газеты вечарам у калгасе ўжо адбываўся сход, на парадку дня якога стаяла абгаварэнне допіса **«Аб кулацкіх сядзібах у «Новым міры»**. Дзейнасць праўлення была асуджана. Калгаснікі пастанавілі абрэзаць сядзібы. Назаўтра быў выклікан каморнік і справа аб сядзібных участках была хутка вырашана.

Каб лепш абслужыць калгасніка беларуса і паляка на зразумелай для іх мове, газета **«Большэвіцкі сцяг»** выходзіць на **беларускай і польскай мовах.**

У значнай частцы калгасаў раёна дзейнасці МТС арганізаваны калгасныя насценгазеты і брыгадныя штодзенкі. І ў гэтым выключная заслуга «Большэвіцкага сцяга», работнікаў палітаддзела. Зараз палітаддзел разам са сваёй газетай паставілі задачу дабіцца хуткага і поўнага рэагавання на ўсе заметкі, што змяшчаюцца ў **насценных** газетах. Па ініцыятыве «Большэвіцкага сцяга» зараз ва ўсіх калгасах, абслугоўваемых МТС, уведзена абгаварэнне заметак, змешчаных як у палітаддзельскай газеце, так і ў насценгазетах, на агульных сходах калгаснікаў і вытворчых нарадах.

## ЭСТАФЕТА «ЗА ЗДАРОВАГА КАЛГАСНАГА КАНЯ»

Адным з важнейшых масава-апэратыўных мерапрыемстваў, праведзеных газетай «Большэвіцкі сцяг», з'яўляецца эстафета «За здаровага калгаснага каня». Эстафета праводзілася ў парадку падрыхтоўкі да XVII з'езда ВКП(б) і пачалася за месяц да адкрыцця з'езда. Старт эстафеты быў дан у чырвонасцяж

ным калгасе «Звязда» Станькаўскага сельсовета. Комсамольцы сумесна з рэдкалегіяй калгаснай насценгазеты «Звязда» першымі ў раёне ўключыліся ў паход за падрыхтоўку здаровага каня да веснавой пасеўнай кампаніі. Спачатку рэдкалегія насценгазеты і селькоры правялі **масавы рэйд** па брыгадах і стайнях і праверылі становішча догляду коняй. У часе рэйда выявілася многа фактаў нядбайных адносін конюхаў да сваёй работы. Выявілі многа брудных коняй. Як толькі скончыўся рэйд, адразу была склікана вытворчая нарада калгаснікаў. Усе выяўленыя рэйдам факты селькоры паставілі на абгаварэнне нарады. Тут-жа былі прыняты меры да знішчэння выяўленых агіднасцяй і да паляпшэння догляду коняй. Усе конюхі абвясцілі сябе ўдарнікамі, уключыліся ў эстафету і заключылі паміж сабой дагавары на спаборніцтва.

Праз дэкаду селькоры праверылі, як выконваюцца самаабавязацельствы конюхаў. Вынікі аказаліся добрымі. Не было знойдзена ні аднаго бруднага каня, значна палепшылася кармленне. Гэтым быў завершан першы этап эстафеты ў калгасе «Звязда». Але на гэтым пачатая справа не спынілася.

На сходзе калгаснікаў былі падведзены вынікі першага этапа эстафеты, а таксама намечаны мерапрыемствы па далейшаму паляпшэнню догляду коняй. Асобна было абгаворана пытанне аб доглядзе жаробных кабыл і гадоўлі жарабят. Калі ўся гэта работа была скончана, калгаснікі парашылі перадаць эстафету суседняму калгасу імя Тэльмана. На агульным сходзе калгаснікаў калгаса імя Тэльмана адбылася перадача эстафеты. Брыгада лепшых конюхаў і селькораў з калгаса «Звязда» расказала аб добрых выніках, якія дало правядзенне эстафеты ў калгасе «Звязда». Калгас імя Тэльмана прыняў эстафету. На гэтым-жа сходзе быў заключан дагавор паміж калгасамі на спаборніцтва на лепшую пастаноўку догляду коняй.

Такім чынам на працягу прыблізна адной дэкады ўсе калгасы Станькаўскага сельсовета былі ахоплены эстафетай. Для падвядзення вынікаў эстафеты палітаддзелам быў склікан злёт усіх удзельнікаў рэйдаў з усіх калгасаў сельсовета. Удзельнікі злёта ў сваіх выступленнях расказалі пра паляпшэнне догляду коняй, якое атрымана за час эстафеты. Найбольш важныя выступленні змешчаны ў газеце «Большэвіцкі сцяг», якая сістэматычна асвятляла ход эстафеты. Вось адно з характэрных выступленняў на злёце—выступленне брыгадзіра калгаса імя Тэльмана т. **Булгака.**

**«Нашы комсамольцы і селькоры хутка адгукнуліся на заклік «звяздоўцаў». Калі гаварыць аб конях, то ў выніку эстафеты мы маем наступнае: кожны конь прымацован да калгасніка. Цяпер у нас заведзен улік усіх жаробных кабыл. Я сёння ўжо ведаю, што ў брыгадзе № 1 ёсць шэсць жаробных кабыл, у брыгадзе № 2—дзве, у трэцяй брыгадзе—таксама дзве і ў чацвертай —адна. Яны ўзяты пад наш спецыяльны нагляд. Штодзенна мы правяраем, як выконваюцца правілы догляда жаробных кабыл.**

**Да рэйда ў стайні гуляў вецер. Цяпер-жа аж міла зайсці ў нашу стайню: цёпла і чыста. Да эстафеты быў конюхам Берасценка. Мы выявілі, што ён стопроцантны шкоднік. Берасценка быў заменен. На яго месца стаў прыкладны калгаснік-комсамолец».**

У часе правядзення эстафеты былі выяўлены не толькі факты дрэннага, нядбайнага догляду коняй, не толькі выкрыты шкоднікі, якія яшчэ захаваліся на калгасных стайнях, эстафета выявіла і многа прыкладных, сумленных брыгадзіраў і конюхаў, выявіла калгасы, дзе догляд коняй знаходзіцца на вышыні. Гэтыя добрыя прыклады газета палітаддзела зрабіла агульным здабыткам усіх сваіх чытачоў, усіх калгасаў.

У нумары 9 газеты «Большэвіцкі сцяг» ад 15 студзеня выступіў адзін з лепшых ударнікаў эстафеты селькор Карачун, які працуе старшым конюхам у калгасе «Чырвоны баец». Вось што ён расказвае ў сваёй заметцы:

**«У нас ёсць племянны жарабец «Дэраш». Ён хварэў амаль цэлы год. Ветэрынарныя дактары адмаўляліся яго лячыць. Аднак, я не мог згадзіцца з думкай аб прапажы маладога жарабца. І настойлівасць нашых ударнікаў перамагла. Уласнымі сіламі мы вылечылі жарабца. Зараз «Дэраш» зусім здаровы. Яго трудна ўтрымаць на месцы. А цана яму некалькі тысяч рублёў».**

За свае адданыя адносіны да коняй ударнік—конюх Алесь Карачун атрымаў прэмію ў суме 100 руб.

Або возьмем **Казея Івана** старшага конюха брыгады № 2 калгаса, які ў часе эстафеты вылечыў хворыя капыты ў двух коняй. Ён таксама прэміраван.

На злёце ўдзельнікаў эстафеты Дабрынёўскага сельсовета пры непасрэдным удзеле начальніка палітаддзела тав. Кроля былі падведзены вынікі праробленай работы па паляпшэнню дагляду коняй. Прысутнічала звыш 400 дэлегатаў, сярод іх былі ўсе лепшыя конюхі, брыгадзіры, рэдкалегіі насценных газет, селькоры-ўдарнікі. Работа гэтага злёта ярка падана ў № 9 «Большэвіцкага сцяга».

**«Каго злёт ганьбіць як ворагаў калгаснага каня»—**

такая шапка надрукавана ў газеце над матэрыяламі пра злёт. Тут-жа газета адказвае на пытанне, пастаўленае ў шапцы:

> **«Па калгасу «Чырвоны баец»—Гаеўскага. Ён па-варварску адносіўся да прымацаваных да яго коняй. Гаеўскі кідаў на ўсю ноч коні і сыходзіў з канюшні.**
>
> **Па калгасу «Ўдарнік прамысловасці» —Жукоўскага. Гэты шкоднік пакуль з'ездзіў у г. Дзержынск, зусім загнаў каня. Конь доўга хварэў і за дзень перад злётам здох».**

Так выразна і коратка газета палітаддзела выводзіць на чыстую ваду нядбайнікаў і прамых шкоднікаў, якія імкнуцца падарваць становішча конскага пагалоўя. З усёй сілай яна абрушваецца на тых конюхаў, якія не чысцяць коняй, дрэнна кормяць іх.

У вогуле трэба сказаць, што праведзеная па калгасах Дзержынскай МТС у гонар 17 з'езда ВКП(б) эстафета «За здаровага калгаснага каня» ўжо дала значныя вынікі. Догляд коняй у пераважнай колькасці калгасаў значна палепшыўся. Але гэта не павінна супакойваць газету «Большэвіцкі сцяг». Яе задача—дапамагчы палітаддзелу канчаткова вытруціць элементы варварскіх, нядбайных і шкодніцкіх адносін да калгаснага каня і дабіцца, каб кожны калгас, які абслугоўваецца МТС, сустрэў вясну з моцнымі, здаровымі і сытымі коньмі.

## СЕЛЬКОРЫ ШЭФСТВУЮЦЬ НАД НАСЕННЕМ.

Газета «Большэвіцкі сцяг» арганізавала яшчэ адно важнае мерапрыемства ў галіне падрыхтоўкі да веснавой сяўбы—шэфства селькораў і насценгазет над насеннем.

Першым выступіла па гэтаму пытанню на старонках палітаддзельскай газеты **рэдкалегія насценгазеты калгаса імя Карла Маркса, Ляхавіцкага сельсовета.** У сваім лісце рэдкалегія расказвае аб праведзенай ёю рабоце па захаванню насеннага фонда:

> **«Наша насценгазета, удзельнічаючы ў падрыхтоўцы да з'ездаў партыі, нядаўна разам з участковым аграномам і пры дапамозе комсамольскай ячэйкі правяла праверку, як захоўваюцца насенныя і страхавыя фонды ў нашым калгасе.**
>
> **У калгасе дрэнна была пастаўлена ахова свірнаў. Усё гэта прымусіла нас не толькі асвятліць гэту справу ў насценгазеце, але і вынесці пытанне на агульны сход калгаснікаў і мабілізаваць увагу на паляпшэнне аховы насення. Вартаўнік быў знят з працы.**
>
> **Дабіўшыся гэтага, рэдкалегія прышла да вываду, што адна праверка яшчэ не забяспечвае добрага захавання насення да вясны, што неабходзен сістэматычны кантроль над становішчам насенфондаў. У сувязі з гэтым наша насценгазета ўзяла шэфства над захаваннем насенфондаў. Што гэта азначае? Гэта азначае, што мы, рэдкалегія, абавязваемся сістэматычна правяраць становішча свірнаў, арганізаваць праверку на гатунковае насенне і інш».**

У заключэнне рэдкалегія насценгазеты калгаса імя Карла Маркса заклікала ўсе рэдкалегіі і селькораў раёна дзейнасці МТС паследаваць іх прыкладу і ўзяць у кожным калгасе шэфства над насеннем. Газета «Большэвіцкі сцяг» з нумара ў нумар прапагандуе гэты надзвычай каштоўны пачын. Ужо ў № 9 змешчаны водгук на ліст карла-марксаўцаў. Уключалася ў шэфства над насеннем рэдкалегія і селькоры калгаса «Чырвоныя Пенкавічы». Па ініцыятыве шэфаў-селькораў калгас абмяняў ужо 10 цэнтн. свайго насеннага ячменю на гатунковы.

Узялі шэфства над насеннем і рэдкалегіі калгасаў «Чырвоная ніва», «Чырвоны кут» і інш. З кожным днём шэфства набывае ўсё большы размах. 24 студзеня ў Ляхавіцкім сельсовеце адбыўся **злёт усіх рэдкалегій насценгазет і селькораў сельсовета.** Падведзены першыя вынікі работы па шэфству. Каштоўны пачын селькораў калгаса імя Карла Маркса поўнасцю сябе апраўдаў.

Наколькі важна работа газеты «Большэвіцкі сцяг» па арганізацыі шэфства селькораў і насценгазет над насеннем, сведчыць і тое, што палітаддзел МТС цалкам ухваліў гэта мерапрыемства і ў бліжэйшыя дні ва ўсіх калгасах раёна дзейнасці МТС праводзіцца масавы палітдзень спецыяльна па пытанню сельскораўскага шэфства над калгасным насеннем.

На старонках апошніх нумароў «Большэвіцкага сцяга» пачата пераклічка перадавых калгаснікаў па пытанню, як яны змагаюцца за заможнае і культурнае жыццё. З трыбуны газеты палітаддзела выступаюць лепшыя з лепшых ударнікі-калгаснікі, расказваюць, якіх поспехаў дабіліся іх калгасы пад кіраўніцтвам палітаддзела, як узняўся жыццёвы і культурны ўзровень сумленных калгаснікаў. Так на працягу апошняга часу ў газеце выступілі прадстаўнікі перадавых калгасаў «Інтэрнацыянал», «Чырвоная ніва», «Прабуджэнне» і інш. «Большэвіцкі сцяг» паказ дасягненняў перадавых калгасаў цесна **ўвязвае з ходам падрыхтоўкі да надыходзячай веснавой сяўбы.**

З усяго сказанага вышэй ярка відаць, якую вялікую ўвагу «Большэвіцкі сцяг» і на сваіх старонках і ў масавай рабоце аддае баявой падрыхтоўцы калгасаў да веснавой сяўбы. Заслуга газеты ў тым, што яна знайшла важнейшыя звенні ў гэтай падрыхтоўцы (коні, насенне) і на іх сканцэнтравала сваю галоўную ўвагу. Праўда, газета яшчэ недастаткова на сваіх старонках падняла праблему ўгнаення, увядзення севазваротаў і т. д. Гэтыя безумоўна буйнейшыя пытанні павінны быць пастаўлены на старонках газеты.

Іменна ад таго, як будзе ў калгасах **УЖО ЗАРАЗ, НЕАДКЛАДНА** разгорнута работа да вясны, ад якасці гэтай работы залежыць поспех веснавой сяўбы, правядзенне яе ў раннія і найкарацейшыя тэрміны, залежыць будучы ўраджай. Іншыя палітаддзельскія і раённыя газеты павінны вучыцца ў газеты «Большэвіцкі сцяг» таму, як патрэбна цесна **спалучаць пытанні, узнімаемыя на старонках** газеты з шырокай **масавай работай у калгасах і брыгадах, работай з рабселькорамі і насценгазетамі.** Бо гэта—галоўнае.



Жаночыя арганізатары — работнікі палітаддзелаў тт. ВАЛЕНІС (Путчынская МТС), РАСТОЎСКАЯ (Смалявіцкая МТС) і КАМЕНЕЦКАЯ (Большэвіцкая МТС) падпісваюць умову соцспаборніцтва на лепшую падрыхтоўку і правядзенне міжнароднага комуністычнага жаночага дня.

«Значыцца далейшы працэс калектывізацыі прадстаўляе працэс паступовага ўсасвання і перавыхавання астаткаў індывідуальных сялянскіх гаспадарак калгасамі. Гэта значыць, што калгасы перамаглі канчаткова і беспаваротна».

Факты гавораць, што наша совецкае сялянства канчаткова адчаліла ад берагоў капіталізма і пайшло ўперад у саюзе з рабочым класам—да соцыялізма».

СТАЛІН, з прамовы на XVII з'ездзе ВКП(б).

# „СПАЗНІЎСЯ НА ГОД, А СТРАЦІЎ МНОГА“

## КАЛГАСНІК

Большасць калгасаў Совецкай Беларусі з поспехам закончылі гаспадарчы год, падвялі вынікі сваёй ударнай работы. З вялікай увагай сочаць тысячы беднякоў і сераднякоў—аднаасобнікаў за размеркаваннем калгасных даходаў. Яны параўноўваюць вынікі гадавой работы калгаса, даходы сваіх суседзяй - калгаснікаў з вынікамі сваёй работы на аднаасобнай гаспадарцы.

Набліжаецца веснавая сяўба. І гэтыя тысячы працоўных аднаасобнікаў задаюць сабе пытанне — дзе і як сустрэць гэту вясну. Заставацца аднаасобнікамі, ці сустрэць вясну ў дружнай калгаснай сям'і.

Дапамагчы бядняцка-серадняцкім гаспадаркам вырашыць гэта пытанне, дапамагчы ім стаць на калгасны шлях, паказаць перавагу буйнай калектыўнай гаспадаркі — абавязак кожнай раённай газеты. Не палітычнай траскатнёй, не агульнымі словамі трэба паказваць перавагі калектыўнай гаспадаркі, а на канкрэтных фактах, на прыкладах жывых людзей.

Так і зрабіла чырвона-слабодская газета **«Калгаснік»**.

Цяжка жылося бедняку **Сушко Аляксею** на сваёй аднаасобнай гаспадарцы.

**«Хоць у гаспадарцы і мелася тры працаздольных, якія працавалі ад цямна да цямна на вузкіх, раскінутых у многіх мясцах, пустых шнурах зямлі, але канцы з канцамі ніколі не зводзілі.**

**Зямля давала дрэнны ўраджай... Бывала і так, што насенне не варочаў. Ды дзе быць ураджаю на такіх вузенькіх палосках... Дзе там ужо гаварыць аб хлебе, — бульбы заўсёды не хапала. Пра яравыя і гаварыць не прыходзілася. Апошні год сабраў я са свайго поля толькі 6 пудоў ячменю. Аўса зусім ніколі не бачыў»—**

— успамінае Сушко сваё **нядаўняе** горкае жыццё.

Не на многа лепш жылося і яго су-



На насеннай станцыі. Праверка ўсхожасці і выпрабаванне новых сартоў насення.

седу **Коўчуру В. Т.** Як і Сушко, ён біўся на вузенькіх палосках зямлі, як і Сушко, ён не зводзіў канцы з канцамі.

Але год назад шляхі суседзяй разышліся. Год назад арганізаваўся ў вёсцы, дзе жылі Сушко з Коўчурам, калгас «Другая пяцігодка». Вясною 1933 года Сушко ўступіў у калгас. 500 працадзён выпрацаваў ён з сям'ёй да канца гаспадарчага года. І на гэтыя 500 працадзён сям'я Сушко атрымлівае звыш 340 пудоў бульбы, апрача тых 200 пудоў, якія яна сабрала з прысядзібнага ўчастка, звыш 70 пудоў зернавых, 3548 кілаграм кармоў для жывёлы, 16 кгр. ільну (раней ільну Сушко ніколі не меў).

**«Толькі адных яравых (аўса і ячменю) я атрымліваю 34 пуды. Хіба гэта можна параўнаць з тымі 6 пудамі, якія я атрымліваў на аднаасобнай гаспадарцы... Словам, у мяне прадуктаў цяпер ёсць больш, чым мне трэба на сям'ю. Значную частку змагу прадаць і набыць сабе неабходныя рэчы ў хату. Адной бульбы я змагу прадаць 150 пудоў».**

Так піша былы бедняк — цяперашні калгаснік, які разам з усім калгасам цвёрда і ўпэўнена крочыць да заможнага культурнага жыцця, — Сушко Аляксей у рэдакцыю сваёй раённай газеты «Калгаснік». Сушко толькі за 7-8 месяцаў калгаснага жыцця пачаў карыстацца мноствам прадуктаў. Ён ужо пасправляў усім членам сваёй сям'і бацінкі і гарнітуры.

**«Думаю справіць сабе новыя боты і валёнкі, дзецям накупляю паліто... Абавязкова цяпер куплю гадзіннік і найлепшых карцін, партрэтаў праваднікоў, каб прывесці хату ў культурны выгляд. На вясну пасцялю падлогу».**

Газета «Калгаснік» надрукавала гэта пісьмо на сваіх старонках. І як перакануўча гучыць кожны радок гэтага пісьма, як агітуе ён за перавагу калектыўнай гаспадаркі. І яшчэ больш перакон вае ў гэтай перавазе пісьмо суседа Сушко — Коўчура В. Т., якое змешчана ў газеце «Калгаснік» побач з пісьмом Сушко.

Коўчур вясной не ўступіў у калгас. Ён сеяў і ўбіраў ураджай са сваёй аднаасобнай гаспадаркі. Як і калгаснікі калгаса «Другая пяцігодка» ён падвёў зараз вынікі сваёй гадавой работы. І ў сваім пісьме ў рэдакцыю газеты ён піша:

**«Сабраў я са сваіх вузкіх палосак у гэтым годзе не больш 30 пудоў жыта, пудоў 15 яравых — аўса і ячменю разам. Бульбы ўзяў са свайго поля не больш 300 пудоў. Вось вынікі маёй гадавой працы на сваёй аднаасобнай гаспадарцы. А працаваў не дрэнна. Не дасыпаў і не даядаў бывала».**

Ён параўноўвае свой даход з даходам суседа-калгасніка Сушко. Мала таго, што Сушко ў калгасе атрымаў непараўнальна больш чым Коўчур з аднаасобнай гаспадаркі. Коўчур ведае і тое, што

**«Сушко, як кажуць, атрымаў ад калгаса чыстаганам. Яму аднаму не баліць галава за веснавую сяўбу, аб гэтым думае ўвесь калгас, які паспяхова рыхтуецца да веснавой сяўбы, ужо ссыпаў насенныя фонды».**

А Коўчуру з атрыманага ўраджаю трэба і на насенне, і на рамонт інвентара, і на іншыя патрэбы.

**«І што застаецца карысці з маёй аднаасобнай гаспадаркі. СПАЗНІЎСЯ НА ГОД, А СТРАЦІЎ МНОГА. Адсюль я зрабіў просты вывад — ГОДЗЕ ПАКЛАДАЦЬ ПРАЦУ НА АДНААСОБНАЙ ГАСПАДАРЦЫ, ЯКАЯ НЕ АКУПЛЯЕ СЯБЕ».**

Зараз Коўчур уступіў у калгас. З ім разам уступілі ў калгас яшчэ 17 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, якія як і Коўчур, пераканаліся ў тым, што калгасны шлях — адзінаправільны шлях.

Так, на канкрэтных фактах, на прыкладзе жывых людзей чырвона-слабодская газета прапагандуе велізарныя перавагі калектыўнай гаспадаркі. Змяшчэннем гэтых двух пісем «Калгаснік» дапаможа не толькі працоўным аднаасобнікам, акружаючым калгас «Другая пяцігодка», яна дапаможа сотням бядняцка-серадняцкіх аднаасобных гаспадарак цвёрда стаць на калгасны шлях. Трэба толькі, каб гэта каштоўнае пачынанне газеты не засталося адзінокім. Прапаганду калгаснага ладу сельскай гаспадаркі трэба весці штодзенна, сістэматычна. Гэта адносіцца не толькі да чырвона-слабодскай газеты, але і да ўсіх раённых і палітаддзельскіх газет.

«Справу жывёлагадоўлі павінны ўзяць у свае рукі ўся партыя, усе нашы работнікі, партыйныя і беспартыйныя, маючы на ўвазе, што праблема жывёлагадоўлі з'яўляецца цяпер такой-жа першачарговай праблемай, якой была ўчора ўжо вырашаная з поспехам праблема зернавая».

СТАЛІН, з прамовы на XVII з'ездзе ВКП(б).

# ЗАГАВАРЫЦЬ ПОЎНЫМ ГОЛАСАМ

## Палеская праўда

На працягу студзеня—лютага гомельская **«Палеская праўда»** рыхтавалася да раённага злёта соўгасна-калгасных конюхаў і старых будзёншаўцаў, (злёт адкрыўся 4 лютага). Рэгулярна, амаль з нумара ў нумар, газета давала падборкі аб ходзе падрыхтоўкі да злёта, аб становішчы цяглавай сілы ў соўгасах і калгасах. У змяшчаемых матэрыялах газета выкрывае па імёнах і прозвішчах класава-варожыя элементы, якія, прабраўшыся ў стайні калгасаў Прудкоўскага, Карналінскага, Яромінскага, Жгуна-будскага і інш. сельсоветаў, драпежніцкімі адносінамі да коняй і шкодніцтвам імкнуцца знішчыць конскае пагалоўе.

Прыводзячы прыклады страты класавай пільнасці асобнымі кіраўнікамі калгасаў, наяўнасці абязлічкі ў доглядзе і скарыстанні цяглавай сілы, разбазарванія кармоў, «Палеская праўда» робіць правільнае заключэнне, што гарза, МТС, сельсоветы і большасць соўгасаў і калгасаў не разгарнулі сапраўднай бальшэвіцкай барацьбы за развіццё і захаванне конскага пагалоўя.

Адначасова газета, хоць і недастаткова, паказвае і станоўчыя прыклады, заклікаючы адстаючых раўняцца па перадавых.

У нумары ад 2 лютага яна піша:

**«ВУЧЫЦЕСЯ Ў КОНЮХА ХАРХУЛЁВА ЯК ТРЭБА ЗАХОЎВАЦЬ КОНСКАЕ ПАГАЛОЎЕ.**

**Калгас «Комсамол Гомельшчыны», Раманавіцкага сельсовета, шырока разгарнуў работу па падрыхтоўцы да злёта конюхаў.**

**Усе коні добрай упітанасці. Коні знаходзяцца ў добра ацепленых стайнях і сістэматычна чысцяцца.**

**Коні кормяцца па строга-выпрацаванаму распарадку, устаноўлена і норма кармоў для кожнага каня. Старшы конюх Хархулёў заўсёды сам правярае, як закладаецца корм і як наогул выконваецца малодшымі конюхамі данае ім заданне. Збруя да коняй добра падагнана і таму ні адзін конь не мае ніякіх пашкоджанняў.**

Але, праводзячы сістэматычна і аператыўна падрыхтоўку да злёта, «Палеская праўда», на жаль, не пазбегла некалькіх вельмі сур'ёзных недахопаў.

Для кожнага зусім ясна важнасць захавання конскага пагалоўя. Але нашай задачай з'яўляецца не толькі захаванне, але і **развіццё**, г. зн. аднаўленне (воспроизводство) пагалоўя. У сваю чаргу **«аднаўленне конскага пагалоўя патрабуе захавання жаробных матак і асаблівага жарабят і падлеткаў» (ВАРАШЫЛАЎ).** Без гэтага немысліма далейшае павялічэнне пагалоўя.

Гэту задачу таварышы з «Палескай праўды» не зусім зразумелі. Прыводзячы факты драпежніцкіх адносін да жаробных матак, шматлікіх выпадкаў абортаў, газета не абагульвае гэтых фактаў і не высоўвае задачы развіцця пагалоўя, як **галоўнай задачы.** Лічачы галоўным арганізацыю догляду і захавання наяўнага конскага пагалоўя, яна абмяжоўваецца толькі ўказаннем, што

**«калі мы завастраем увагу на важнасці захавання наяўнага конскага пагалоўя, якое на сёнешні дзень грае вялікую ролю ў развіцці сельскай гаспадаркі, то мы ні ў якім выпадку не павінны АБЫЙСЦІ МОЎЧКІ (падкрэслена намі.—Б. Д.) і другую важную справу—прырост конскага пагалоўя. Трэба сказаць, што з гэтым пытаннем справа абстаіць небяспечна».**

Што гэта «за моўчкі», калі справа абстаіць небяспечна і аб ёй трэба гаварыць ва ўвесь голас?

У нумары ад 22 студзеня «Палеская праўда» змясціла абавязацельствы калгаса **імя Будзённага** па развіццю жывёлагадоўлі. На гэтай падставе газета заклікае **«Рыхтаваць моцнага, здаровага каня да сяўбы па прыкладу калгаса імя Будзённага»** і піша, што ў калгасе

> **«...узнімаюць на прынцыповую вышыню павелічэнне конскага пагалоўя. Пачын гэтага калгаса заслугоўвае ўвагі ўсяго раёна».**

Але праз пяць дзён, 27 студзеня, газета паведамляе, што ў калгасе імя Будзённага **не зварачаецца ўвагі на прырост конскага пагалоўя,** што ў ім з наяўных 26 матак няма ніводнай жарэбнай. Значыцца, першы раз калгас дарэмна пахвалілі. Аднак, нікольні не паварожыўшыся, «Палеская праўда» ў перадавым артыкуле ў нумары ад 29 студзеня зноў гаворыць аб «пачыне» калгаса імя Будзённага. Больш чым дзіўна!

Тав. **Варашылаў** у сваім выступленні на з'ездзе адзначыў, што за скарачэнне конскага пагалоўя «...**паміма шкодніцкай дзейнасці контррэволюцыйных элементаў на вёсцы, немалая доля віны ляжыць на работніках сістэмы Наркамзема, якія адзін час добра адносіліся да проста такі шкодніцкай «тэорыі» аб тым, што механізацыя сельскай гаспадаркі, укараненне трактароў і камбайнаў заменіць каня, а ў бліжэйшай будучыні і поўнасцю вызваліць ад неабходнасці скарыстання цягавай сілы ў сельскай гаспадарцы».** Мы ўпэўнены, што гэта ў поўнай меры адносіцца і да зямельных работнікаў Гомельшчыны. Аднак, толькі ў адным выпадку газета прыводзіць прыклад, што кіраўніцтва соўгаса **імя Горкага**

> **«недаацэньвае ролі каня ў паспяховым правядзенні веснавой сяўбы. «Трактар вывезе»—разважаюць адміністратары» («П. П.» ад 4 лютага 1934 г.).**

У «Палескай праўдзе» няма недахвату ў прозвішчах. Ветдоктар **Круглікаў,** старшыня калгаса «Ўдарнік» **Замарэеў,** старшы страхагент **Кушняроў** і інш., па віне якіх у калгасах і аднаасобным сектары знішчаецца конскае пагалоўе, успамінаюцца на старонках газеты не раз. Аднак, дарэмна было-б шукаць хоць адзін радок аб тым, якое пакаранне панеслі злачынцы за шкодніцтва.

У заключэнне адна заўвага. У перадоўцы. прысвечанай адкрыццю злёта і змешчанай у газеце ад 4 лютага, чытаем.

> **«У сваім дакладзе на XVII партыйным з'ездзе тав. Сталін з усёй бальшэвіцкай праматой сказаў, што «ёсць у нас яшчэ два тыпы работнікаў, якія тармозяць нашу работу, перашкаджаюць нашай рабоце і не даюць нам рушыцца наперад». ГЭТЫЯ СЛОВЫ НАШАГА ПРАВАДЫРА МАЮЦЬ НЕПАСРЭДНАЕ ДАЧЫНЕННЕ ДА КІРАЎНІКОЎ І КОНЮХАЎ НЕКАТОРЫХ КАЛГАСАХ, СОЎГАСАЎ І КААПГАСАЎ НАШАГА ГОМЕЛЬСКАГА РАЁНА».**

Для тлумачэння тут-жа прыводзіцца прыклад з калгаса **«Чырвоны хлебароб»,** дзе, з прычыны **«злачынных** адносін да конскага пагалоўя», абартыравала 6 матак, скалечана 9 коняй, а таксама з калгаса **«Ўдарнік»,** дзе памянёным вышэй сынам кулака Замарэевым «**конскае пагалоўе прыведзена да жудаснага становішча».** Раз так, дарагія тт. з «Палескай праўды», то каго з кулакоў і іх агентаў, знішчаючых конскае пагалоўе, вы лічыце «вяльможамі» і каго «сумленнымі балбатунамі», і якія адносіны да тыпаў работнікаў, паказаных тав. Сталіным, маюць яўныя класавыя ворагі—шкоднікі?

Скліканне злётаў калгасных конюхаў —ударнікаў і старых будзённаўцаў і ак тыўны ўдзел у гэтай справе раённага і пізавога друку з'яўляецца **каштоўным мерапрыемствам па мабілізацыі мас на выкананне высунутай тав. Сталіным задачы пад'ёму жывёлагадоўлі.** Таму вельмі важна ўлічыць недахопы ў падрыхтоўцы і правядзенні злётаў.

Трэба сапраўды пабольшэвіцку ўзяцца за развіццё і захаванне конскага пагалоўя. Даючы бязлітасны адпор спробам кулацкага ахвосця перашкодзіць пад'ёму конягадоўлі, рыхтуючы да веснавой сяўбы моцнага калгаснага каня, максімум увагі **развіццю конскага пагалоўя, захаванню і гадоўлі маладняка.** Пабольшэвіцку змагацца за **дзейснасць** матэрыялаў друку, бо на гэтым участку больш чым на ўсякім іншым дзейснасць выражае поспех як правадзімых масавых мерапрыемстваў, так і ўсёй справы пад'ёму жывёлагадоўлі.

СМАЛЕНСКАЯ МТС СКОНЧЫЛА РАМОНТ ТРАКТАРОЎ.



НА ЗДЫМКУ: Лепшыя ўдарнікі рамонта трактароў і прычэпных машын.

# КАБ АДРАМАНТАВАНЫ ТРАКТАР ПРАЦАВАЎ НЕ ГОРШ НОВАГА

**„За тэмпы і якасць“**—газета палітаддзела Слуцкай МТС,
**„Калгаснік Мазыршчыны“**—орган Мазырскага РК КП(б)Б

## СТЫЛЕМ ПАЛІТАДДЗЕЛА

У вытворчы паход за баявую сустрэчу XVII партз'езда большэвіцкімі справамі ўключыліся мільённыя масы рабочых і калгаснікаў Совецкага Саюза.

Дзесяткі перадавых МТМ, уключыўшыся ў гэты паход, паказалі ўзоры сапраўднай барацьбы за своечасовы і добраякасны рамонт трактароў.

Большэвіцкі палітаддзельскі друк з'явіўся магутнай зброяй мабілізацыі мас рабочых МТМ, МТС і калгаснікаў на барацьбу за здаровы трактар.

Наглядны прыклад гэтага паказвае газета **«За тэмпы і якасць»** (палітаддзела **Слуцкай МТС**).

**«Слуцкая МТМ не выканала кастрычніцкага і лістападаўскага плана рамонта трактароў. Замест вызначаных паводле плана 91 трактара за гэтыя два месяцы адрамантавана толькі 27. Каб ліквідаваць прарыў, неабходна за тры дні закончыць абсталяванне МТМ і арганізаваць двухзменную работу».**

Так, ахопленая трывогай за зрыў рамонта, піша газета ў пачатку снежня 1933 г.

Апублікоўваецца паведамленне аб скліканні XVII партыйнага з'езда. Газета арганізуе злёт ударнікаў МТМ. Распрацоўваюцца канкрэтныя мерапрыемствы, каб **«да дня адкрыцця з'езда выканаць 70 проц. плана рамонта».**

«За тэмпы і якасць» зразумела, што нагнаць прапушчанае, прыйсці да з'езда

з перавыкананнем плана з'яўляецца адказнейшай задачай, што прынятыя самаабавязацельствы не могуць быць выкананы ў парадку самацёку. Газета папярэджвае:

> «Уперадзе жорсткая барацьба за своечасовае выкананне прынятых абавязацельстваў. Гэта барацьба ў першую чаргу павінна ісці па шляху наладжання дысцыпліны ў самой МТМ, давядзення заданняў да кожнай брыгады і кожнага рабочага і разгортвання масавай работы ў цэху, каб на прыкладзе лепшых вучыць адстаючых».

Газета не толькі прапагандуе. Яна арганізуе рабочы калектыў і дапамагае яму выканаць узятыя на сябе абавязацельствы. Газета ўваходзіць у дэталі вытворчасці майстэрні і высоўвае канкрэтныя прапановы:

> «Ушчыльніць рабочы дзень за кошт лішніх хаджэнняў за запаснымі часткамі, выпісваць брыгадзіру нарад на запасныя часткі адразу пры складанні дэфектнай ведамасці, наладзіць складскую гаспадарку».

З нумара ў нумар газета правярае і паказвае, як выконваюцца прынятыя самаабавязацельствы кожнай брыгадай, кожным рабочым.

**«Брыгада Барысевіча ідзе ўперадзе»** пад такім загалоўкам «За тэмпы і якасць» у нумары ад 15 снежня паказвае работу перадавой брыгады Барысевіча, якая здолела ліквідаваць сваё адставанне дзякуючы правільнай арганізацыі працы, ушчыльненню рабочага дня, своечасовай падрыхтоўцы запасных частак.

Побач з перадавой брыгадай Барысевіча газета паказвае комсамольскую брыгаду, у якой «абавязацельствы застаюцца на паперы».

> «Пара, т.т. комсамольцы, даўно пара словыператварыць у справу, бо аб вашай працы будуць судзіць не па дэкларацыях, а па таму, наколькі будзе выканан план рамонта».

— так ставіць пытанне газета. У наступным нумары «За тэмпы і якасць» выдзяляе брыгаду **Гілеўскага,** якая з 46 матораў па плану 28 ужо здала, а 8 стаяць гатовымі ў майстэрні. Гэту брыгаду газета абвяшчае кандыдатам на атрыманне пераходнага сцягу палітаддзела і заклікае астатнія брыгады ўзмацніць барацьбу за пераходны сцяг.

Настойлівай упартай барацьбой за здаровы трактар газета палітаддзела забяспечыла рабочым МТМ права рапартаваць Слуцкай райпартканферэнцыі аб выкананні на 1 студзеня плана рамонта трактароў на 42 проц.

Уперадзе яшчэ многа работы. 28 проц. плана трэба выканаць на працягу 25 дзён студзеня, каб стрымаць сваё слова — даць да XVII з'езда ВКП(б) 70 проц. плана.

Вось чаму газета папярэджвае і заклікае рабочых не супакойвацца на дасягнутых зрухах у рабоце МТМ. Вуснамі лепшых ударнікаў газета бязлітасна выкрывае лодыраў і прагульшчыкаў, якія перашкаджаюць рабочаму калектыву выканаць узятыя абавязацельствы:

> «Мы павінны заклейміць ганьбай лодыраў і прагульшчыкаў. Наша брыгада, якая складаецца з 4-х чалавек, выпусціла ўжо 14 матораў, а танежыцкая брыгада, якая складаецца з 8 чалавек, дала толькі 13. Наша брыгада ўпаўнаважыла мяне заявіць, што план мы выканаем датэрмінова», —

— гаворыць на старонках газеты лепшы брыгадзір т. **Бірыч.**

Тут-жа газета ставіць перад танежыцкай брыгадай канкрэтную задачу — безадкладна ліквідаваць сваё адставанне, пераняўшы вопыт спаборнічаючай з ёю брыгады Бірыча.

Разам з барацьбой за тэмпы газета не выпускае з-пад увагі і якасць рамонта.

**— Рамантаваць так, каб адрамантаваны трактар працаваў не горш новага** — пад гэтым лозунгам «За тэмпы і якасць» 15 студзеня праводзіць другі злёт ударнікаў майстэрні, прысвечаны пастанове ЦК КП(б)Б і СНК БССР аб соцыялістычным спаборніцтве з Ленінградскай, Заходняй, Іванаўскай і Чэрнігаўскай абласцямі на лепшае правядзенне рамонтнай кампаніі.

26 студзеня ў дзень адкрыцця XVII з'езда ВКП(б) газета падводзіць вынік барацьбы за выкананне прынятых на сябе абавязацельстваў:

> «Слуцкая МТМ свой прадз'ездаўскі абавязак выканала. На 25 студзеня рабочыя МТМ далі 70 проц. плана рамонта, што складае 150 трактароў. Рамонт зроблен добраякасна».

У гэтым не малая заслуга газеты па-

літаддзела Слуцкай МТС «За тэмпы і якасць».

**— Да 1 сакавіка поўнасцю закончыць рамонт** — пад гэтым лозунгам, прынятым на другім злёце ўдарнікаў МТМ, газета праводзіць далейшую барацьбу за здаровы трактар.

## У РОЛІ СТАРОННЯГА НАГЛЯДАЛЬНІКА

**«У сваім лісце, які быў змешчан у газеце «Калгаснік Мазыршчыны», рабочыя Даманавіцкай МТМ абавязаліся адрамантаваць да 25 студзеня 77 матораў і 16 трактарных мастоў. Заўтра адчыняецца XVII з'езд ВКП(б), але-ж узятыя абавязацельствы і напалову не выкананы. На 20 студзеня адрамантаваны толькі 32 маторы».**

**«Калгаснік Мазыршчыны»** абураецца: прынялі абавязацельствы, надрукавалі ліст абяцалі мабілізавацца, ліквідаваць прарыў, — а план усё-ж сарваны.

«Калгаснік Мазыршчыны» шукае прычын, «мечет громы и молнии», аднак, не заўважвае адной «дробязі», што ў зрыве выканання плана не ў меншай меры вінавата сама газета.

Не ў прыклад газеце палітаддзела **«За тэмпы і якасць»** «Калгаснік Мазыршчыны» палічыў, што даволі толькі надрукаваць ліст, а прынятыя самаабавязацельствы будуць выкананы самацёкам. На працягу студзеня газета надрукавала толькі 2 карэспандэнцыі аб рабоце МТМ.

Даманавіцкая МТМ адна з адсталых у БССР. План рамонта выканан усяго на 53,9 проц. Сярод рабочых МТМ не вядзецца ніякай масавай работы. Аб спаборніцтве і ўдарніцтве ў майстэрні чулі толькі раз, калі зацвярджалі ліст. Сам старшы механік **Верас** выступае супроць канвеернай сістэмы ў рамонце трактароў, супроць правільнай арганізацыі працы. Працоўная дысцыпліна зусім адсутнічае. «Калгаснік Мазыршчыны» прымушан, прызнаць, што

**« ... у цэхах сістэматычныя спазненні. 19 студзеня ўвесь механічны цэх прыступіў да работы са спазненнем на 1 гадзіну 20 мінут».**

Але што да гэтага «Калгасніку Мазыршчыны»? Што зрабіла газета для таго, каб дапамагчы рабочым выканаць свае абавязацельствы? «Калгаснік Мазыршчыны» аказаўся толькі фіксатарам прарываў у майстэрні, старонім наглядальнікам агіднасцяй, якія там робяцца.

Адставанне БССР у выкананні плана рамонта трактароў (на 15 лютага план выканан на 54,5 проц.), у значнай меры тлумачыцца тым, што газета «Калгаснік Мазыршчыны» не з'яўляецца выключэннем сярод раённага друку.

Раённая газета — орган раённага камітэта партыі, не ў меншай меры адказвае за рамонт трактароў, чым друк палітаддзелаў, таксама, як і райкомы партыі, адказваюць за рамонт трактароў не ў меншай меры, чым кіраўнікі МТС.

Вопыт газеты палітаддзела Слуцкай МТС «За тэмпы і якасць» з'яўляецца ўзорам таго, чаго можна дабіцца пры апаратыўнай, канкрэтнай рабоце нашага друку.



За рамонтам сельска-гаспадарчых машын.

**«Сіла калгасаў і соўгасаў не вычэрпваецца, аднак, ростам іх пасеўных плошчаў і прадукцыі. Яна адлюстроўваецца таксама і ў росце іх трактарнага парка, у росце іх механізацыі. Несумненна, што ў гэтых адносінах нашы калгасы і соўгасы пайшлі далёка ўперад».**

**СТАЛІН, з прамовы на XVII з'ездзе ВКП(б).**

«Але з усіх дасягненняў прамысловасці, заваяваных ёю за справаздачны перыяд, самым важным дасягненнем трэба лічыць той факт, што яна здолела за гэты час выхаваць і выкавать тысячы новых людзей і новых кіраўнікоў прамысловасці, цэлыя пласты новых інжынераў, сотні тысяч маладых кваліфікаваных рабочых, асвоіўшых тэхніку і рушыўшых уперад нашу соцыялістычную прамысловасць».

СТАЛІН, з прамовы на XVII з'ездзе ВКП(б).

# НЕЗВЫЧАЙНЫ ЮБІЛЕЙ

Віцебскі
ПРОЛЕТАРЫЙ

## ПАЗНАЕМІМСЯ З ЮБІЛЯРАМІ

Мы часта адзначаем юбілеі выдатных людзей, пісьменнікаў, кампазітараў, прафесароў, дзеячоў мастацтва і т. д. Чаму-б не адзначыць юбілей герояў працы, герояў барацьбы за большэвіцкі промфінплан, якія, працуючы ля машын і варштатаў, твораць геаічныя справы.

**«Віцебскі пролетарый»**, партыйны калектыў і заўком завода **«Чырвоны металіст»** арганізавалі нядаўна святкаванне такога юбілея — юбілея двух ударнікаў завода Лаўрэнція Ціхаша і Шмуйлы Добрамысліна, прысвечанага іх 32-гадовай працы на вытворчасці.

Некалькі слоў аб юбілярах.

**Слесар Ціхаш**—адзін з лепшых і старэйшых ударнікаў завода. Свой промфінплан ён сістэматычна выконвае не менш як на 160 проц., даючы высокаякасную прадукцыю. Ён унёс рад каштоўных рацыяналізатарскіх прапаноў, якія прынеслі заводу шмат тысяч рублёў эканоміі. Тав. Ціхаш таксама актыўны грамадскі працаўнік: кіруе культработай у цэху, з'яўляецца кіраўніком кантрольнага паста па дапамозе ў рабоце пракуратуры, разам з групай старых рабочых шэфствуе над новапабудаванай заводскай сталовай.

**Водаправодчык Добрамыслін** — паказаў па заводзе рад геаічных прыкладаў ударнай працы. Яго рукамі і пад яго кіраўніцтвам на заводзе высокаякасна зроблены вадаправодная і паравая магістралі, якія ў сваёй рабоце амаль не падаюць перабояў. Добрамыслін — член горсовета і актыўна працуе ў жыллёвай секцыі, член праўлення ЗРК і цэхкома рамонтнага цэха.

## НА КВАТЭРЫ ЎДАРНІКА ДОБРАМЫСЛІНА

У прасторных пакоях кватэры ўдарніка Добрамысліна — юбілейны вечар. За сталом за чашкай чаю сядзелі старыя рабочыя завода т.т. Сандлер, Рыбіцкі, Снараў і інш., дырэктар завода Красноў, сакратар парткалектыва Сімунін, старшыня заўкома Лукнер і т. д. Тут былі і сем'і Ціхаша і Добрамысліна.

У цёплай і ажыўленай сяброўскай гутарцы юбіляры расказалі аб вопыце сваёй вытворчай работы. Іх віталі сакратар парткалектыва, дырэктар завода, старшыня заўкома, таварышы па рабоце, дзеці. Прамоў не было, была імення сяброўская гутарка.

Стары рабочы завода тав. **Снараў**, ахарактарызаваўшы работу юбіляраў— лепшых ударнікаў завода, сказаў:

> «Гэты юбілей падымае, таварышы, і мой энтузіязм. Я таксама працую ўжо 30 год на вытворчасці. Сёння, калі адзначаюць юбілей нашых таварышоў па рабоце, я павінен сказаць, што яшчэ больш, яшчэ вышэй падыму ў цэху большэвіцкі дух нашай работы».

Адзін з былых вучняў старога вада-

праводчыка Добрамысліна ўдарнік Фрыдман, вылучаны зараз на работу загадчыка аргмасавага аддзела горсовета, расказаў, як Добрамыслін даў яму, быламу чорнарабочаму, кваліфікацыю, колькі сяброўскіх клопатаў Добрамыслін праявіў, каб зрабіць яго кваліфікаваным рабочым.

Сакратар комсамольскага калектыва Вярхоўскі падзякаваў юбіляраў за вялікую работу, праведзеную імі па наладжанню шэфства старых рабочых над маладымі, за перадачу моладзі свайго вытворчага вопыта. Ён прапанаваў у адзнаку юбілея двух лепшых і старэйшых ударнікаў завода **правесці па заводу масавую глыбокую самаправерку ўзятых самаабавязацельстваў у сувязі з XVII з'ездам партыі і апублікаваннем тэзісаў дакладаў т.т. Молатава і Куйбышэва на XVII партз'ездзе.** Гэта прапанова была прынята і тут-жа на вечары былі складзены самаправерачныя брыгады, у адну з якіх пажадала ўвайсці і жонка юбіляра Ціхаша — Ксеня Нікіцішна.

Так скончыўся вечар, прысвечаны юбілею двух з лепшых людзей нашай соцыялістычнай эпохі, для якіх праца ператварылася «у справу славы, гонару, адвагі і геройства». Але не скончыўся самы юбілей.

## СВЯТА ПЕРАНЕСЕНА Ў ЦЭХІ...

«Віцебскі пролетарый», які **арганізаваў і правёў** вечар, прысвеціў цэлую старонку паказу яго ў газеце, пайшоў далей. Газета дапамагла самаправерачным брыгадам правесці самаправерку і адначасова арганізавала прапрацоўку надрукаванага ў ёй матэрыяла аб праведзеным юбілеі. **Свята герояў пяцігодкі было перанесена ў цэхі.**

Увесь заводскі калектыў на сваіх цэхавых сходах абгаварваў старонку газеты «Віцебскага пролетарыя», прысвечаную юбілею старэйшых рабочых Ціхаша і Добрамысліна. Тут-жа на сходах правяралася, як кожны рабочы выконвае самаабавязацельствы, узятыя к XVII партыйнаму з'езду, як ён прымяняе ў сваёй штодзеннай рабоце каштоўны вопыт т. т. Ціхаша і Добрамысліна.

Вось выступленне ліцейшчыка тав. **Акімава.**

**«Наш ліцейны цэх за 11 месяцаў выканаў промфінплан на 103,28 проц. Мы дабіліся гэтага выключна таму, што працавалі так, як працуюць лепшыя ўдарнікі Ціхаш і Добрамыслін. Нашы ўдарныя брыгады з дня ў дзень узятыя самаабавязацельствы ператвараюць у канкрэтныя справы.**

Брыгадзір адной з перадавых брыгад **тав. Іспянкоў** расказаў на сходзе аб сваёй рабоце. Ён растлумачыў усім, чаму яго брыгада сістэматычна перавыконвае план, знізіла брак.

**У ліцейным цэху пасля святкавання юбілея была арганізавана новая брыгада на варштаце «ТІМ».**

Рабочыя рамонтнага цэха **абавязаліся к адкрыццю XVII з'езда ВКП(б) дабіцца рашучага пералома ў ходзе выканання промфінплана.**

Рабочыя механа-зборачнага цэха вынеслі пажаданне, каб юбілеі лепшых ударнікаў завода праводзіліся часцей і каб вопыт работы такіх ударнікаў шырэй рэалізоўваўся ва ўсіх цэхах і брыгадах. Адначасова рабочыя ўказалі на рад недахопаў у рабоце цэха, узялі на сябе канкрэтныя абавязацельствы па знішчэнню гэтых недахопаў.

Самаправерка выканання ўзятых самаабавязацельстваў і прапрацоўка матэрыялаў аб вытворчым юбілеі двух лепшых і старэйшых ударнікаў завода выклікалі сярод рабочых завода «Чырвоны металіст» новы ўздым творчага энтузіязма.

**
*

Перад нашай краінай стаяць велізарныя, высунутыя XVII з'ездам ВКП(б) і правадыром нашай партыі і сусветнага пролетарыята тав. **Сталіным** задачы па выкананню плана другой большэвіцкай пяцігодкі — пяцігодкі пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства. Для паспяховага ажыццяўлення гэтых задач трэба, у прыватнасці, каб гераічныя прыклады, адвага нашых герояў пяцігодкі і ўдарнікаў сталі здабыткам шырокіх мас працоўных, множыліся на ўсіх участках нашага соцыялістычнага будаўніцтва, каб у лепшых людзей рабочага класа вучыліся, як выконваць промфінплан, даваць высокую якасць прадукцыі, на справе ажыццяўляць генеральную лінію партыі. З гэтага пункту гледжання **вопыт «Віцебскага пролетарыя» па арганізацыі юбілея лепшых перадавых ударнікаў варты пераймання нашым гарадскім і фабрычна-заводскім друкам.**

# ЖЫВЕ ЯШЧЭ „ЛЕАНІД СВОЙ“,
## АБО
## „Калгаснік Кармяншчыны“ пад уладай псеўдоніма

Аб лішнім і часамі зусім непатрэбным ужыванні псеўданімаў «Правда» ў нумары 289 за 19-Х—33 г. пісала:

**«Чаму-ж усё такі частка селькораў піша ў газету пад псеўданімам? Часцей за ўсё таму, што на старонках газеты селькоры бачаць розных «Проезжих», «Яснополянских», «Знающих», прывыка юць да іх і думаюць, што псеўданім — гэта нешта накшталт абавязковага «литературнага доспеха». Варта газеце патурбавацца, грунтоўна растлумачыць гэ тым селькорам і калгаснікам (а іх большасць) непатрэбнасць псеўданімаў, і яны будуць падпісваць свае сапраўдные прозвішча пад карэспандэнцыямі. Кожны з абсалютнай большасці такіх аўтараў добра зразумее, што выступаць у друку адкрыта—больш дзейсна і каштоўна, чым пад псеўданімам.**

**Аднак не трэба забываць і другой больш сур'ёзнай прычыны мноства псеў данімаў у некаторых газетах. І прычына гэтага заключаецца ў тым, што газета дрэнна абараніла селькора ад праследванняў на глебе адкрытых выступленняў у друку, што газета не ўмее ўзняць кожны канкрэтны выпадак праследвання селькора на належную палітычную вышыню».**

На жаль указанні «Праўды» не ўсюды яшчэ ўлічаны ў практычнай рабоце раённага друку. «Праезджыя», «Прахо-джыя», «Бачыўшыя», «Чуўшыя», «Вока», «Вуха» яшчэ стракацяць па старон ках раённых і палітаддзельскіх газет.

Перад намі 98 нумар газеты **«КАЛГАСНІК КАРМЯНШЧЫНЫ»** за снежань 1933 года. Пад перадавым артыкулам газеты **«Культмасавая работа на прыёмачным пункце «Загатільна» ад сутнічае»**—подпіс **«ЛЕАНІД СВОЙ»**. Мы зацікавіліся, хто такі «Леанід свой»? Чаму аўтар перадавога артыкула высту пае «інкогніто»? Хто наогул выступае на старонках «Калгасніка Кармяншчыны»?




Я помнік збудаваў сабе нерукатворны,
Мяне ўжо ведае і славіць уся Карма,
На допісах угробленых узгадаваўся
«Непакорны»,
І «Леанід», і «свой» — таемная рука.

Бярэм на выбар некалькі нумароў газеты. Вось № 75:

**«Ліквідаваць прарыў у сяўбе». Подпіс—«Ф».**

**«За очковтирательство» да адказнасці» — ЦЁМНЫ.**

**«Бульба будзе адгружана датэрмінова»—«З. О.»**

**«На хвалях самацёка» — «Т.»**

**«Сабатажнікі ў складзе сельсовета»—«ЗОРКІ».**

**«Добра будзе, паедзяць»—«Р. В.-СА».**

**«Прыцягнуць Жлобу да суровай адказнасці»—«ЗОРКАЕ ВОКА».**

**«Выйсці на лінію перадавых» — «Я. П.»**

І так увесь нумар засакрэчаны.

Хто выступае ў гэтых заметках? Які

актыў рабселькораў, калгаснікаў-ударнікаў мае газета—сакрэт адной рэдакцыі.

Бярэм № 80:

**«Перадавыя аднаасобнікі»—«Б. М.»**

**«Госбенка пакрывае злодзеяў» — «ЦЁМНЫ».**

**«Класавы вораг разбурае калгас» — «ПРАХОДЖЫ».**

У сваім захапленні псеўдонімамі рэдакцыя даходзіць да таго, што «праезджыя» ды «праходжыя» падпісваюць не толькі заметкі выкрываючага характару, а і заметкі і артыкулы, якія расказваюць аб поспехах на тым ці іншым участку работы раённай партарганізацыі.

Пра тое, што **«бульба будзе адгружана датэрмінова»** голасна сказаць газета саромеецца. Аб гэтым па сакрэту паведамляе **«З. О.»** (нумар 75). Аб **«перадавых аднаасобніках»** піша **«Б. М.»**, заметка **«Абавязкі перад дзяржавай выканаў»** падпісана **«П-МА»**.

Нават артыкул кіруючага характару **«Зрабіць рашучы пералом у выкананні фінплана IV квартала»** рэдакцыя падпісвае літарай **«Ш»**. Ці не аўтарытэтней было-б для газеты выступленне ў ёй адказнага работніка раёна змясціць за поўным подпісам.

Бярэм нумар газеты за 1 студзеня 1934 года. **«СЕЛЯНІН»** паведамляе, што **«Комуніст» Байкоў сабатуе ільназагатоўкі»**, нехта **«СПРЫТНЫ»** расказвае, што **«Упаўнаважаны райвыканкома Пісараў замест работы займаецца п'янкай»**, **«БАЧ»** выкрывае, што **«Кулацкі сабатаж» не зломлен»**. Не абышлося і без удзелу слаўтага **«Леоніда свайго»** (аб ім падрабязней будзе далей). Ці не палохаецца ён, седзячы ў раённым цэнтры голаснай крытыкі, што заметку **«Ачысціць калгас «Чырвоны муравей» ад кулакоў»** падпісвае нават скарочаным псеўданімам **«Л. св.»**.

У папулярызацыі псеўдаціма «Леанід свой» рэдакцыя пайшла вельмі далёка. Першае з'яўленне гэтага псеўданіма ў газеце адносіцца да 98 нумара, калі ім адразу былі падпісаны два артыкулы адната і таго-ж нумара — **«Культмасавая работа на прыёмачным пункце «Загатільна адсутнічае»** і **«Сурова пакараць раскрадвальнікаў калгаснай маемасці»**.

Першая старонка 99 нумара. Заметка **«Совецкая парт'ячэйка не праводзіць у жыццё дырэктыў камісіі па чыстцы»**. Подпіс—**«ЛЕАНІД СВОЙ»**. Перагортваем другую старонку. Аказваецца «На юбілейным пленуме РК ЛКСМБ, прысвечаным 15-годдзю ЛКСМБ» (такі загаловак артыкула), быў таксама ніхто іншы як **«Л. СВ.»**. І артыкул на поўстаронку **«Ачысціць кіраўніцтва і парт'ячэйкі соўгаса «Войкава» ад апартуністаў, буржуазных перараджэнцаў і прамых бяздзейнікаў»** (чаго варты адзін стыль загалоўка!) падрыхтаваў таксама **«ЛЕАНІД СВОЙ»**.

№ 3 газеты за 1934 г. Заметка **«Пабольшэвіцку перабудаваць работу ячэйкі»** (справа ідзе аб перабудове партыйнай работы каапэрацыйнай ячэйкі). Подпіс — **«ЛЕАНІД СВОЙ»**.

№ 4. «Інфармацыйнае паведамленне аб 4 раённай партканферэнцыі Кармянчыны», і тут унізе нязменны **«ЛЕАНІД СВОЙ»**. Заметка аб надзяленні бескароўных калгаснікаў цёлкамі—таксама **«ЛЕАНІД СВОЙ»**.

№ 5. Невялічкая заметка **«Выйсці першымі ў спаборніцтве з Рагачоўшчынай»**. Аўтара трудна знайсці. Яму і тут, як і ў інфармацыйным паведамленні аб 4 раённай партканферэнцыі, патрэбна было схавацца за псеўданім **«ЛЕАНІД СВОЙ»**.

«Леанід свой» падпісвае нават перадавыя артыкулы газеты.

№ 6. Перадавы артыкул **«Пабольшэвіцку правесці закупку хлеба дзяржавай». Ну, а подпіс вядомы—ЛЕАНІД СВОЙ»**. І так далей без меры і канца **«ЛЕАНІД СВОЙ»**, або яго блізкі спадарожнік **«Л. СВ.»** мазоліць вока чытача.

Словам «Леанід» стаў «сваім» чалавекам у рэдакцыі. Больш таго, ён атрымаў поўную манаполію на газетныя паласы: ён і перадавыя піша, і інфармацыю забраў у свае рукі, ён наступова выцясняе з газеты і заметкі рабселькораў, якія хаваюцца пад псеўданімамі **«Сусед»**, **«Вока»**, **«Праходжы»** і т. д.

Але хто ён усё-ж, гэты таемны «Леанід свой»? Для нас няма ніякага сумнення, што пад гэтым інкогніто хаваецца ніхто іншы, як адзін з работнікаў рэдакцыі «Калгасніка Кармяншчыны. І гэта тым больш недапушчальна.

# ПРА БАЛБАТУНОЎ З РЭДАКЦЫІ „*СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ПЕРАМОГІ*“

Сярод шматлікіх абавязацельстваў, прынятых удзельнікамі апошняй райпартканферэнцыі **Чэрыкаўшчыны,** ёсць і абавязацельства аб своечасовым выкананні плана лесазагатовак і вывазкі.

Канферэнцыя скончылася, дэлегаты раз'ехаліся па месцах, аб прынятых абавязацельствах забылі. І ў выніку Чэрыкаўскі раён апынуўся ў глыбокім прарыве па дровалесавывазках.

Па поваду гэтага чэрыкаўская раённая газета **«Соцыялістычная перамога»** (адказны рэдактар т. **Цітоў**) 28-га студзеня разразілася вялікім перадавым артыкулам. Гэты артыкул — яркі ўзорык пустой балбатні, неканкрэтнасці, бяззубасці і... простай непісьменнасці.

«Соцыялістычная перамога» поўна здзіўлення. Для яе **«зусім незразумела, якім чынам наш раён апынуўся на апошнім месцы».**

**«Казалась-бы, што лепш трэба, як уключэння ў соцспаборніцтва раён нас і тым больш такога шырокага разгортвання соцспаборніцтва паміж сабою (сельсовет з сельсоветам і г. д.)**

І газета бездапаможна разводзіць рукамі: —

**«Адпак, не гледзячы на ўсё гэта, Чэрыкаўшчына чамусці апынулася ў вялікім прарыве».**

Яна шукае прычын гэтага прарыву. Па рэшце, прычына знойдзена.

**«Калі мы маем такія зусім недапушчальна нізкія процанты па загатоўцы будматэрыялаў — 9,5, дроў — 11,9 і па вывазцы будматэрыялаў — 8,4 дроў — 6,7, яны безумоўна сведчаць нам не аб самай сапраўднай большавіцкай рабоце рада сельсоветаў і ў цэлым усяго раёна на гэтым, як адным з адказнейшых участкаў соц. будаўніцтва, а іменна сведчаць нам аб самай славесна-дэкларацыйнасці, апартуністычнай бліжарукасці кіраўнікоў гэтых-жа сельсоветаў».**

Які стыль, «пісьменнасць» якая!

Бачыце, была ў раёне і сельсоветах бальшэвіцкая работа, толькі **«не самая сапраўдная».** А якая-ж яшчэ, калі не сапраўдная, можа быць бальшэвіцкая работа, т. Цітоў? Славесная-ж дэкларацыйнасць і апартуністычная бяздзейнасць— гэта не бальшэвіцкая работа.

Вепрынскі, Глінскі, Рэчыцкі і інш. сельсоветы не выканалі прынятых імі самаабавязацельстваў. «Соцыялістычная перамога» абвінавачвае кіраўнікоў гэтых сельсоветаў у **«алілуйшчыне і трубадурстве».**

І для рэдакцыі

**«Цікава ведаць толькі, аб чым думалі хоць-бы СІДАРЭНКА альбо БУРАЕЎ з РЭЧЫЦКАГА сельсовета ці СЦЕПАНЕНКА з ГЛІНСКАГА сельсовета. Няўжо вы таварышы комуністы думаеце, што вам дазволена апашляць такога выпрабаванага большавіцкага метада работы, як соцспаборніцтва».**

Якія цікавыя людзі сядзяць у рэдакцыі чэрыкаўскай газеты!

Папярэдзіўшы кіраўнікоў адстаючых сельсоветаў, што партыя не дазволіць ім апашляць соцспаборніцтва, газета пераходзіць да «намячэння задач». Тут і **«з асаблівай сур'ёзнасцю аднесціся да максімальнага выкарыстання рашаючых месяцаў»,** і **«сканцэнтраваць усю ўвагу, усю энергію»,** і **«наш абавязак пакончыць з ганебным адставаннем»,** і **«крута ўзняў шы тэмпы, пры поўнай бальшэвіцкай мабілізаванасці ўсіх калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў забяспечыць своечасовае выкананне плана»** і т. д. і т. д. І ні адной **канкрэтнай** дзелавой прапановы, ні аднаго слова аб тым, што-ж **практычна** патрэбна рабіць, каб выканаць раённы план загатовак і вывазкі лесу. Такая славесная шалуха адцягвае ўвагу ад асноўных задач.

Пара, ўжо даўно пара абвясціць вайну пустому славеснаму патоку, які апроч шкоды не прыносіць ніякай карысці.

Тысячу раз праў т. **Сталін,** калі ён завастрыў пытанне на барацьбе з чэснымі балбатунамі. Гэта цалкам і поўнасцю датычыць і газет, і ў першую чаргу газеты «Соцыялістычная перамога», дзе за балбатнёй не відаць **жывой справы і жывых людзей.**

«Неабходна, каб краіна была пакрыта багатай сеткай гандлёвых баз, магазінаў, крам. Неабходна каб па каналах гэтых баз, магазінаў, крам бязупынна цыркулявалі тавары ад месц вытворчасці да спажыўца» СТАЛІН.

С. ГАЛКІН



# КАЛГАСНЫ ГАНДАЛЬ ХЛЕБАМ

Датэрмінова, па два месяцы раней чым у мінулым годзе, БССР выканала план дзяржаўных хлебанаставак. Засыпаны насенныя фонды. Калгаснікі і аднаасобнікі БССР атрымалі права бесператкодна гандляваць хлебам.

Гэтых поспехаў мы дабіліся таму, што калгасныя масы Беларусі пад бальшэвіцкім кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б пабаявому змагаліся за выкананне лозунга тав. СТАЛІНА аб бальшэвіцкіх калгасах і заможных калгасніках. Перадавыя калгасы і калгаснікі БССР ужо ў гэтым годзе моцна сталі на шлях да заможнага жыцця. Падвоіўся і патроіўся кошт працадня. У рэзультаце добрасумленнай працы на палях, бальшэвіцкай барацьбы за высокі ўраджай калгаснікі ў большасці атрымалі па працаднях столькі хлеба, што могуць не толькі поўнасцю задаволіць свае ўласныя патрэбы, але і вывезці на калгасны рынак значныя лішкі зернавой прадукцыі.

Пастановай СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 19 студзеня г. г. спажывецкай кааперацыі дазволена рабіць закупку хлеба ад калгаснікаў і аднаасобнікаў.

Пастановай СНК і ЦК безумоўна забаронена ўстанаўляць для калгасаў, калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў якія-небудзь абавязковыя заданні, развёрстку ці планы продажу хлеба.

Задача партыйных і савецкіх арганізацый і ў першую чаргу спажывецкай кааперацыі — арганізаваць хлебазакупкі выключна на ўзаемных выгадах прадаўца і пакупніка, на максімальнай гаспадарчай зацікаўленасці калгасніка і аднаасобніка ў рэалізацыі свайго хлеба праз спажывецкую кааперацыю. Трэба даказаць калгасніку і працоўнаму аднаасобніку ўсю выгоднасць продажу хлеба кааперацыі, растлумачыць вялікую ролю, якую адыгрываюць хлебазакупкі ў справе арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання калгасаў, у барацьбе за заможнае калгаснае жыццё.

У большасці раёнаў БССР закупкі хлеба спажывецкай кааперацыяй ужо разгарнуліся. Перадавыя калгаснікі і працоўныя аднаасобнікі, якія зразумелі палітычна-гаспадарчае значэнне хле-




Спецыяльны нумар глускай раённай газеты прысвечаны хлебазакупкам.

базакупак, пераканаліся ў выгоднасці іх умоў, прадаюць свае лішкі хлеба спажывецкай кааперацыі. Дзесяткі тон зярна паступаюць на закупачныя пункты ў розных раёнах БССР. «За сваю добрасумленную працу ў калгасе, — заявіў калгаснік с.-г. арцелі **«3-ці рашаючы»**, Чырвонаслабодскага раёна, тав. **ЛІНЬКО**, — я атрымаў столькі хлеба, што змагу яшчэ і прадаць. Разлічыўшы, колькі трэба на маю сям'ю і для жывёлы, аказалася, што 18 пудоў ў мяне застаецца для продажу. Гэты хлеб я прадам толькі праз кааперацыю і куплю неабходныя мне рэчы».

Такія прыклады высокай палітычнай свядомасці паказваюць сотні і тысячы перадавых калгаснікаў-ударнікаў. Задача партыйных, савецкіх арганізацый, сістэмы спажывецкай кааперацыі — падхапіць гэты магутны ўздым калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў, разгарнуць шырокую масава-растлумачальную работу вакол хлебазакупак, на ас-

нове соцспаборніцтва перанесці ініцыятыву перадавых калгасьнікаў і аднаасоб нікаў ва ўсе калгасы і сельсоветы.

Наўрад ці трэба даказваць велізарную ролю друку ў правядзенні хлебазакупак. На друк ускладзена выключна ад казная задача — шырока папулярызаваць кааперацыйныя хлебазакупкі, па канкрэтных прыкладах паказваць выгод насць продажу хлеба толькі кааперацыі.

Многія раённыя газеты гэту сваю задачу добра зразумелі. Газета **«ЧЫРВОНАЯ ПОЛАЧЧЫНА»** ўзорна змагаецца за поспех хлебазакупак. Побач з апе рацыйным асьвятленьнем ходу закупак «Ч. П.» бязьлітасна ўскрывае ўсе недахопы работы кааперацыі, паказвае, як нельга праводзіць закупкі хлеба:

> «Крамы закупхлеба і сельпо запоўнены цукрам, цукеркамі, хусткамі, ма нуфактурай, начыньнем і інш. таварамі, — піша газета. — Гэта вельмі добра. Але зусім недастаткова цвікоў, махоркі, мыла, зусім няма жалеза, вяровак, валёнак, кажухоў, аўчын, ваконнага шкла і інш., у якіх маюць патрэбы калгасы, калгасьнікі і аднаасобнікі».

«Чырвоная Полаччына» прыводзіць скаргу старшыні калгаса імя Фрунзе тав. **КЕЙША** аб тым, што ў нашай краме

> «...нічога няма для гаспадарчых патрэб калгаса».

Зразумела, што пры такой «рабоце» сельпо не здолее зацікавіць прадаўца хлеба, даказаць яму выгоднасць продажу хлеба кааперацыі. У гэтым-жа і заключаецца ўся задача, каб кааперацыя з максімальным эфектам выкарыстала адпушчаныя ёй аграмадныя промтаварныя фонды для стымуляваньня хле базакупак, каб яна ўмела манеўравала імі, добра ведала попыт спажыўца і акуратна і своечасова задавальвала гэты попыт.

Полацкая кааперацыя яшчэ гэтага не дабілася, і раённая газета зусім правільна патрабуе ад спажывецкай каапе рацыі неадкладнай перабудовы, зусім правільна ставіць пытаньне, што

> «... на бліжэйшы адрэзак часу арганізацыя, правядзеньне і стымуляваньне хлебазакупак — цэнтральнае звяно ва ўсёй рабоце кааперацыі. Асноўная задача — гэта правільна, метадамі масавай работы арганізаваць прыток хлеба... Выкарыстаць усе мясцовыя магчы масці па набыцьцю раду тавараў, на якія ёсць попыт прадаўцоў».

Аб дрэннай рабоце кааперацыі паведамляе і мазырская раённая газета **«КАЛГАСНІК МАЗЫРШЧЫНЫ»**. У нумары ад 24 студзеня **«К. М.»** піша:

> «Першыя дні закупкі хлеба паказалі, што да гэтай важнейшай кампаніі сельпо не падрыхтаваліся. Рад сельпо не паклапаціліся аб забесьпячэньні крам востра-дэфіцытнымі, неабходнымі калгасьніку і аднаасобніку таварамі. **Бярозкаўскае, Дудзіцкае і Навасёлкаўскае** сельпо да гэтага часу не забралі з базы райсаюза прызначаныя для іх востра-дэфіцытныя тавары — шкло, цвікі і інш. У выніку адсутнасці ўсякай работы па закупцы гэтыя сельпо па сёньняшні дзень амаль нічога не закупілі».

У гэтым-жа нумары газета прыводзіць такі факт, што **Асташкэвіцкае** сельпо нават не ведае закупачных цэн, што калгасу **«Новы шлях»** за прададзены хлеб заплацілі не па ўстаноўленай пастанове СНК і ЦК, а па зьніжанай цане.

Але, паведамляючы аб гэтых агідных фактах, **«К. М.»** не дае ім адпаведнай палітычнай ацэнкі, не наносіць удару па канкрэтных носьбітах зла, не называе нават ні аднаго прозьвішча вінаватых у зрыве хлебазакупак. Замест гэтага газета лянiва канстатуе, што

> «... такая пастаноўка работы зрывае закупку хлеба».

Нікому, як кажуць, ні цёпла, ні холадна ад такіх, з дазволу сказаць, «вывадаў» газеты.

***

Пастанова СНК і ЦК, вызначаючы ўмовы калгаснага гандлю хлебам, з усёй выразнасьцю падкрэслівае, што закупкі хлеба павінны будавацца **«на аснове забесьпячэньня зацікаўленасці прадаўца ў продажы наяўных у яго лішкаў хлеба кааперацыі, ні ў якім разе не дапускаючы якога-б там ні было адміністрацыйнага прымусу»**.

Гэтай пастановай яшчэ раз пацьвярджаецца, што закон аб хлебапастаўках з'яўляецца непахісным, парушаным законам, што калгасьнік поўнасьцю распараджаецца сваім хлебам, атрыманым па працаднях.

Тым не менш, дзе-ні-дзе ўжо маюць месца факты парушэньня пастановы

СНК і ЦК, спробы падмяніць прынцып добраахвотнасці ў закупках хлеба голым адміністраваннем, давядзеннем планаў да калгасаў і развёрсткай «кантрольных лічбаў» па продажы хлеба каапераціі.

Аб адным такім факце паведамляе газета **«Чырвоная Палачч ына»**. На пленуме **Вельскага** сельсовета заданне па закупках хлеба, даведзенае да сельпо, размеркавалі па калгасах. Газета тут-жа дае зусім правільную палітычную ацэнку гэтаму факту:

«Гэты факт мы не можам разглядаць інакш, як грубейшае скажэнне, як дапамогу кулацкім спробам дыскрэдытаваць рашэнне партыі і ўрада аб тым, што кожны калгаснік і аднаасобнік мае права распараджацца лішкамі хлеба па свайму погляду»

Шклоўская раённая газета «Прамень комунізма» прыводзіць тэкст адной дырэктывы Гарадзішчанскага сельпо:

«Старшыні калгасу «Новы шлях» тав. **СІВЕРЫНУ**. Вашаму калгасу вызначана здаць у дэц. загатоўкі(!) хлеба 5 цэнтнераў, а таму заўтра-ж афармі гэту справу з крамнікам Гузавым і адвязі зярно на склад. тав. Кароўкіну. Не адцягвай, бо нам трэба адправіць зярно ў Шклоў.

Нам. старшыні Гарадзішчанскага сельпо **АЛЕКСАНДРАЎ**».

**«П. К.»** з усёй рашучасцю выкрывае гэтыя «лявацкія» перагібы, злосныя парушэнні пастановы партыі і ўрада аб хлебазакупках, правільна патрабуючы прыцягнення да судовай адказнасці прыткіх адміністратараў з Гарадзішчанскага сельпо.

На жаль, не ўсе газеты змагаюцца як належыць з «лявацкімі» скрыўленнямі дырэктыў партыі і ўрада аб правядзенні закупак хлеба, з парушэннямі пастановы СНК СССР і ЦК ВКП(б), дзе сказана, што **«ўстанаўленне якіх-бы там ні было цвёрдых заданняў і планаў продажу хлеба для калгасаў, калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў будзе разглядацца як дача сустрэчных планаў і вінаватыя ў гэтым асобы ў адпаведнасці з пастановай СНК СССР і ЦК ВКП(б) ад 20 чэрвеня 1933 г. будуць прыцягвацца да крымінальнай адказнасці»**.

Рэкорд галалацяпскага асвятлення хлебазакупак паказала **КЛІМАВІЦКАЯ** райгазета **«КОМУНА»**. Газета змясціла артыкул райупаўнаважанага Закупхлеба **МІРОНАВА** пад загалоўкам «ЛІШКІ ХЛЕБА ДЗЯРЖАВЕ». Артыкул не толькі алілуйскі, насычаны пустой дэкларацыйнасцю, але і проста шкодны.

У пачатку аўтар артыкула піша, што хлебазакупкі праходзяць вельмі дрэнна, што

«нізавая сістэма (толькі нізавая? — **С. Г.**) спажыўкааперацыі не ўлічыла ўрокаў мінулага года, **НЕ ПРЫСТУПАЕ** да хлебазакупак».

Гэта становішча, аднак, зусім не перашкаджае аўтару фарсануць і скончыць свой артыкул наступнымі словамі:

«Да XVII з'езда ВКП(б) закупіць не менш 85 тон хлеба».

І аўтар, і рэдакцыя «Комуны» добра ведалі, што гэта толькі пустая балбатня, пустая дэкларацыйнасць. Артыкул змешчан 27 студзеня, калі з'езд ужо засядаў, і ясна, што аб закупцы 85 тон хлеба ДА з'езда не магло быць і гутаркі.

***

Калгасны гандаль хлебам — адказны ўчастак соцыялістычнага будаўніцтва. У сваім справаздачным дакладзе XVII з'езду ВКП(б) тав. **СТАЛІН** завастрыў асаблівую ўвагу на пытанні аб разгортванні тавараазвароту. «КАБ ЭКАНАМІЧНАЕ ЖЫЦЦЁ КРАІНЫ МАГЛО ЗАБІЦЬ КЛЮЧОМ, — сказаў тав. **СТАЛІН**, — А ПРАМЫСЛОВАСЦЬ І СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА МЕЛІ СТЫМУЛ ДА ДАЛЕЙШАГА РОСТУ СВАЁЙ ПРАДУКЦЫІ, ТРЭБА МЕЦЬ ЯШЧЭ АДНУ ЎМОВУ, А ІМЕННА — РАЗГОРНУТЫ **ТАВАРАЗВАРОТ** ПАМІЖ ГОРАДАМ І ВЁСКАЙ, ПАМІЖ РАЁНАМІ І АБЛАСЦЯМІ КРАІНЫ, ПАМІЖ РОЗНЫМІ ГАЛІНАМІ НАРОДНАЙ ГАСПАДАРКІ».

Калгасны гандаль хлебам адыгрывае велізарную ролю ў агульнай групе пытанняў, якія стаяць перад краінай ў галіне тавараазварота. Адсюль ясна, што арганізацыя закупак хлеба павінна стаяць у цэнтры ўвагі не толькі спажывецкай каапераціі, але і ўсіх партыйных і советскіх арганізацый. Адсюль вынікаюць і задачы нашага друку ў правядзенні гэтай важнейшай работы.

М. КЛІМКОВІЧ
(Старшыня аргкамітэта саюза совецкіх пісьменнікаў БССР)

# АБ СУПОЛЬНАЙ РАБОЦЕ ШМАТТЫРАЖКІ І ЛІТГУРТКОЎ НА ПРАДПРЫЕМСТВАХ

Бываюць дробязі, якія варты вялікай справы. Гэта ў тым выпадку, калі яны або пачынаюць, або спрыяюць вялікай справе. Аб адной з такіх дробязяй хачу сказаць: аб мове нашых шматтыражак. Робячы велізарнейшую палітычную справу, дапаўняючы сабой работу ўсяго трыкутніка, наша большэвіцкая шматтыражка з'яўляецца адным з самых магутных арганізуючых фактараў вытворчасці. Гэтую ролю яе ведаюць усе. На жаль, не ўсе і не заўсёды разумеюць, ці не заўсёды правільна разумеюць другі бок шматтыражкі—яе вялікую выхаваўчую ролю. А гэта роля таксама вялікая і пачэсная. Не толькі ў тым, што шматтыражка бічуе недахопы і канкрэтных посьбітаў зла, не толькі ў тым, што яна ставіць і «праварачвае» рад гаспадарча-палітычных задач, не толькі ў гэтым выхаваўчая роля шматтыражкі. Шматтыражка выхоўвае сваёй **арганізацыйнай работай, своечасовасцю і астратой пастаноўкі пытанняў, сваімі адносінамі да паасобных галін грамадскага жыцця,** скажам да літаратуры, да клуба, да бытавых пытанняў, і, нарэшце, **сваёй мовай.** А вось з мовай шматтыражак—у нас далёка не ўсё ў парадку. Вельмі часта мова шматтыражкі проста канцылярская, цяжкая для разумення, сухая. Такая мова прыніжае ўплывовасць самога зместу матэрыяла на чытача. Факты, падапыя такой мовай, не запамінаюцца, не ўразаюцца ў памяць. І вось тут вельмі карыснай была-б дапамога **літгурткоўцаў,** якія-б па чарзе, адзін-два дні ў месяц, выпраўлялі, апрацоўвалі з боку стылю рабкораўскія заметкі, падавалі-б іх жывой, поўнагучнай мовай саміх рабочых. Разумеецца, і самі пісалі-б аб здарэннях і задачах прадпрыемства не толькі звычайныя нататкі, але **нарысы, фельетоны, сатырычныя вершы, навелы** і т. д.

Гэта адзін бок справы. Другі бок справы: шматтыражка павінна стаць асновай, стрыжнем работы літгуртка, яго шэфам і галоўным памочнікам. Рэдакцыя газеты павінна сачыць за сістэматычнасцю работы літгуртка, правільнасцю яго заметак, жорстка змагацца з усімі, хто перашкаджае яго рабоце, з усякай недаацэнкай літработы. Рэдакцыя газеты, у парадку дапамогі росту рабкораў, павінна **папаўняць гурткі лепшым выяўленым рабкораўскім актывам.** Газета, нарэшце, павінна змяшчаць творы сваіх літгурткоўцаў. Біяграфія многіх совецкіх пісьменнікаў Беларусі **(Александровіча, Лынькова, Знаёмага, Чарота)** паказвае, што яны свой творчы шлях пачыналі з рабкораўскіх дописаў, а зачастую працягвалі яго ў якасці рэдактароў газет і журналаў. Выявіць маладога пісьменніка, дапамагчы яго росту, выхаваць яго—якая вялікая і ганаровая задача для шматтыражкі і яе рэдактара, не кажучы ўжо аб той карысці, якую атрымлівае сама рэдакцыя ад маладых пісьменнікаў на заводзе ў сваёй рабоце.

А як у нас стаіць справа? На жаль, частка рэдактароў бюракратычна адносіцца да гэтай справы і не толькі не змагаецца супроць недаацэнкі работы гурткоў з боку заводскіх арганізацый («Большэвік», імя Варашылава, «Комунар»), але сама паказвае адмоўны і ганебны прыклад.

І апошняе. Шматтыражкам і літгурткам агульнымі сіламі трэба падняць і асіліць **напісанне кнігі пра свой завод і яго ўдарнікаў**—як першы вопыт гісторыі завода, як яго чарнавы набросак. Вялікая і пачэсная задача арганізаваць вечары ўспамінаў старых рабочых. Частка іх сама запіша свае ўспаміны, другім запішуць літгурткоўцы—не на вечары, а дома ў гэтых рабочых. Арганізаваць нарысы пра лепшых ударнікаў, апісаць асобныя моманты, найбольш яркія, паказальныя, з барацьбы за промфінплан, з класавай барацьбы на заводзе--ўсё гэта ў сілах зрабіць нашы літгурткі. А канчаткова «адшліфаваць»—дапамогуць пісьменнікі. Выдаць такую кніжку і карысна і пачэсна.

«Калі чалавек, які нядаўна навучыўся чытаць наогул і асабліва чытаць газеты, бярэцца старанна чытаць іх, ён міжвольна засвойвае газетныя звароты мовы. Іменна газетная мова ў нас, аднак, таксама пачынае псавацца» (Ленін).

А. ШАШАЛЕВІЧ

# ЯШЧЭ АБ МОВЕ РАЁННАЙ ГАЗЕТЫ

## КОМУНАР ЗАСЛАЎШЧЫНЫ

Пытанне аб мове нашых газет — важнае палітычнае пытанне. Паміж зместам газеты, яе палітычнай насычанасцю і формай — мовай газеты павінна быць поўная адпаведнасць. Роля газеты, як **«калектыўнага прапагандыста, калектыўнага агітатара, калектыўнага арганізатара» (ЛЕНІН)**, ажыццяўляецца ў першую чаргу праз мову, праз бальшэвіцкую, зразумелую шырокім працоўным масам, яркую, вострую мову. Газета — **«адзіны сродак, пры дапамозе якога партыя штодзенна, штогадзінна гаворыць з рабочым класам на сваёй, патрэбнай ёй мове» (СТАЛІН)**.

Таму вельмі важна, якой мовай гавораць нашы газеты з рабочымі, калгаснікамі і працоўным сялянствам. **ЛЕНІН** гаварыў, што партыя павінна **«ўмець і прапагандаваць, і арганізоўваць, і агітаваць найбольш зразумела, найбольш ясна як для гарадской фабрычнай вуліцы, так і для вёскі»**.

Практыка першага бальшэвіцкага другу паказвае наглядна, якое вялікае значэнне надаваў **ЛЕНІН** мове газеты. Сінтакс, граматыка, лексіка газетнай мовы прыцягвалі ўвагу **ЛЕНІНА**. Тав. **Крупская** ў сваіх успамінах піша, што **ЛЕНІН, як рэдактар «ИСКРЫ», быў адказным за стыль, за мову, за кожную коску.** Ленін першы ўзняў пытанне аб ачышчэнні газетнай мовы ад спадчыны старой буржуазнай мовы, ад канцылярска-бюракратычнай мовы. У засмечанні нашай газетнай мовы элементамі гэтай спадчыны Ленін бачыў сур'ёзную перашкоду для будаўніцтва соцыялізма.

Ленін упарта дамагаўся, каб усё, што ідзе ў масы, было **папулярна напісана, даступна** ўсім, каб з газетнай мовы, з мовы друку наогул, былі вытручаны агульныя месцы і фразы, шаблонныя пажаданні і дэкларацыі, абстрактныя разважанні і лозунгі — усё, што з лёгкай рукі апартуністаў лезла ў газеты.

Завет Леніна сур'ёзна заняцца паляпшэннем нашай газетнай мовы, заклік яго абвясціць бязлітасную вайну калечанню нашай масавай мовы партыя і савецкая ўлада сістэматычна праводзяць у жыццё. Совет Народных Камісараў СССР пастановай 9-X-1928 г. прапанаваў усім ведамствам не дапушчаць **«расплыўлівых, не досыць канкрэтных і недаволі дакладных фармулёвак»**, дабівацца выкладання сутнасці мерапрыемстваў **«у яснай папулярнай форме»**, зусім не разглядаць тых праектаў, якія з боку мовы выклікаюць непаразуменні.

Ва ўмовах БССР, дзякуючы правільнай нацыянальнай палітыцы партыі і совецкай улады, наша газетная мова, мова працоўных горада і вёскі, афармляецца ў вельмі спрыяючых умовах. Мерапрыемствы партыі і ўлады па ўнармаванню нашага правапіса, граматыкі, слоўніка даюць усе прадпасылкі, каб стварыць сапраўды патрэбную пралета-

рыяту мову, адтачыць гэту **«найвастрэйшую зброю ў класавай барацьбе».**

Беларуская газетная мова за апошнія гады значна палепшылася. Паміж мовай першых беларускіх совецкіх газет і сучаснай мовай беларускіх газет — дыстанцыя вялікага размеру. Але і зараз мова беларускіх совецкіх газет яшчэ вельмі слабы ўчастак нашага культурнага будаўніцтва. І самае слабае звяно гэтага ўчастка — мова нашых раённых газет.

## 1. ГАВАРЫЦЬ МОВАЙ ЖЫВОЙ І БАДЗЁРАЙ, РАБОЧАЙ МОВАЙ

Мова многіх раённых газет вялая, сухая, неканкрэтная, перапоўненая доўгімі, заблытанымі перыядамі, лішнімі словамі, старадаўнімі канцылярскімі мудраваннямі, бюракратычнымі штампамі. Мова раённых газет — гэта часта суцэльная непісьменнасць, гэта часта **«вада слоў без сэнсу»,** як гаварыў **ЛЕНІН.** Гэта мова часта стаіць ніжэй узроўню жывой мовы мас.

Паляпшэнне мовы нашых раённых газет — неадкладная задача дня, бо раённыя газеты толькі тады выканаюць ускладзеныя на іх абавязкі, калі будуць умела і граматна растлумачваць палітыку партыі і ўрада шырокім калгасным масам і працоўным аднаасобнікам. Раённая газета павінна мець добрую мову, бо гэта газета часта з'яўляецца першай чытанкай для нядаўна ліквідаваўшага сваю непісьменнасць калгасніка і павінна гаварыць з ім коратка, моцна, ярка, **«мовай жывой і бадзёрай, рабочай мовай» (КАГАНОВІЧ).**

Да вырашэння гэтай вялікай задачы некаторыя раённыя газеты яшчэ не прыступілі. Мова іх у занядбанні.

Першае, што зварачае на сябе ўвагу ва ўсіх раённых газетах, гэта стыль, літаратурныя прыёмы газетнай працы. З гэтага боку мова раённых газет вельмі адстае ад патрабаванняў сучаснасці.

Адна з хвароб многіх раённых газет — гэта патрасаючая **граматычная непісьменнасць,** поўнае ігнараванне граматыкі, сінтакса, правапіса. Грубыя карэктарскія памылкі ўвайшлі ў сістэму работы многіх газет. Гэтыя памылкі пераходзяць у лепшым выпадку ў недарэчнасці, ляпсусы, што падрывае аўтарытэт газет, у горшым — у грубыя палітычныя памылкі.

Няправільныя змены слоў, няправільнае іх дастасаванне, доўгія перагружаныя сказы, злоўжыванне перыядамі, няправільная расстаноўка слоў — характэрны для многіх раённых газет. Многія газеты **ігнаруюць знакі прыпынку:** або зусім не ставяць ніякіх знакаў, або механічна злучаюць у адзін доўгі сказ рад зусім самастойных сказаў, перапляляюць іх безліччу косак.

Як прыклад стылістычнай і граматычнай непісьменнасці можна прывесці заслаўскую раённую газету «Комунар Заслаўшчыны».

У адным з перадавых артыкулаў **«Комунара Заслаўшчыны»** чытаем такі сказ:

> **«Ленін... дваў вастрэйшую зброю ў барацьбе капіталістычным светам — большэвіцкую партыю і ВЫВУЧЭННЕ аб пролетарскай рэволюцыі і дыктатуры пролетарыята — МАРКСІМ-ЛЕНІНІЗМ». (Падкрэслена ў абодвух выпадках намі. РЭД).**

Па-першае: чаму «вывучэнне», а не **вучэнне?** Па-другое: гэтае прыкрае **«марксім».** Газета робіць грубую палітычную памылку, прывучаючы каверкаць, скажаць нашы асноўныя палітычныя тэрміны, даючы грунт для «сіцылізма», «касамола» і іншых агілнасцяй.

«Комунар Заслаўшчыны» надзвычай злоўжывае доўгімі сказамі па 20-25 радкоў. Прывядзем прыклад:

„С-гаспадарчы інвентар не рамантуецца. Прыкладам па брыгадзе Жуках больш як поўмесяца не было брыгадзіра, у рэзультаце чаго з маючых 17 плугоў адрамантавача толькі 7 штук, калёсы амаль усе падлягаюць капітальнаму рамонту, але і на сёнешні дзень ніводных не адрамантавалі Кузчя да гэтага часу не працавала з-за таго, што не было каваля, але за апошні час маецца ўжо і каваль, але зруху няма, кузня не рацыянальна выкарыстоўваецца".

Ці не лепш было-б ав. **Бікашоў** напісаць так:

„Жукоўская брыгада поўмесяца ўжо не мае брыгадзіра, Інвентар у брыгадзе не рамантуецца (**кропка**). З 17 плугоў адрамантаваны толькі 7 (**кропка**). Да рамонта калёс, якія амаль усе няспраўныя, яшчэ не прыступілі. Раней не было каваля (**кропка**). Цяпер каваль ёсць, а кузня ўсё-ж не працуе".

Што намі выкінута? «Калёсы ўсе падлягаюць капітальнаму рамонту» — **канцылярскі зварот.** «Зруху няма — **лішняя агульная фраза.** «Кузня нерацыянальна скарыстоўваецца» — **у даным**

**выпадку пра кузню гэтага нельга сказаць, бо яна проста не працуе.** Самые словы «нерацыянальна» — не ўсім будзе зразумела. Мы разбілі гэты непамерна доўгі сказ на некалькі кароткіх, самастойных сказаў. Правільна расставілі знакі прыпынку. Выкінулі лішнія словы. Атрымалася карацей, больш зразумела.

## 2. «ПЛАЧЭЙНЫЯ ВЫНІКІ»

№ 8 газеты «Комунар Заслаўшчыны», асабліва апошняя старонка, цалкам про сіцца ў «музей газетнай халтуры». Тут у заметцы «Замест баявой работы дэкларацыйная траскатня» мы чытаем:

> «Але-ж калі ПАГЛЯДЗІЦЬ (!!) як ажыццяўляюць брыгадзіры ПРАЎЛЕННЯ (!) калгаса і кавалі ўзятыя самаабавязацельствы па падрыхтоўцы да веснавой пасеўкампаніі, то трэба проста сказаць, што ўзятыя самаабавязацельствы засталіся толькі на паперы, ДЗЕ ДЗЕКЛАРАЦЫЙНАЙ (!) траскатнёй, ШТО ПРАЎЛЕННЯ (!) НЕ ПЕРАБУДАВАЛА СВАЁЙ РАБОТЫ КІРАВАЦЬ КАНКРЭТНА, (!!!), а працягвае кіраваць пастарынцы наогул у рэзультаце чаго гавораць многа пра пасеўную кампанію, але вынікі ад гэтай гаварыльні, АТРЫМЛІВАЮЦЬ — ЗУСІМ ПЛАЧЭЙНЫЯ» (падкрэслена ўсюды намі — РЭД.).

Гэты сказ-страшыдла—ўзорчык непісьменнай палітычнай траскатні з даволі «плачэйнымі вынікамі», гаворачы мовай самой газеты.

Папершае, трэба было напісаць **паглядзець**, а не «пагледзіць», **праўленне**, а не «праўлення», **дэкларацыйнай**, а не «дзе дзекларацыйнай», **атрымліваюцца**, а не «атрымліваюць», **плачэўныя**, а не «плачэйныя».

Падругое, пасля слова гаварыльня зусім не трэба было ставіць коску, як і пасля слова атрымліваюць не патрэбен працяжнік.

Патрэцяе: зусім бяссэнсна, непісьменна пабудавана фраза «не перабудавала сваёй работы кіраваць канкрэтна».

Гэта можна было-б напісаць так:

> **«Як выконваюць брыгадзіры, кавалі і праўленне калгаса ўзятыя самаабавязацельствы ў падрыхтоўцы да сяўбы? Абавязацельствы засталіся на паперы, пустой балбатнёй. Праўленне не перабудавала сваёй работы, кіруе неканкрэтна. Многа гавораць пра пасеўную кампанію, а вынікаў няма».**

## 3. «ЯКІЯ ЎКЛЮЧЫЛІСЯ І ЯКІЯ НЕ ЎКЛЮЧЫЛІСЯ»

Якой мовай «Комунар Заслаўшчыны» падае на сваіх старонках афіцыяльныя матэрыялы? Перад намі інфармацыя, падпісаная прадстаўніком Заслаўскага РК ЛКСМБ Сакольчыкам і сакратаром ячэйкі ЛКСМ Турамшай. Прывядзем поўнасцю адзін сказ з гэтай інфармацыі:

> «На агульным сходзе ячэйкі КСМ калгаса «ОДПУ» Шарунскага сельсовета па пытанню аб удзеле комсамола ў ходзе і выкананні гаспадарча-палітычных кампаній і распрацоўкі пастановы ЦК ЛКСМБ аб правядзенні ўсебеларускага суботніка ў фонд умацавання і абароназдольнасці нашай краіны, агульны сход, адабраючы ініцыятыву комсамола і рабочай моладзі фабрыкі «Окцябр», «КІМ» і інш. прадпрыемстваў г. Менска аб правядзенні ў адзнаку XV з'езда КП(б)Б і 15-годдзя з дня абвяшчэння БССР. Усебеларускага суботніка ў фонд умацавання абароназдольнасці нашай краіны пастанавіў 14-І-34 г. правесці масавы суботнік па лесавывазцы».

Пакуль прачытаеш гэты сказ да канца, дык забудзеш, аб чым гаварылася ў пачатку. А прачытаўшы, трэба добра пакруціць мазгамі, пакуль здагадаешся, якая была пастанова ЦК ЛКСМБ, у чым выявілася ініцыятыва комсамола менскіх прадпрыемстваў і т. д.

Або яшчэ адзін прыклад. Начальнік штаба **«конкурса на лепшую ячэйку КСМ па кіраўніцтву піонерарганізацыяй»** у гэтай-жа газеце дае «загад»:

> «Усе ячэйкі КСМ, важатыя піонерарганізацыі, якія ўжо ўключыліся ў конкурс, якія яшчэ не ўключыліся, павінны ўключыцца і даслаць звесткі ў РК ЛКСМБ аб узятых на сябе канкрэтных абавязацельстваў у штодзённым кіраўніцтве піонер арганізацыі».

Да чаго даводзіць граматычная і сінтаксічная непісьменнасць мовы «Комунара Заслаўшчыны», можна судзіць хоць-бы па такім сказам:

> «Працуе чырвоная і чорная дошка на насценгазеты». «Неяк радасна, весела,

**як на гэты свет нарадзілася, аж памападзела».**

**«Узяў абавязак Майсеенка, але забяспечвае выканання, ён на 16-І-34 г. выканаў план толькі на 6 проц.».**

Вось і папрабуйце разабрацца, як гэта «працуе чырвоная і чорная дошка насценгазеты». Папрабуйце згадзіцца з запэўніваннем «Комунара Заслаўшчыны», што Майсеенка «забяспечвае выкананне» свайго абавязку, калі члан лесавывазкі (па справаздзе самой-жа газеты) ён выканаў толькі на 6 проц.

Калі верыць заслаўскай газеце, дык у свінагадоўчай ферме аднаго калгаса свінні вельмі выхаваныя. Яны самі, як піша газета,

**«сваячасова пачалі карміцца, якія хутка пачалі папраўляцца, станкі кожны раз чысцяць і падсцілаюць сухой саломай, карыта мыюць».**

Словам, поўнае самаабслугоўванне.

Свінні не могуць самі пачаць своечасова карміцца, тав. Бікашоў. Трэба было напісаць у газеце так: **«Свіней пачалі своечасова карміць, ад чаго яны сталі папраўляцца».**

Як неахайнасць у апрацоўцы матэрыяла, ігнараванне сур'ёзнай праўкі прыводзіць да грубых палітычных памылак, можна прадэманстраваць на такім сказе ў тым-жа «Комунары Заслаўшчыны»:

**«даць у любы момант рашучы ўдар усім тым, хто пасягае на чыстку (?!?) генеральнай лініі партыі і заваёў кастрычніка».**

(№ 3 ад 8 студзеня 1934 г.).

Узораў скажэння беларускай мовы, стылістычнай і граматычнай непісьменнасці «Комунара Заслаўшчыны», даходзячай да анекдотаў, можна было-б прывесці безліч.

Рэдактар газеты тав. Бікашоў ужо не раз папярэджваўся аб недапушчальнасці такіх адносін да мовы газеты. Мы патрабуем ад т. Бікашова і ўсяго калектыва рэдакцыі газеты «Комунар Заслаўшчыны»: **кіньце саноўна-панскія адносіны да чытача газеты**—рабочага, калгасніка, працоўнага аднаасобніка. **Дайце яму ясны, зразумелы, граматны артыкул, карэспандэнцыю.** А для гэтага **засядзьце за правапіс, за граматыку, сінтакс, аўладайце тэхнікай газетнай справы і з большай адказнасцю, уважлівей, акуратней праўце матэрыял.**

---

## ВЫСТАЎКА РАБОЧАГА ВЫНАХОДСТВА



Цэнтральным Домам тэхнікі ў Менску арганізавана пастаянная выстаўка рабочага вынаходства. Ёсць кансультацыйнае бюро па ўсіх пытаннях вынаходства і рацыяналізацыі.

На здымку: горкаўскія рабочыя - вынаходцы разглядаюць мадэль механізаванай парылкі для кражаў (фанерная вытворчасць).

> «...1933 г. — першы год пасля сканчэння рэарганізацыйнага перыяда—з'яўляецца пераломным годам у развіцці зернавых і тэхнічных культур. Гэта значыць, што зернавыя культуры перш за ўсё, а за імі — тэхнічныя культуры ад гэтага часу будуць ісці да магутнага ўздыму цвёрда і ўпэўнена».
>
> СТАЛІН, з прамовы на XVII з'ездзе ВКП(б).

Юр. БЕЛЬКО

З практыкі работы раённага друку

# 30 ДЗЁН БОЛЬШЭВІЦКАГА ШТУРМА




## ГАЛОЎНЫ ЭКЗАМЕН — ІЛЬНАЗАГАТОЎКІ

Ільназагатоўкі мінулага года былі для раённага і нізавога друку **Полаччыны** баявым экзаменам, праверкай яго здольнасці набольшэвіцку змагацца за гэту важнейшую задачу партыі і ўрада. І трэба сказаць, што як раённая газета «**Чырвоная Полаччына**», так і палітаддзельскія газеты — «**За большэвіцкія калгасы**» (Ветрынская МТС) і «**Палітаддзельская праўда**» (Полацкая МТС) гэты экзамен вытрымалі.

Полацкі раён **ільнаводчы**. Адсюль зразумела, што ільназагатоўкі для райпартарганізацыі з'яўляліся іменна той асноўнай задачай, на вырашэнне якой патрабавалася аддаць галоўныя сілы і ўвагу.

«**Чырвоная Полаччына**», а таксама і газеты палітаддзелаў з самага пачатку ільназагатовак разгарнулі вялікую **масавую** работу ў калгасах. Найбольш важным мерапрыемствам у гэтым напрамку з'яўляецца работа **выязной рэдакцыі газет «Чырвоная Полаччына» і «За большэвіцкія калгасы» ў Нацкім, Шпакоўшчынскім і Гарадоцкім** сельсоветах.

Ветрынская МТС абслугоўвае калгасы, пераважная большасць якіх маюць ільнаводчы напрамак. Таму асноўны цяжар ільназагатовак ускладаўся на раён дзейнасці Ветрынскай МТС. У пачатку ільназагатовак Ветрыншчына адставала. Першае месца займалі калгасы Полацкай МТС. І калі ў рэдакцыі «Чырвонай Полаччыны» абмяркоўвалі, куды пасланць выязную, дык выбар адразу спыніўся на Ветрыншчыне. Было вырашана ехаць у раён дзейнасці Ветрынскай МТС, выбраць самыя адстаючыя сельсоветы і дабіцца ліквідацыі ў іх прарыву.

## «АМЕРЫКАНКА» УСТАНОЎЛЕНА НА ГРУЗАВІК

20-га лістапада ўдзельнікі выязной рэдакцыі зранку былі на нагах. Заканчваліся апошнія падрыхтаванні да ад'езду. Кіраўніцтва выязной узяў на сябе **адказны рэдактар «Чырвонай Полаччыны» т. Рабіновіч**. Разам з ім выязджалі яшчэ два работнікі рэдакцыі. На месцы ў Ветрыне да выязной павінен быў далучыцца работнік газеты «За большэвіцкія калгасы».

К вечару ўсё было гатова. На паўтаратонным грузавіку «АМО» галоўнае месца занялі «амерыканка», якая заўсёды была неадменным спадарожнікам выязных «Чырвонай Полаччыны», і касы са шрыфтамі. Вечарам у той-жа дзень у палітаддзеле Ветрынскай МТС адбылася кароткая нарада ўдзельнікаў выязной з работнікамі палітаддзела. Высветлілася, што самымі адстаючымі па ільназагатоўках былі сельсоветы Нацкі, Шпакоўшчынскі і Гарадоцкі. Гэтыя сельсоветы і былі вызначаны ў якасці раёна дзейнасці выязной. Перад выязной была пастаўлена задача — **дапамагчы палітаддзелу**

**ліквідаваць адставанне гэтых сельсоветаў і вывесці іх у рады перадавікоў па ільназагатоўках.**

Роўна месяц працавала выязная. За гэты час выпушчана 18 нумароў бюлетэня пад назвай **«Чырвоная Полаччына»** і **«За большэвіцкія калгасы» ў барацьбе за лён».** Апрача таго выязная рэдакцыя правяла ў калгасах і сярод аднаасобнікаў сельсоветаў вялікую масавую работу. Метады масавай работы выязной заслугоўваюць таго, каб быць скарыстанымі іншымі нашымі газетамі. Таму мы на іх спынімся падрабязней.

## АБ «ПАДПОЛЬНЫХ» СЕЛЬКОРАХ І ІХ «НАСЦЕНГАЗЕТАХ»

Пачала выязная з наладжвання сувязі з усімі калгасамі і вёскамі. Селькораўскі рух у калгасах гэтых сельсоветаў быў зусім слабы, насценгазеты амаль зусім не выходзілі. Патрэбна было выявіць у кожным калгасе актыў, лепшых ударнікаў і прыцягнуць іх да ўдзелу ў бюлетэні і ва ўсіх масавых мерапрыемствах, што праводзіліся выязной. Трэба было таксама дабіцца, каб у кожным калгасе рэгулярна выходзіла насценгазета, і ўключыць насценгазеты і селькораў у штурм за лён.

Для гэтага выязная рэдакцыя расставіла свае сілы наступным чынам. Друкарня была абсталявана ў вёсцы **Арэхаўцы** (Нацкі сельсовет), якая знаходзіцца прыблізна на аднолькавай адлегласці ад большасці паселішч усіх трох сельсоветаў. Адзін работнік выязной заставаўся заўсёды пры друкарні, ён рэдагазаў бюлетэнь. вярстаў яго і забяспечваў рассылку. Астатнія работнікі былі прымацаваны да сельсоветаў. Прымацаваныя да сельсоветаў работнікі арганізоўвалі матэрыял для бюлетэня, праводзілі масавую работу ў калгасах, а таксама арганізоўвалі хуткае распаўсюджанне бюлетэня. Такім чынам выязная рэдакцыя з першых-жа дзён наладзіла **жывую** сувязь з усімі сельсоветамі, якія яна абслугоўвала.

Кожны дзень, калі выходзіў бюлетэнь, з Гарадоцкага і Шпакоўшчынскага сельсоветаў накіроўваліся ў вёску Арэхаўку **нарачныя.** Яны забіралі з сабою надрукаваны бюлетэнь і пакідалі ў выязной рэдакцыі дописы і матэрыялы, сабраныя ў калгасах свайго сельсовета. Нарачныя адразу-ж варочаліся назад і ў дзень выхаду — увечары бюлетэнь ужо чыталі ў калгасах. Для большага прасоўвання бюлетэня ў масы выязная рэдакцыя мабілізавала сабе на дапамогу брыгадных чытчыкаў, якія актыўна ўключыліся ў чытку бюлетэня ў брыгадах, па ільнамяльных пунктах. Выязная рэдакцыя правяла інструкцыйную нараду чытчыкаў, а таксама штодзенна давала ім указанні як праводзіць чыткі, на што рабіць упор.

Цяжэй было з арганізацыяй у калгасах і брыгадах насценгазет. У дні штурму ільназагатовак асабліва моцна дала сябе адчуць дрэнна пастаўленая ў калгасах работа з рабселькорамі.

Характэрны факт выявіўся ў калгасе **«Комінтэрн»,** Гарадоцкага сельсовета. У першы дзень прыезду ў гэты калгас работнікаў выязной прыцягнулі ўвагу невялікія паперкі, расклееныя на самым відным месцы вёскі. Паперкі аказаліся своеасаблівымі... «насценгазетамі». У вершаванай форме невядомыя аўтары крытыкавалі недахопы калгаса. У калгасе не было ні выяўленых селькораў, ні рэдкалегіі. І толькі праз некалькі дзён было высветлена, што паперкі пісаліся і расклейваліся мясцовымі селькорамі, якія працавалі ў глыбокім «падполлі». Прышлося доўга растлумачваць ім, што «падпольныя» метады работы ні ў якім разе не могуць адпавядаць задачам, што ставіць перад селькорамі партыя. Паданы прыклад ярка ілюструе, да якіх скажэнняў у рабоце селькораў прывяла адсутнасць кіраўніцтва імі з боку партячэек і партарганізатараў.

## НА ІЛЬНАМЯЛЬНЫМ ПУНКЦЕ ВЫХОДЗІЦЬ ШТОДЗЕНКА

У далейшым арганізаваная ў калгасе «Комінтэрн» насценгазета паказала лепшыя ўзоры барацьбы за лён. Вывешвалася яна непасрэдна на ільнаапрацовачным пункце. Кожную раніцу калгаснікі чыталі свежы нумар. У той час калгас «Комінтэрн» па выкананню ільназагатовак быў у хвасце амаль усіх калгасаў раёна дзейнасці Ветрынскай МТС. Вось што пісалася пра калгас у бюлетэні за 28 лістапада:

**«Ільнатраста ў калгасе нікім не ахоўваецца і раскідана, дзе папала. У брыгадзе Словецкага яна стаіць і мокне ля калгасных будынкаў. Трасту блытаюць і расцягваюць свінні... Ільнамялка валяецца на агародзе».**

Насценгазета адразу ўзяла пад абстрэл усе гэтыя агіднасці. На старонках насценгазеты былі выкрыты нядбайнікі, гультаі і прагульшчыкі. Жорсткая крытыка штодзёнкі прымусіла падцягнуцца адстаючых. У выніку калгас «Комінтэрн», які раней адставаў, выканаў план здачы ільну адным з першых на Бетрыншчыне.

## СІЛА НАСЦЕНГАЗЕТЫ ПЕРАМАГЛА

Яркім прыкладам дзейснасці масавай работы выязной і селькораў з'яўляецца шлях да перамогі ў ільназагатоўках калгаса **імя Крупскай.** Гэта адзін з буйнейшых ільнаводчых калгасаў Шпакоўшчынскага сельсовета. Прычыны прарыву па ільназагатоўках, у якім калгас знаходзіўся ў канцы лістапада, былі выкрыты на старонках бюлетэня.

> **66 цэнтнераў ільнавалакна, або 45 проц. плана не выканаў яшчэ калгас імя Крупскай, 50 проц. жанчын не выходзяць на работу. За лён у калгасе наогул ніхто не адказвае. Старшыня калгаса Новаш збіраецца арганізаваць работу такімі «тэмпамі», каб скончыць здачу ільну... 20 снежня.**

— пісалася ў бюлетэні 30-га лістапада.

Выязная рэдакцыя ўзяла калгас пад свой асабісты нагляд. У калгас быў пасланы работнік выязной з заданнем наладзіць масавую работу, арганізаваць насценгазеты, мабілізаваць селькораўскі актыў на хутчэйшае выкананне ільназагатовак.

І выязная практычна дапамагла калгасу імя Крупскай ліквідаваць адставанне. На ільнаапрацовачным пункце калгаса была арганізавана насценгазета. Баявая аператыўная штодзёнка з першых-жа нумароў накіравала свой агонь на галоўныя прычыны прарыву ў апрацоўцы ільну. Прагульшчыкі і гультаі былі рэзка раскрытыкаваны, на іх былі намаляваны вострыя карыкатуры. Гэта адразу зрабіла вялікае ўздзеянне. Руткоўскую Н., Шабан П., Дзямянчонак В. і Мацюш Зосю ў калгасе лічылі непапраўнымі гультайкамі і прагульшчыцамі. Аднак, сіла насценгазеты перамагла. Варта было ўсяго адзін раз раскрытыкаваць іх, як яны рэзка змянілі свае адносіны да работы. Руткоўская, Шабан, Мацюш Зося і іншыя, прачытаўшы насценгазету, арганізавалі асобную брыгаду і паршылі паказаць, чаго яны варты. І гэтыя яшчэ нядаўна самыя злосныя прагульшчыцы **да канца ільназагатовак штодня выконвалі нормы па трапанню ільну.** Уздзейнічала насценгазета і на **Дземянчонка Захара,** які нядбайна адносіўся да ільнамялкі, і на шмат іншых калгаснікаў і калгасніц. Штодня асвятляўся ў насценгазетах ход апрацоўкі ільну і здачы яго дзяржаве, адзначалася выпрацоўка кожнага калгасніка і калгасніцы.

Калі ўважліва прачытаць змест нумароў бюлетэня выязной, дык робіцца ясным, як калгас імя Крупскай выходзіў з прарыву і ўпэўнена ішоў да перамогі. Ужо 12 снежня бюлетэнь заклікае ўсе калгасы вучыцца, як патрэбна арганізоўваць апрацоўку ільну і выконваць ільназагатоўкі ў калгасе **імя Крупскай.** На першай паласе гэтага нумара змешчаны два артыкулы. У артыкуле **«Як калгас імя Крупскай заваяваў перамогу»** расказваецца пра ўзорную арганізацыю апрацоўкі ільну ў гэтым калгасе, пра лепшых ударніц Варанцовых Надзю і Тамару, пра Заблоцкую Марылю і іншых, расказваецца пра баявыя лісткі-штодзёнкі, якія дапамаглі наладзіць дысцыпліну і парадак на ільнаапрацоўчым пункце.

## АГІТАВАЛІ КАНКРЭТНЫМІ ПРЫКЛАДАМІ

І тут-жа ў артыкуле **«У калгасе «Ільіч» няма барацьбы за лён»** бюлетэнь выкрывае недахопы ў арганізацыі ільнаапрацоўкі, якія тыповы не толькі для калгаса «Ільіч», але і для большасці адстаючых калгасаў. Асноўны недахоп—**нізкая дзенная выпрацоўка, дрэннае скарыстанне машын.** У калгасе «Ільіч», напрыклад, калгаснік Серафімаў намінаў у дзень **толькі два фунты** ільну, калгасніца Гімра—**4 фунты.** Сабатажніцкія элементы вялі агітацыю сярод калгаснікаў, што нормы, вызначаныя мяльшчыцам і трапальшчыцам, не рэальныя. Бюлетэнь ушчэнт разбівае гэту кулацкую хлусню, але робіць гэта ён не крыкам і голымі заяўленнямі, **а прыкладамі,** супроць якіх пярэчыць нельга. Лепшым доказам рэальнасці норм і з'яўляецца якраз паказ у бюлетэні работы ільнатрапальшчыц-ударніц калгаса імя

Крупскай, якія не толькі выконвалі, але і перавыконвалі нормы.

### ШТО АБУМОВІЛА ПЕРАМОГУ

Можна было-б прывесці яшчэ шмат прыкладаў, як адстаючыя калгасы падцягваліся, даганялі перадавых дзякуючы актыўнай дапамозе выязной рэдакцыі і яе бюлетэня. Мы падрабязна спыніліся на прыкладах калгасаў «Комінтэрн» і імя Крупскай для таго, каб паказаць, як выязная рэдакцыя арганізоўвала сваю работу. Каштоўнае тут заключаецца ў тым, што яна не абмежавалася выключна тым, што выпускала бюлетэнь, а **разгарнула адначасова масавую работу ў калгасах.** Масавая работа дала магчымасць выязной згрупаваць вакол сябе **моцны актыў.** Калі ў пачатку для бюлетэня трэба было арганізоўваць матэрыял выключна работнікам выязной, дык праз няпідзеўку маленькі размер бюлетэня не мог змясціць усіх дапісаў, што паступалі ад селькораў, насценгазет, ад калгаснікаў і калгасніц. Калі раней у калгасах Нацкага, Гарадоцкага і Шпакоўшчынскага сельсаветаў не выходзіла амаль ні адна насценгазета, дык за час работы выязной **арганізаваны насценгазеты ва ўсіх калгасах.** У рашаючыя дні ільназагатовак **на многіх ільнаапрацоўчых пунктах выходзілі штодзенкі.** Гэта была ўжо вялікая сіла ў дапамогу палітаддзелу і выязной у барацьбе за заваяванне Ветрыншчынай і ўсім Полацкім раёнам першага месца ў рэспубліцы па выкананню ільназагатовак.

Выязная рэдакцыя правяла яшчэ некалькі важных масавых мерапрыемстваў. У кожным сельсовеце былі праведзены па два злёты рабселькораў і членаў рэдкалегій насценгазет. На злётах ставілася толькі адно пытанне: **абмен вопытам барацьбы за лён паміж рэдкалегіямі насценгазет.**

У адзнаку падрыхтоўкі да з'езду партыі выязная рэдакцыя разам з палітаддзелам правяла **сельсовецкія злёты ўдарнікаў ільназагатовак.** Права на ўдзел у злёце патрэбна было заваяваць выкананнем плана здачы ільну дзяржаве і добрай яго якасцю. На старонках бюлетэня шырока асвятляўся ход падрыхтоўкі злётаў, паведамлялася, як асобныя калгасы і аднаасобнікі змагаюцца за права прымаць удзел у злёце перадавікоў. Падрыхтоўчая работа дала свае вынікі. У Нацкім сельсовеце, напрыклад, прымалі ўдзел ў злёце **амаль усе калгасы** сельсовета, бо да злёта яны ўжо выканалі ільназагатоўкі. Былі на злёце і аднаасобнікі, якія своечасова разлічыліся з дзяржавай. Злёт поўнасцю ператварыўся ў яркую дэманстрацыю дасягненняў калгасаў папярэдадні з'езду партыі. Перадавыя аднаасобнікі, разлічыўшыся з дзяржавай, падалі заявы аб уступленні ў калгас. За ўвесь час работы выязной па трох сельсоветах у калгасы ўступіла 75 працоўных аднаасобнікаў.

**
*

30 дзён работы выязной былі днямі бальшэвіцкага штурму плана ільназагатовак. Перамога далася нялёгка. І калі калгасы Ветрынскай МТС першымі ў Полацкім раёне выканалі ільназагатоўкі, то выязная рэдакцыя газет «Чырвонай Полаччыны» і «За бальшэвіцкія калгасы» адыграла ў гэтым вялікую ролю.


Палеская праўда
У вагонным участку
У дні партз'езда дабіцца нярэзнага паляпшэння якасці рамонта вагонаў
Якасць—галоўнае
„Хто каго ашукае"
Колькасць без якасці—ашуканства дзяржавы

«ПАЛЕСКАЯ ПРАЎДА» АРГАНІЗАВАЛА ВЫДАННЕ АПЕРАЦЫЙНАГА БЮЛЕТЭНЯ Ў ВАГОННЫМ ДЭПО (ГОМЕЛЬ). НА ЗДЫМКУ: ПЕРШЫ НУМАР ГАЗЕТЫ «ПАЛЕСКАЯ ПРАЎДА Ў ВАГОННЫМ ДЭПО».

**Ц. ДЗЕРАХ**

# УЛІЧЫЦЬ СУМНЫ ВОПЫТ „УДАРНІКА КАЛГАСНЫХ ПАЛЁЎ“

Рэдактар палітаддзельскай газеты **«Ударнік калгасных палёў»** тав. **Маеўскі** (Менская МТС) веснавую сяўбу парашыў сустрэць з падрыхтаваным атрадам работнікаў нізавога калгаснага друку. Ён вырашыў па ўсіх семі сельсоветах зоны дзейнасці МТС правесці курсы рэдактароў калгасных і брыгадных газет, ахапіць курсамі ўсіх членаў рэдкалегій. Не менш 200 чалавек членаў рэдкалегій і селькораўскага актыва павінны былі па плану рэдактара прайсці праз гэтыя курсы.

Начальнік палітаддзела тав. **Плетнёў** ухваліў ініцыятыву рэдактара.

Для набліжэння курсаў да калгасаў, для большай іх спецыялізацыі было зусім правільна вырашана правесці іх не ў цэнтры МТС, а ў кожным сельсовеце паасобна. Тэрмін для курсаў устанавілі тры дні. Вызначылі такую праграму:

1. Чарговыя задачы калгаснага будаўніцтва ў святле тэзісаў да XVII з'езда ВКП(б).
2. Задачы палітаддзельскага друку.
3. Як арганізаваць работу рэдкалегіі агульна-калгаснай і брыгаднай насценгазеты.
4. Як арганізаваць масавую работу калгаснай газеты і работу з селькорамі.

Закончыць курсы рашылі правядзеннем сельсавецкага рэйда праверкі гатоўнасці калгасаў да веснавой сяўбы і выпускам спецыяльных нумароў газет па калгасах, прысвечаных вынікам рэйда.

Але, калі не так цяжка было дагаварыцца аб правядзенні курсаў, намеціць праграму і даць адпаведную дырэктыву партыйным ячэйкам, дык значна цяжэй справа аказалася з практычным ажыццяўленнем намечаных мерапрыемстваў.

Напершае, культпроп гаркома абяцаў аказаць дапамогу ў вызначэнні кіраўнікоў для правядзення курсаў. Калі-ж справа дайшла да выканання абяцання, дык «аказалася магчымым» мабілізаваць на гэту справу толькі трох чалавек. І таму курсы прышлося распачаць толькі ў трох сельсоветах.

Падругое, ніхто не праверыў выканання дырэктыў партыйнымі ячэйкамі аб падборы людзей і падрыхтоўцы курсаў.

Сакратар партыйнай ячэйкі калгаса **«Ленінскі шлях», Самахвалавіцкага сельсовета, т. Патапаў** зусім не палічыў патрэбным займацца падрыхтоўкай рэдактароў насценных газет. На курсы ён не паслаў ні аднаго чалавека. Калгас-жа «Ленінскі шлях» з'яўляецца самым буйным у зоне дзейнасці МТС. Пры такіх адносінах зусім не дзіва, што курсы ў Самахвалавіцкім сельсовеце зусім сарваліся, на іх прыбылі толькі 4 чалавекі.

Крыху лепш курсы прайшлі ў **Грычанскім сельсовеце**. Тут было ахоплена 20 чалавек больш-менш пастаянных слухачоў. Але і тут да падбору людзей на курсы ячэйкі падышлі фармальна. Пасылалі тых, хто мае вольны час. Значную віну за зрыў курсаў нясуць рэдактары фабрычна-заводскіх шматтыражак, якія шэфствуюць над асобнымі сельсоветамі. Пры арганізацыі курсаў з імі была праведзена нарада і на абяцанкі і абавязацельствы яны не паскупіліся. Але калі прышла справа да практычнай работы, дык ні **Феллер** (рэдактар «Варашылаўца»), ні **Мінкін** (завод «Бальшавік») не дапамаглі ў падрыхтоўцы і правядзенні курсаў. А дапамагчы яны маглі многа чым.

Нарэшце, нельга зняць віны за праваль курсаў і з самога тав. Маеўскага. Ён паверыў таму, што раз намечаны мерапрыемствы і даны дырэктывы, дык усё будзе ў парадку. Ён не заняўся праверкай, як ячэйкі рыхтуюцца да курсаў, не дабіўся прыцягнення да адказнасці канкрэтных вінаватых у зрыве падрыхтоўкі і работы курсаў.

Рэдактарам другіх палітаддзельскіх газет трэба сур'ёзна ўлічыць сумны вопыт газеты «Ударнік калгасных палёў», падрыхтоўку да курсаў весці больш сур'ёзна і глыбока.

Падрыхтоўка кадраў для нізавога калгаснага друку — сур'ёзная і адказная справа.

Р. СІМХОВІЧ

# СТАЦЬ АРГАНІЗАТАРАМІ *ВЫНАХОДНІЦКАЙ ДУМКІ*

Яшчэ ў 1930 годзе ЦК ВКП(б) падкрэсліў, што **«ў перыяд аграмаднага росту соцыялістычнага будаўніцтва і творчай ініцыятывы рабочага класа выключнае значэнне набывае масавае вынаходства, як адна з важнейшых форм непасрэднага ўдзелу рабочых у соцыялістычнай рацыяналізацыі вытворчасці»**.

Раённыя газеты, якія павінны з'явіцца арганізатарамі вынаходніцкай думкі, прапагандыстамі лепшых рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў, лепшага вопыта як у вытворчасці, так і сельскай гаспадарцы, да гэтага часу не звярнулі на гэты ўчастак увагі. Указанні ЦК ВКП(б) аб неабходнасці **«забеспячэння найбольш поўнага асвятлення пытанняў вынаходства ва ўсім друку»**—забыты.

ЦК КП(б)Б яшчэ 23-га кастрычніка мінулага года быў абвешчан усебеларускі паход па зборы рацыяналізатарскіх прапаноў, вынаходстваў і выяўленні лепшага вопыта ў сельскай гаспадарцы. Раённыя газеты на мясцах павінны былі дапамагчы мясцовым арганізацыям разгарнуць як след работу па ўсебеларускаму паходу і арганізаваць на сваіх старонках перадачу лепшага вопыта ў сельскай гаспадарцы. Гэтага газеты не зрабілі. За час паходу (які яшчэ працягнут да 15-га лютага) непасрэдна ў ЦБ'рыз НКЗБ паступіла звыш 40 вынаходстваў і рацыяналізатарскіх прапаноў. Нямала такіх-жа прапаноў атрымана на мясцах ад калгаснікаў і рабочых соўгасаў раённымі штабамі па паходу.

Узяць хоць-бы Барысаўскі раён, дзе мы маем штодзенную раённую газету **«Большэвік Барысаўшчыны»**. У гэтым раёне мы маем рад каштоўных вынаходстваў і прапаноў. Калгаснік калгаса «Рой» т. **ЧАЙКО** зрабіў сеялку для высеву попелу. Сеялка дае эканомію працадзён, роўнамерна рассявае попел па полю і зберагае здароўе калгасніка.

Старшыня другога калгаса **КАВАЛЬЧУК** у вопытным парадку правёў пасеў лубіну па жыту перад красаваннем жыта, у выніку чаго атрыман ураджай зялёнай масы ў 300 цэнтн. Старшыня калгаса імя Леніна **ЛЮБАСЕЙ** арганізаваў пасадку бульбы ў градкі, куды пасля пасадкі закладваўся гной, а пасля ішла заделка гною. Гэты спосаб пасеву ў градкі даў эканомію гною на 40 проц. і атрыман ураджай 153 цэнтн. з га. Такі-ж пасеў у градкі праводзіўся ў калгасе «Чырвоны гай». Калі перанесці гэты вопыт на ўсё БССР пры ўраджаі 120 цэнтн. з га, які атрыман у калгасе «Чырвоны гай», мы будзем мець вельмі вялікі ўраджай бульбы.

На плошчы 620.000 га, якая засяваецца бульбай у БССР можна атрымаць на 24 мільёны цэнтнераў бульбы больш. чым мы атрымліваем звычайным спосабам пасеву. Апрача гэтага можам з'эканоміць насеннай бульбы 12 мільёнаў 400 тыс. пудоў і з'эканомім 900.000 тыс. рабочых дзён. Гэтыя лічбы гавораць самі за сябе, якое значэнне мае перанясенне лепшага вопыта сельскай гаспадаркі ў практыку работ астатніх калгасаў і соўгасаў.

Але «Большэвік Барысаўшчыны», пачынаючы з самага пачатку ўсебеларускага паходу і па сёньняшні дзень, яшчэ нават не заікнуўся пра гэта вынаходства. Прагледзеўшы ўвесь комплект газеты за кастрычнік, лістапад, снежань і студзень, мы не знайшлі там ніводнага радка аб вопыце тт. Чайко, Кавальчука.

У тэзісах дакладаў тт. **Молатава і Куйбышэва** мы чытаем: **«З'езд указвае на неабходнасць найшырэйшага разгортвання работы навукова-тэхнічных інстытутаў і асабліва лабараторый. Навукова-тэхнічная і вынаходніцкая думка павінна стаць моцнай зброяй у справе ўкаранення новай тэхнікі, арганізацыі новых відаў вытворчасці, новых відаў выкарыстоўвання сыравіны і энергіі»**.

Трэба арганізаваць увесь нізавы калгасна-соўгасны і фабрычна-заводскі друк і рабселькораў на ўкараненне новай тэхнікі, на разгортванне масавага вынаходства.

«РАБСЕЛЬКОРЫ СТАНОВЯЦЦА ПАД КІРАЎНІЦТВАМ ПАРТЫІ АРГАНІЗАТАРАМІ МАС ДЛЯ СПРАВЫ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА БУДАЎНІЦТВА, ВЫКАНАННЯ ВЫТВОРЧЫХ ПЛАНАЎ І РАЗГОРНУТАГА НАСТУПЛЕННЯ НА КЛАСАВЫХ ВОРАГАЎ».

(З пастановы ЦК ВКП(б) ад 16 красавіка 1931 года).

Е. ВАЛЬФСОН

Работа з пісьмом

# „ПОДПІС НЕ РАЗБОРЧЫВА—У АРХІЎ"


Калгасная праўда
№ 5 (155)
19 студзень 1934 г.

Кожны работнік бальшэвіцкага друку павінен добра разумець, што калі газета не звязана з масамі рабочых і сялян, калі яна не мае моцнага рабселькораўскага актыва, яна не можа быць боездольнай. Калі газета не змяшчае селькораўскіх карэспандэнцый і пісем працоўных, не дабіваецца хуткага і вычарпальнага рэагавання на іх, — значыць такая газета працуе на халастым ходу, не выконвае ролі калектыўнага арганізатара. У лепшым выпадку яна асуджана на спозненую рэгістрацыю фактаў. Неабходнасць узорнай пастаноўкі работы з пісьмамі працоўных у кожнай газеце не раз падкрэслівалася ў пастановах ЦК КП(б)Б. І ўсё-ж яшчэ зараз знаходзяцца газеты, якія не хочуць працаваць з пісьмамі, не хочуць выконваць простых і ясных указанняў нашай партыі.

Яркім прыкладам гэтага з'яўляецца асіпавіцкая **«Калгасная праўда»**.

Нялёгкая справа знайсці на старонках гэтай газеты пісьмо селькора або калгасніка. Пераважную большасць матэрыялаў пішуць самі работнікі рэдакцыі. І калі ўсё-ж пасля доўгага перагортвання камплекта сустракаюцца пісьмы селькораў, дык аўтары іх замаскаваны пад самымі рознастайнымі псеўданімамі. Характэрны ў гэтых адносінах нумар за 10 снежня 1933 года. У гэтым нумары выпадкова змешчана некалькі селькораўскіх заметак. Заметка **«Рэалізацыя пазыкі — закінуты ўчастак»** падпісана псеўданімам **«Ведаючы»**, пад заметкай **«Аблігацыі марынуюцца ў кішэні»** — допіс **«Сусед»** і далей змешчаны заметкі з подпісамі **«Прысутны»**, **«Сем подпісаў»** і **«К»**.

Асіпавіцкія селькоры, як відаць, не адважваюцца выступаць на старонках раённай газеты адкрыта, пад сваім сапраўдным прозвішчам. Ці гэта не ёсць ужо адзнака таго, што газета не працуе з селькорамі, не растлумачыла ім задач, пастаўленых партыяй перад селькораўскім рухам?

Адзін за другім перагортваем студзеньскія нумары «Калгаснай праўды». Шэрыя, аднастайныя паласы. Адчуваеш, што **жыццё раёна праходзіць міма раённай газеты, бо газета не звязана з масамі, з жывымі людзьмі — рабочымі і калгаснікамі. З 1-га па 17 студзеня ў «Калгаснай праўдзе» не змешчана літаральна ні адна рабселькораўская заметка.** Чым-жа рэдакцыя запаўняе газетныя паласы? Пастановамі, рэзалюцыямі, рэдакцыйнымі артыкуламі. У адным толькі нумары за 6 студзеня змешчаны: пастанова аб ільназагатоўках, пастанова аб перанясенні парткапферэнцыі, пастанова раённай конкурснай камісіі аб лесавывазках, рапарт злёта ўдарнікаў. Пастановы і рапарты напісаны сухой канцылярскай мовай, і можна быць упэўненым, што большасць падпісчыкаў «Калгаснай праўды» гэтага нумара не прачыталі. Гэты нумар газеты не выключэнне, а тыповы для большасці астатніх нумароў.

## «НАОГУЛ ДЫК МЫ ЎСЕ АДКАЗВАЕМ»

Сустрэўшыся з гэтымі фактамі, мы адразу пацікавіліся, як-жа працуе аддзел пісем рэдакцыі «Калгаснай праўды», хто персанальна адказвае за работу з пісьмамі.

— Бачыце, — заявіў нам рэдактар газеты **Старасценка, — у нас у рэдакцыі зусім мала людзей і таму за пісь-**

**мы адказвае персанальна машыністка, а так, наогул дык мы ўсе адказваем.**

Гэты адказ рэдактара не патрабуе каментарыяў. Не будзем турбаваць машыністку, яна менш за ўсё вінавата ў тым, што рэдакцыя асіпавіцкай газеты не вядзе ніякай работы з рабселькорамі. Але чым тлумачацца агідныя паводзіны рэдактара газеты Старасценка, які замест таго, каб на работу з пісьмамі вылучыць найбольш моцнага работніка (якім-бы малым не быў штат рэдакцыі), даручыў гэту адказную справу машыністцы?

Зразумела, што тут мы маем узор грубейшага скажэння дырэктыў партыі, грубае іх ігнараванне.

На працягу мінулага года рэдакцыя правяла адзін куставы злёт селькораў і чатырохдзенныя курсы рэдактароў насценгазет. У гэтым і заключаецца ўся работа рэдакцыі «Калгаснай праўды» з селькорамі на працягу цэлага года.

**Ігнараванне пісем рабселькораў і амаль поўная адсутнасць работы з селькорамі прывялі да таго, што зараз рэдакцыя атрымлівае ў сярэднім у дзень не больш аднаго пісьма.** Адно рабселькораўскае пісьмо ў дзень! Што яшчэ лепш можа ілюстраваць работу газеты?

Але і з гэтай нязначнай колькасцю пісем рабселькораў, якія ўсё-ж атрымліваюцца, работнікі «Калгаснай праўды» паступаюць як чыноўнікі. **Пісем не вывучаюць, не працуюць над імі. І таму атрымалася, што 200 пісем праляжалі ў рэдакцыі без усякага руху 6 месяцаў, а потым іх паклалі ў архіў.**

## КАЛІ ЛІСТЫ ІДУЦЬ У АРХІЎ

Ніхто не цікавіцца ў рэдакцыі фактычным рэагаваннем на рабселькораўскія допісы, што дасылаюцца на расследванне. У выніку з **пасланых на расследванне 243 пісем атрыманы адказы толькі на 25,** а астатнія замарынаваны ў раённых установах і сельсаветах.

Беспадстаўнае бракаванне пісем у рэдакцыі «Калгаснай праўды» ўвайшло ў сістэму. Не глядзячы на зусім малы лік атрымліваемых пісем, допісы рабселькораў вельмі часта бракуюцца без усякіх падстаў. Неразборліва падпісаўся аўтар, значыць няма чаго вазіцца з пісьмом, не трэба расследваць факты, якія ў ім паведамляюцца. Такога прынцыпа прытрымліваюцца работнікі рэдакцыі **Крэйзер і інш.** У архіве забракаваных заметак ёсць многа карэспандэнцый пра засмечанасць калгасаў, пра безгаспадарчасць, скажэнне дырэктыў партыі і ўрада. Але «подпісы неразборчывы, не дакладна напісан адрас селькора» і кароткая рэзалюцыя «ў архіў» вырашае лёс допіса.

## «ДРОБЯЗІ» НЕРАЗБОРЧЫВЫХ ЗАБРАКАВАНЫХ ЗАМЕТАК

Падамо факты. Вось вытрымка з забракаванай заметкі «Недагляд у калгасе імя Варашылава»:

> «У калгасе згніло скошанае сена з 2 гектараў. Таксама ў час уборкі 4 капы жыта згнілі, калосся, якія былі зграбены ў кучы, таксама пагнілі. Цягавая сіла ў калгасе зусім у дрэнным стане. Старшыня калгаса Загароўскі, як праходзіў чыстку, дык гаварыў, што ў калгасе ўсё спраўна і страт ніякіх няма».

Селькор паведамляе факты пра абураючыя адносіны да калгаснай маемасці з боку члена партыі, старшыні калгаса Загароўскага. Атрымаўшы гэта пісьмо, хоць-бы пад ім не было ніякага подпісу, рэдакцыя была абавязана выкарыстаць яго. Допіс трэба было перадаць у раённую камісію па чыстцы і адначасова расследваць непасрэдна ў калгасе паведамленыя ў заметцы факты.

Бюракраты-ж з рэдакцыі асіпавіцкай газеты паступілі пасвойму. На гэтай заметцы, як і на многіх іншых такіх-жа важных заметках, накладзена нязменная рэзалюцыя: **«Архіў. Не разборчывы подпіс аўтара».**

У другой заметцы паведамляецца аб тым, што старшыня калгаса **Стэльмах** прыстроіў на кіруючую работу ў калгасе сваіх сваякоў і ў калгасе творацца бясчынствы. Гэта заметка пакладзена ў архіў з прычыны «адсутнасці подпіса».

Вось яшчэ адзін факт. Рэдакцыя атрымала заметку «Да чаго прывяла бяздзейнасць», у якой селькор **«К-ў»** пісаў, што камсамольская ячэйка калгаса імя Гікало, Ясенскага сельсовета зусім развалілася, хата-чытальня заўсёды на замку. На запытанне — чаму заметка папала ў архіў, работнік рэдакцыі Крэзер адказаў:

«Бачыце, райком камсамола ведае і

без нас аб тым, што ячэйка ў калгасе імя Гікало развалілася, дык для чаго змяшчаць аб гэтым заметку ў газеце?» Вось класічны адказ аднаго з бюракратаў, якія заселі ў рэдакцыі асіпавіцкай газеты і, ігнаруючы пісьмы рабселькораў, робяць шкодную, непартыйную справу.

Паданых фактаў давολі для таго, каб паказаць, як агідна пастаўлена работа з рабселькорамі, з пісьмамі працоўных у рэдакцыі «Калгаснай праўды». Асіпавіцкі райком КП(б)Б павінен тэрмінова заняцца гэтым пытаннем і адпачасова персанальнай праверкай людзей, якія працуюць у яго органе.

**«СІЛА РАБСЕЛЬКОРАЎСКАГА РУХУ Ў ЯГО МАСАВАСЦІ, У ЦЯСНЕЙШАЙ СУВЯЗІ РАБСЕЛЬКОРАЎ З ПАРТЫЯЙ І ШЫРОКІМІ МАСАМІ ПРОЛЕТАРЫЯЎ І ПРАЦОЎНЫХ. РАБСЕЛЬКОРЫ БЫЛІ І З'ЯЎЛЯЮЦЦА НЕЎСТРАШНЫМІ БАРАЦЬБІТАМІ, ЯКІЯ ІДУЦЬ НА ПРАСЛЕДВАННЕ І СМЕРЦЬ У БАРАЦЬБЕ З ЗЛОЎЖЫВАННЯМІ, БЕЗГАСПАДАРЧАСЦЮ, БЮРАКРАТЫЗМАМ, З КЛАСАВЫМ ВОРАГАМ». (ПОСТЫШЭЎ).**

# УСІМ ПРАКУРОРАМ САЮЗНЫХ РЭСПУБЛІК

Вывучэнне праходзячых праз саюзную пракуратуру спраў аб праследаванні селькораў, а таксама матэрыялы, прадстаўленыя «Крестьянской газетой», паказваюць, што да гэтага часу органы пракуратуры далёка не ў дастатковай меры праводзяць барацьбу за ахову праў селькораў, далёка недастаткова змагаюцца з праследвальнікамі селькораў.

Саюзная пракуратура канстатуе:

а) недапушчальную марудnасць з боку мясцовых органаў юстыцыі, а таксама і раду іншых савецкіх арганізацый у рэагаванні на селькораўскія газетныя заметкі;

б) далёка яшчэ недастаткова ўзмоцненую сувязь паміж раённымі органамі юстыцыі і палітаддзельскім, раённым і калгасным друкам і селькораўскім актывам;

в) амаль поўную адсутнасць уцягнення селькораўскай грамадскасці і прадстаўнікоў друку ў расследваўчую работу па селькораўскіх газетных заметках;

г) няправільныя метады расследвання селькораўскіх газетных заметак, калі вельмі часта органы юстыцыі „абмяжоўваюцца перадачай расследвання заметак міліцыі без наступнага кантроля, а часамі прама накіроўваюць гэтыя заметкі ў сельсовет або праўленне калгаса, службовыя асобы, якіх, па паведамленню селькораў, зацікаўлены ў непацвярджэнні заметкі;

д) няправільнае прымяненне судамі ў радзе выпадкаў мяккіх мер соцыяльнай абароны да асоб, вінаватых у праследванні селькораў;

е) няўменне судова-пракурорскіх органаў узняць справы аб праследванні селькораў на неабходную палітычную вышыню.

У рэзультаце такога становішча за апошні час у радзе месц адзначаецца нізкая якасць работы органаў пракуратуры і расследвання па селькораўскіх газетных заметках і зусім недапушчальная цяганіна.

На заметку селькора Якава Кускова, накіраваную «Крестьянской газетой» прохараўскаму райпракурору ЦЧВ для расследвання 14 лютага 1933 г., райпракурор 2 лістапада 1933 г. паведамляе, што скаргі Кускова ў справах пракуратуры няма.

Абласная пракуратура ЦЧВ пасля неаднаразовых сігналаў «Крестьянской газеты» ўстанавіла, што селькор Загуменнікаў 4 разы выключаўся з калгаса незаконна, што ў даным выпадку выключэнне з калгаса — новая форма праследвання за селькораўскую дзейнасць.

Не гледзячы на тое, што пракуратура РСФСР таксама ўстанавіла, што тав. Загуменнікаў праследуецца як селькор, што абласная і раённая пракуратура выпускае палітычны змест з гэтай справы, на днях селькор Загуменнікаў зноў выключаецца з калгаса і ніхто з праследвальнікаў да адказнасці не прыцягваецца.

Справа аб забойстве селькора «Крестьянской газеты» Якава Стрыгунова (Прохараўскі раён, ЦЧВ) расследуецца абласной пракуратурай ужо на працягу 6 месяцаў.

За праследванне селькора «Крестьянской газеты» Шутава, (калгас «Правда»,

Сарапульскага раёна, Уральскай вобласці) народны суд прыгаварыў праследваль ліка селькора, кулака Юмінава, да 10 год пазбаўлення волі. Аднак, аблсуд прыгавор адмяніў, справа перадана на новы разгляд, а пры разглядзе ў другі раз справы Юмінаў быў прысуджан да аднаго года прымусовай працы. Такія з'явішчы зусім недапушчальныя і павінны быць рашуча знішчаны.

Пракуратура СССР прапануе ўсім рэспубліканскім, абласным, краёвым і раённым органам пракуратуры:

1) карэнным чынам перабудаваць і палепшыць справу расследвання па газетных селькораўскіх заметках;

2) дабіцца такога становішча, каб, як правіла, да ўдзелу ў расследванні селькораўскіх заметак прыцягваліся самі селькоры і прадстаўнікі мясцовага друку;

3) прапанаваць пракурору РСФСР запатрабаваць у парадку нагляду справу аб праследванні селькора Шутава і, у выпадку пацвярджэння фактаў неправасуднасці прыгавора, прыгавор апратэставаць, прыцягнуць праследвальнікаў селькора да найстражэйшай адказнасці і зрабіць неабходныя вывады ў адносінах тых, хто дапусціў скажэнне судовай палітыкі ў гэтай справе;

4) прапанаваць усім органам пракуратуры палепшыць і ўзмацніць абаронную работу селькораў, дабіваючыся расследвання спраў аб праследванні селькораў у дэкадны тэрмін, забяспечыўшы прымяненне да вінаватых у праследванні селькораў адпаведных мер соцыяльнай абароны, няўхільна прымяняючы ў адпаведных выпадках за праследванні селькораў арт. 73-1 КК РСФСР і суадпаведныя артыкулы КК іншых саюзных рэспублік;

5) маючы на ўвазе, што ў радзе выпадкаў праследванні селькораў-калгаснікаў выяўляюцца ў форме выключэння іх з калгасаў, вінаватых у гэтым прыцягваць да крымінальнай адказнасці па III ч. пастановы ад 7-VIII, як за злачынныя дзеянні, накіраваныя супроць калгаснага будаўніцтва.

Ухваляючы рашэнне пракуратуры РСФСР аб выдзяленні ў кожным раённым цэнтры соцсумяшчальнікаў райпракурора з ліку селькораўскага актыву для паляпшэння работы па расследванню газетных селькораўскіх заметак, пракуратура Саюза ССР прапануе пракурорам саюзных рэспублік правесці ў жыццё гэтае мерапрыемства ў органах пракуратуры ўсіх саюзных рэспублік.

**Пракурор Саюза ССР І. АКУЛАЎ.**

**НА ЛЕСАРАСПРАЦОЎКАХ.**



Раскарчоўка трасы для возкі леса трактарамі.

# ЯК У КАЛГАСЕ ШЫНКАВА ЗНАЙШЛІ „КЛАД“

Гэты загаловак, які з'явіўся ў № 9 газеты палітаддзела Сеннепскай МТС **«Сталінец»** (рэдактар **Арлоўская**), здзіўляе сваёй незвычайнасцю, інтрыгуе. Абыйсці гэты артыкул нельга. Кожны, трымаючы газету ў руках, абавязкова прачытае артыкул, зверху якога пастаўлен такі загаловак.

Яшчэ больш павышаецца зацікаўленасць чытача, калі ён прабяжыць вачыма першыя радкі артыкула:

> **«Сядзелі 6 калгаснікаў і плакалі. Сумесна з імі плакаў і старшыня калгаса. Справа была ў Алексініцкім сельсовеце. Галасілі калгаснікі калгаса ШЫНКАВА».**

А справа ў тым, што ў калгасе сёлета вымак хлеб. Становішча цяжкае. І не знаходзяць сабе калгаснікі рады, і не даюць ім рады старшыня сельсовета т. **Васілёнак** і ўпоўнаважаны РВК т. **Шайтараў**, якія, седзячы з пасцю пла чучымі калгаснікамі, толькі ківаюць на іх довады аб тым, што становішча іх бязвыхаднае.

— **«Няма бязвыхаднага становішча ў Совецкім Саюзе для калгасніка, які жадае працаваць»**—прыводзіць газета словы падаспеўшага на гэту «гутарку» загадчыка райза т. **Качука.** І далей:

> **«Кожны з вас,—сказаў ён, калі пажадае, можа зарабіць штодзенна 3 кілаграмы аўса, 450 грам жытняй мукі —гэта значыць па сутнасці 600 грам печанага хлеба, 80 грам крупы, 80 грам рыбы, 20 грам цукру, 20 грам махоркі».**

«Клад» знойдзен. Ён зусім недалёка і зусім не скрыты—**ён у лесе.** Справа ідзе аб лесазагатоўках і вывазках, аб тым, што масы калгаснікаў не ведаюць умоў аплаты і стымулявання работ у лесе. І «Сталінец» робіць зусім правільны вывад:

> **«Чаму дрэнна ідзе справа з лесазагатоўкамі? Таму, што калгаснікі не ведаюць парадку аплаты за лес: мукой, крупой, махоркай і іншымі прадуктамі, таму, што яны не ведаюць, што за лес (вярней, за работу ў лесе.—РЭД.) апрача ўсяго гэтага прадаюць па ільгот ных умовах вопратку і абутак».**

Іншымі словамі, таму, што многія кіраўнікі калгасаў, сельсоветаў і леспрамгасаў, а таксама і кіруючыя раённыя работнікі (жывы прыклад—т. **Шайтараў**) прадаўжаюць трымацца на старых аджыўшых пазіцыях бюракратычна-цыркулярнага «кіраўніцтва», на пазіцыях «самацёку» і не жадаюць перайсці да метадаў большэвіцкай **арганізацыі мас** на аснове масава-растлумачальнай работы і **гаспадарчай зацікаўленасці.**

Вельмі пераканаўча пасля ўсяго прыведзенага намі гучаць заключныя словы артыкула:

> **«Выпадак з калгасам Шынкава—папярэджанне не толькі Васілёнку, але і іншым старшыням сельсоветаў і калгасаў. Калі яны будуць так дрэнна весці сваю справу і так неканкрэтна да яе падыходзіць, дык праваляць і веснавую сяўбу і не змогуць мабілізаваць масы на павышэнне ўраджайнасці».**

Застаецца толькі параіць усім палітаддзельскім і раённым газетам павучыцца ў **«Сталінца»** так ясна, канкрэтна, схваціўшы «за жывое», прапагандаваць рашэнні партыі і ўрада, даказваць важнасць і паказваць метады жывой прапагандысцкай і арганізатарскай работы і выкрываць партыйных бюракратаў з душой канцылярыста.


Калгасная праўда і Ленінскі шлях

НА ЛЕПЕЛЬСКАЙ МТМ

Па прыкладу перадавых МТС

датэрмінова скончыць рамонт трактароў

У адзнаку 17 га з'езда

Лепельская раённая газета «Калгасная праўда» і газета палітаддзела лепельскай МТС «Ленінскі шлях» арганізавалі выданне газеты на МТМ.



АДЗІН З БУЙНЕЙШЫХ ШКЛОГІГАНТАЎ СССР—КАСЦЮКОЎСКІ ШКЛОЗАВОД (ГОМЕЛЬШЧЫНА)

С. ШОК. Парткіраўніцтва друкам.

# „У СВОЙ ЧАС БЫЛА ВЫДЗЕЛЕНА КАМІСІЯ“

Афіцыяльна лічыцца, што шматтыражка швэйнай фабрыкі Окцябр **«Сцяг Окцябра»** выходзіць раз у пяцідзеўку. Фактычна-ж яна выходзіць раз у месяц, або, у лепшым выпадку, раз у 10 дзён. Так 34 нумар вышаў 17 лістапада, 35 нумар 14 снежня, 36 нумар 23 снежня 1933 г. і 37 нумар 4 студзеня г.г.

Па аднаму гэтаму «рэгулярнаму» выхаду газеты можна судзіць аб яе апэратыўнасці. Газета літаральна цягнецца ў хвасце і не паспявае за жыццём фабрыкі, за ініцыятывай перадавых рабочых.

Прывядзем адзін характэрны прыклад адсутнасці апэратыўнасці ў рабоце фабрычнай шматтыражкі.

У свой час фабрыка «Окцябр» уключылася ў вытворчы паход імя **Гікало.** Рабочыя ў сувязі з гэтым паходам узялі на сябе рад самаабавязацельстваў. Яны разгарнулі паміж сабой соцспаборніцтва, каб дабіцца перамогі ў выкананні промфінплана па ўсіх паказальніках.

17/XI мінулага года газета «Сцяг Окцябра» прысвяціла паходу імя тав. Гікало цэлую старонку. Але, на жаль, гэта старонка была запоўнена толькі аднымі афіцыяльнымі матэрыяламі, парткома і фабкома. І каб змясціць некалькі заметак, насычаных хоць некаторымі фактамі жывой сапраўднасці работы і барацьбы рабочых за промфінплан, патрабаваўся для газеты амаль цэлы месяц. Толькі 14/XII, праз 28 дзён, шматтыражка «Сцяг Окцябра» ў сувязі з паходам змясціла некалькі заметак, падагульваючых вынікі гэтага паходу.

Камісія па чыстцы партарганізацыі фабрыкі ў сваіх вывадах адзначыла засмечанасць партарганізацыі і рабоча-

га калектыва фабрыкі бундаўскімі, шавіністычнымі і рознымі чужымі элементамі.

Але, на старонках «Сцяга Окцябра» нават днём з ліхтаром нельга знайсці хоць-бы адну падборку, якая растлумачыла-б рабочым контррэволюцыйную сутнасць антысемітызма і шавінізмаў розных колераў. Больш таго, газета нават і пасля чысткі нічога не зрабіла, каб выкрыць астаткі разбітых, але яшчэ недабітых бундаўскіх і нацыяналістычных элементаў па фабрыцы.

Сакратар парткома т. **Канопік** у гутарцы з нашым карэспандэнтам аб становішчы нізавога друку на фабрыцы заявіў: **«Кіраўніцтва штодзёнкамі ў цэхах пастаўлена зусім дрэнна. Яны часта спазняюцца са змяшчэннем тых ці іншых матэрыялаў. Якасць матэрыялаў, якія змяшчаюцца ў штодзёнках, вельмі нізкая. Яны часта не чоткія і партыйна нявытрыманыя».**

Ацэнка сакратара парткома не выпадковая. Нерэгулярны выхад штодзёнак у цэхах і рад грубых палітычных памылак у некаторых насценных газетах, прымусілі партком даць самакрытычны аналіз становішча нізавога друку ў цэхах.

Не лепш і з работай шматтыражкі. Тав. Канопік і тут вымушан быў прызнаць што —

**— Шматтыражка сваёй работай безумоўна не здавальняе партком,**

што—

**— Недахопы шматтыражкі ў асноўным аналагічны недахопам штодзёнак.**

Тав. **Канопік** скардзіцца на тое, што шматтыражка—

**— спазняецца з падачай матэрыялаў.**

і што яна, у прыватнасці, —

**Спазнілася з асвятленнем перавыбараў нізавых парторганаў і несвоечасова падала матэрыял аб перавыбарах парткома.**

Мы ад сябе дадамо, што справа не толькі ў гэтым. Шматтыражка «Сцяг Окцябра» па сутнасці не толькі прамаргала перавыбары парторганаў на фабрыцы. Яна наогул не адчуваецца на фабрыцы, і амаль па ўсіх пытаннях цягнецца ў хвасце. Газета выпускаецца неахайна, з радам тэхнічных памылак, якія часта перарастаюць у грубыя палітычныя памылкі.

17-га лістапада газета ў 2-х толькі заметках дапусціла 13 памылак. Вось некаторыя з іх. **«РЭРАЛЮЦЫЯ, ВЫКЛЮЧЭНС, ЗАМАКОВАН, БАРАПЬБУ, УКЗЮЧЭННЕ, СПАЧУЧУВАЮІЫН»** і т. д.

Прыводзячы вытрымку з прамовы тав. **Кагановіча**, у шматтыражцы было напісана:

**«Дзверы партыі для спачуваючых не адчыняюцца».**

У той час, калі тав. Кагановіч пісаў, што:

**«Дзверы партыі для спачуваючых не зачыняюцца».**

Тут як відаць тэхнічная памылка перарасла ў грубую палітычную памылку.

У чым-жа справа? Чым тлумачыцца нездавальняючая работа шматтыражкі і штодзёнак на фабрыцы «Окцябр»?

Скліканая 12 студзеня 1934 г. па ініцыятыве рэдакцыі журнала нарада, у якой прымала удзел 16 членаў рэдкалегій і рэдактароў штодзёнак 1-га агрэгата 1-й змены, лішні раз са ўсёй відавочнасцю паказала, што кіраўніцтва штодзёнкамі, шматтыражкай і рабкорамі з боку фабрычных арганізацый зусім адсутнічае. З усіх 10-ці рэдкалегій штодзёнак толькі адной пашчасцілілася быць выкліканай на бюро ячэйкі з дакладам аб сваёй рабоце.

«Але, — заяўляе рэдактар штодзёнкі тав. **Хазан — бюро ячэйкі нам ніякіх указанняў у нашай далейшай працы не дало».**

Партком хоць і ведае становішча шматтыражкі і штодзенак, але, пачынаючы з мая мінулага года, апрача вылучэння камісіі па выпрацоўцы прапаноў фактычна нічога не зрабіў.

Усё гэта безумоўна даказвае, што партком фабрыкі «Окцябр» недаацэньвае ролі нізавога друку ў справе арганізацыі рабочых мас на выкананне промфінплана і рэалізацыю рашэнняў нашай партыі і ўрада.

Гэту сваю грубую палітычную памылку партком абавязан неадкладна выправіць.

Л. ФРЫД

# ПЕРШЫЯ ПОСПЕХІ „КОМУНАРКІ“ Ў БАРАЦЬБЕ ЗА ЎЗОРНУЮ ЧЫСТАТУ ФАБРЫКІ

У першым нумары журнала «Бальшэвіцкі друк» у артыкуле **«Шэсць месяцаў без рэдактара»** былі выкрыты вялікія недахопы партарганізацыі менскай фабрыкі **«Комунарка»** ў барацьбе за выкананне дырэктывы ЦК ВКП(б) аб паляпшэнні санітарнага стану прадпрыемстваў харчовай прамысловасці, а таксама зусім дрэнная работа нізавога фабрычнага друку. Зараз ужо можна адзначыць першыя поспехі па выпраўленню гэтых недахопаў.

Шматтыражка «Комунарка» ўжо мае рэдактара і выходзіць рэгулярна. Парткамітэт спецыяльна абгаварыў артыкул «6 месяцаў без рэдактара», прызнаў крытыку, дадую ў гэтым артыкуле, правільнай і разам з рэдкалегіяй шматтыражкі правёў работу па паляпшэнню работы цэхавых і брыгадных насценгазет, па ўмацаванню партківраўніцтва імі.

Асноўная задача нашай шматтыражкі і насценгазет заключаецца зараз у тым, каб давесці да кожнага рабочага і работніцы задачы, якія высунуў перад усёй краінай **тав. СТАЛІН** у сваім дакладзе на XVII з'ездзе ВКП(б), і арганізаваць барацьбу за іх выкананне.

Наша фабрыка абсталявана новымі дасканалымі варштатамі і машынамі. Памяшканні цэхаў таксама новыя і прасторныя. Ёсць усе ўмовы для таго, каб фабрыка была ўзорным прадпрыемствам харчовай індустрыі БССР. Але на сёнешні дзень гэтага яшчэ няма. Санітарны стан фабрыкі, працэсаў вытворчасці яшчэ далёка не бліскучы.

Рэдкалегія шматтыражкі разам з насценгазетамі ўключылася ў актыўную барацьбу за наладжанне на фабрыцы ўзорнай чыстаты. Як на старонках шматтыражкі, так і ў насценгазетах шырока растлумачана значэнне пастановы ЦК ВКП(б) аб харчовай прамысловасці.

Шматтыражка пачала змагацца за чысты цэх з канкрэтных спраў. У нас на фабрыцы працуе каля 100 прыбіральшчыц. Да гэтага часу ніхто не звярачаў увагу на іх работу. Прыбіральшчыцы былі на задворках. Між тым ад работы прыбіральшчыц у вялікай ступені залежыць санітарны стан цэхаў. Узяліся мы за прыбіральшчыц. Пачалі з таго, што 30 студзеня пры рэдкалегіі шматтыражкі склікалі іх нараду. Гэта была **першая нарада прыбіральшчыц нашай фабрыкі.**

Што дала нарада? Шляхам разгорнутага абгаварэння санітарнага стану асобных цэхаў удалося выявіць, якія прыбіральшчыцы працуюць добра і якія дрэнна. Пасля нарады на старонках шматтыражкі мы пачалі **пераклічку прыбіральшчыц.** Спачатку далі слова лепшым прыбіральшчыцам-ударніцам. Яны расказалі праз газету, як змагаюцца за чыстату ў цэхах. Адначасова жорстка раскрытыкавалі ў газеце дрэнных прыбіральшчыц, патрабавалі ад іх навесці ў цэхах чыстату.

Вялікае ўздзеянне зрабіў **грамадскі суд над рабочым карамельшчыкам БАЧЫЛАЙ.** Суд быў праведзен па ініцыятыве шматтыражкі. Бачыла не выконваў абавязковых правіл санітарыі, не мыў рук, хадзіў у брудным фартуху, неахайна адносіўся да прадуктаў. На пасяджэнне грамадскага суда з'явілася **каля 400 рабочых і работніц.** Суд настанавіў «узнагарадзіць» Бачылу **«ордэнам неахайніка».** Гэта мерапрыемства адразу дало вынік. Назаўтра пасля суда Бачыла прышоў у рэдакцыю шматтыражкі з просьбай зняць з яго пляму —забраць ганебны «ордэн».

— На чыстаце буду ў далейшым прыкладным ва ўсім цэху—так заявіў Бачыла.

Апрача гэтага рэдкалегія «Комунаркі» практыкуе рассылку **пісем сваякам (бацькам, жонкам, мужам) тых рабочых, якія не выконваюць на рабоце правіл санітарыі і гігіены,** неахайна адносяцца да прадуктаў. Наперадзе яшчэ шмат работы. Наша задача — шматтыражкі, насценгазет і рабкораў—**ні на хвіліну не толькі не аслабіць барацьбу за ўзорную чыстату фабрыкі, чыстату нашых вырабаў, а яшчэ больш узмацніць яе.**

А. ІОФФЕ

# ЗНЯВАЖАНЫ ГОНАР МУНДЗІРА

**АД РЭДАКЦЫІ:** Мы атрымалі ад рэдактара ўздзенскай газеты тав. Жураўлёвай пісьмо, у якім яна просіць рэдакцыю ўказаць ці правільна яна зрабіла, скарацііўшы артыкул культпропа РК тав. Савіча. Да ліста прыкладзен арыгінал артыкула, і газета з адрэдагаваным артыкулам. Мы ўважліва прачыталі і арыгінал і газету. Гэтым нашым артыкулам адказваем на пісьмо тав. Жураўлёвай. І адначасова папярэджваем рэдактароў усіхраённых газет, што РЭДАКТАР АДКАЗВАЕ ЗА ЎСЕ МАТЭРЫЯЛЫ, ЯКІЯЗМЯШЧАЮЦЦА Ў ГАЗЕЦЕ, ХТО-Б ГЭТЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ НЕ ПІСАЎ. І таму ён абавязан уважліва і сур'ёзна правіць усе матэрыялы, незалежна ад таго—аўтар іх селькор, ці адказны раённы работнік.

Загадчык культпропам **Уздзенскага РК КП(б)Б т. Савіч** парашыў перад райпартканферэнцыяй напісаць **вялікі** артыкул аб стане партвучобы ў партыйнай арганізацыі. Падкрэсліваем **вялікі,** бо не да твару загадчыку культпропам пісаць маленькія артыкулы. Не важна, што ў раённай газеце ён заняў-бы цэлую паласу, што размер яго адбіў-бы ўсякую ахвоту ў чытача чытаць яго. Важны прэстыж загадчыка культпропа.

Тав. Савіч цвёрда парашыў паставіць свой прэстыж вышэй інтарэсаў газеты і некалькіх тысяч яе чытачоў і прапанаваў рэдактару раённай газеты «Калгаснік Уздзеншчыны» тав. **Жураўлёвай** змясціць артыкул поўнасцю. Тав. Жураўлёва атрымала гэты артыкул тады, калі чарговы нумар газеты быў набраны. Тав. Савіч здаў так позна свой артыкул не таму, што яму не было калі своечасова яго напісаць, а таму, што, па думцы Савіча, «вялікіх» людзей прынята заўсёды чакаць. Павінна была, па яго думцы, чакаць яго артыкула і тав. Жураўлёва, хоць-бы гэта пагражала спазнаннем газеты. Але тав. Жураўлёва палічыла лепш своечасова выпусціць чарговы нумар газеты да райпартканферэнцыі, хоць-бы гэта зніжала прэстыж загадчыка культпропам.

Атрымаўшы артыкул, тав. Жураўлёва, зразумела, яго прачытала. Прачытала і пераканалася, што можна яго значна скараціць без страты і для аўтара, і для газеты.

Тав. Жураўлёва зрабіла зусім правільна. На самой справе. Артыкул т. Савіча — яркі ўзор пустазвонства і алілуйшчыны. Возьмем першую старонку. Там, мы чытаем:

**«За справаздачны перыяд марксісцка-ленінская вучоба ў раёне раздзяляецца на два перыяды як па часу, так і па якасці яе». «Сам ахоп паказвае, што ўкамплектаванне ў галіне кольнасных суадносін не зусім партыйна вытрыман».** Сказана мовай вучонага, але сэнсу ў гэтай фразе на грош. Другая старонка. Яна ўся ўсыпана такімі перламі: **«Паўстала задача на новым этапе соцыялістычнага наступлення ў новай абстаноўцы класавай барацьбы, разгарнуць масавую палітычную работу па разгортванні марксісцка-ленінскай вучобы па раёну, улічваючы вышэйупамянутыя акалічнасці». Або: «Бюро выходзіла і прапагандавала ў парторганізацыі выразныя ўстаноўкі і дырэктывы партыі...»**

Такое глупства ёсць і на трэцяй, і на чацвертай, і на пятай, і на шостай старонках «вучонага» артыкула загадчыка культпропа Уздзенскага РК т. Савіча.

Вярней за ўсё гэта не артыкул, а справаздача, **і справаздача дрэнная,** аб становішчы партвучобы ў раёне. Разбярэм асноўны змест гэтага «артыкула». 4 таблицы аб сетцы школ і ахопе парт-

вучобай комуністаў і беспартыйных. Алілуйскі пералік праведзеных мераприемстваў і «дасягнутых поспехаў», накшталт:

**«Кожнае звяно сеці зверху да нізу пранізана партдысцыплінай, за выключэннем двух школ».**

**«Якасць вучобы ў гэтым годзе характарызуецца значным павышэннем адказнасці за гэту справу як з боку прапагандыстых, так з боку пераважнай большасці слухачоў, падборам больш падрыхтаваных прапагандыстых, якія з'яўляюцца ў абсалютнай большасці сваёй з ліку райпартактыва. Гэта забяспечыла значна лепшы ідэйна-вытрыманы змест выкладання і большэвіцкую завостранасць прапрацоўваемых пытанняў у школах».**

**«Разгорнута соцспаборніцтва паміж школамі і ўнутры школ».**

**«Значна ўзмоцнена канкрэтнае кіраўніцтва школамі» і т. д.**

Бачыце, і дысцыпліна ўзорная ў школах, і якасць вучобы высокая, і соцспаборніцтва шырока разгорнута, і канкрэтнае кіраўніцтва забяспечана. Што-ж яшчэ трэба, на што-ж яшчэ мабілізаваць увагу партарганізацыі?

Але-ж нязручна неяк не адзначыць ніякіх недахопаў. А недахопаў па думцы Савіча толькі і ўсяго, што «**недастатковы інструктаж прапагандыстаў», «не праводзяцца згодна плана заняткі семінара партактыва», «не ўсе яшчэ школы партасветы уключыліся ў соцспаборніцтва»**, і тое, што **два** комуністы — **Пліт і Азаркевіч** не наведваюць партзаняткаў.

Вось і ўсе недахопы. Думаў было Уздзенскі культпроп адзначыць адзін прынцыповы недахоп. У арыгінале яго артыкула было напісана: **«Асноўны ўпор у прапагандысцкай рабоце не быў узят на растлумачэнне сутнасці барацьбы партыі на два фронта ў нацыянальным пытанні і супроць беларускага контррэволюцыйнага нацыяналдэмакратызма, як галоўнай небяспекі на даным этапе, за ўнядрэнне ў шырокія масы працоўных асноўных прынцыпаў пролетарскага інтэрнацыяналізма,**—але потым рашыў, што гэты недахоп—дробязь на фоне «дасягненняў», на фоне «ідэйна-вытрыманага зместа выкладання» — і выкрасліў з артыкула гэтае месца. А каб рэдакцыя часам не памылілася, напісаў яшчэ на перакрэсленым: **«не друкаваць».**

Зусім ясна для кожнага, што рэдактар газеты Жураўлёва, адказваючая за тое, што яна змяшчае ў даверанай ёй газеце, павінна была выкінуць з артыкула ўсю балбатню, завастрыць увагу на недахопах.

Але Савіч, даведаўшыся аб кашчунскіх замыслах Жураўлёвай, прапанаваў ёй зняць подпіс з артыкула. Мала гэтага, ён парашыў гэта пытанне паставіць на прынцыповую вышыню і зрабіў яго прадметам абгаварэння на раённай партыйнай канферэнцыі. З трыбуны райпартканферэнцыі тав. Савіч заявіў:

— Нельга падпісвацца пад тымі артыкуламі, якія пасылаюцца ў рэдакцыю нашай раённай газеты, бо гэтыя артыкулы скажаюцца.

Прынцыповасць сапраўды высокая, няма чаго сказаць! Але гэта прынцыповасць аснавана на **маніі вялічча і самадурстве.**

Нельга адмаўляць і таго, што артыкул адрэдагаван не зусім удала. У ім не завастраецца значэння партыйнай вучобы, а прыводзяцца толькі некалькі лічбаў і фактаў, праўда, недахопаў указана больш. Артыкул атрымаўся палітычна не вострым, дзяляцкім. Ён, зразумела, не стаў-бы палітычна вастрэй, калі-б ён быў змешчан так, як яго напісаў тав. Савіч. Але на тое і існуе рэдакцыя, каб палітычна і літаратурна артыкул апрацаваць. Гэтага тав. Жураўлёва не зрабіла і ў гэтым ёсць падстава яе абвінавачваць, калі ставіць пытанне папартыйнаму.

Але абвінавачванне, кінутае тав. Савічам па адрасу Жураўлёвай ёсць толькі напад чалавека, не ведаючага, дзе пачынаецца скромнасць і вытрыманасць комуніста і дзе канчаецца гонар мундзіра.

АБРАМАЎ І. **Крытычныя заметкі**

# У ЗАПАЛЕ ЮБІЛЕЙНАГА ЗАХАПЛЕННЯ




Гэта было 17 студзеня 1934 года. Дату гэту запомняць усе лагойскія арганізацыі, якія нямала працы патрацілі ў гэты знамянальны дзень.

**«Чырвоная Лагойшчына»** спраўляла свой трохгадовы юбілей. Нічога нельга мець супроць гэтага. Юбіляр атрымліваў шматлікія прывітанні. І супроць гэтага таксама нічога мець нельга. На тое і юбіляр, каб яго вітаць. Гэта ўжо здаўна прынята так — вітаць у юбілейную дату. Вось і ў Лагойску віталі. Віталі моцна, сакавіта, палагойску.

> **«Калектыўнаму арганізатару працоўных мас Лагойска вакол задач будаўніцтва соцыялізма»**

піша РК у сваім прывітанні.

Вакол задач! Вось вобраз, нават не вобраз, а цэлая карціна. Стаяць сабе задачы, а вакол іх нясупца карагодам працоўныя масы на чале з рэдактарам «Чырвонай Лагойшчыны» тав. **Чаплінскім.** І далей:

> **«Тры гады работы «Чырвонай Лагойшчыны» пад кіраўніцтвам ЦК і РК КП(б)Б — гэта тры гераічных гады змагання за будаўніцтва соцыялізма і непрымірымай барацьбы з кулацтвам і яго агентурай у радах партыі».**

і т. д. і т. д.

Віталі раённую газету і так:

> **«Большэвіцкаму змагару за выкананне пастаўленых задач партыі ў прыватнасці соцыялістычнага будаўніцтва вёскі...»**

Значыць, соцыялістычнае будаўніцтва вёскі гэта прыватнасць. Пытаемся за якія-ж другія «агульныя» задачы змагалася «Чырвоная Лагойшчына»?

Вітаў і райком, і палітаддзел, і РВК, і райком комсамола, і райпрофсовет. Усе яны адзначылі «большэвіцкую прынцыповасць», «палітычную завостранасць» і «нястомную барацьбу». Усе гэтыя прывітанні падобны адно на адно, як дзве кроплі вады. Адчуваецца, што калі не пісала, дык рэдагавала іх адна рука.

Але што гэтыя дыфірамбы, якія спявалися ў гэтых прывітаннях па адрасу лагойскай раённай газеты ў параўнанні з тымі, якіяваспеў сабе і сваёй газеце сам рэдактар газеты тав. **Чаплінскі** ў сваім перадавым артыкуле: **«Уперад».** ⅔ паласы заняў гэты артыкул.

> **«Чырвоная Лагойшчына», ЯК ОРГАН АДЗІНАЙ ДА КАНЦА РЭВОЛЮЦЫЙНАЙ ПАРТЫІ ПРОЛЕТАРЫЯТА — РК КП(б)Б...»**

Рэдактара Чаплінскага, як відаць, нельга абвінаваціць у правінцыяльнай

**Рыс. Вал. Мядзведзева.**



абмежаванасці. Ён бярэ сусветны маштаб, лічачы сваю газету і Лагойскі РК КП(б)Б увасабленнем усёй партыі.

Паслухайце толькі яго далей:

> **«Чырвоная Лагойшчына»... вяла непрымірымую барацьбу за генеральную лінію партыі, дапамагла партыйнаму камітэту ў мабілізацыі партыйнай арганізацыі і ўсіх працоўных раёна на выкананне пяцігодкі ў чатыры гады, поспехі якой падвялі базу для выканання сусветна - гістарычных задач другой пяцігодкі—пяцігодкі пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадства.**
>
> **Следуючы большэвіцкім традыцыям, большэвіцкіх ЦО «Праўда» і «Звязда»,**

«Ч. Л.» заўжды вяла і вядзе непрымірымую барацьбу супроць усякіх адхіленняў ад генеральнай лініі партыі...»

Калі Пушкін у 1818 г. пісаў аб Жукоўскім, што

«Его стихов пленительная сладость
Пройдет веков завистливую даль» —

то ён несумненна меў на ўвазе і будучага Чаплінскага і «пленительную сладость» яго юбілейнага перадавога артыкула.

Ці не замнога самаўсхвалення, паважаны таварыш рэдактар? Бо ў час, калі пісаліся гэтыя напышлівыя словы, план ільназагатовак па раёну быў выкапан усяго на... 58,5 проц. У запале юбілейнага захаплення рэдакцыя «Чырвонай Лагойшчыны» забыла і аб сваёй адказнасці за дрэнную работу раёна па ільназагатоўках, і аб буйных недахопах у падрыхтоўцы да веснавой сяўбы, у размеркаванні калгаснага ўраджаю і да ходаў і т. д.

Праўда, тав. Чаплінскі ўпамянуў у сваім юбілейным артыкуле, што

**«наша партарганізацыя прышла да 15 з'езда КП(б)Б з ганебным прарывам у выкананні плана нарыхтовак тэхкультур»,**

але віну за гэты прарыў усклаў толькі на сельсоветы ды на члена праўлення райспажыўсаюза тав. **Даўгалычанка,** які

**«сядзіць у сябе ў габінеце, а калі РК ці рэдакцыя запытваецца ў райспажыўсаюзе ці паехаў тав. Даўгалычанка на раён, то ён сам адказвае па тэлефону, што ён на раёне».**

Адыграўшыся на Даўгалычанку, рэдактар у юбілейным артыкуле ні слова не сказаў аб сваёй адказнасці, адказнасці газеты за прарыў у ільназагатоўках, аб адсутнасці арганізатарскай апаратыўнай работы, аб дрэннай арганізацыі «вялікай арміі рабселькораў», арміі, якая па запэўненню газеты, складаецца з 550 чалавек, на барацьбу за лён.

Рэдакцыя не паскупілася ў часе напружанай барацьбы за лён, падрыхтоўкі да веснавой сяўбы адвесці **цэлы нумар** газеты напышлівым прывітанням, алілуйскім самаўсхваленням, дэкларацыйнай балбатні.

**Кузьма Пруткоў** калісці казаў: **«Балбатун падобны маятніку: таго і другога трэба спыніць».** Правільнасць гэтага афарызма пацвярджае лагойскі юбілей.



# ШТО НОВАГА
## Ў ПАЛІТАДДЗЕЛЬСКІМ ДРУКУ

**Конкурс на лепшую па рабоце насценгазету і селькора** абвясцілі полацкі РК КП(б)Б і палітаддзелы Полацкай і Ветрынскай МТС. Для кіраўніцтва конкурсам пры РК КП(б)Б створана конкурсная камісія.

Лепшыя насценгазеты і селькоры раёна, якія пакажуць узоры барацьбы за выкананне калгасамі сваіх абавязацельстваў перад дзяржавай, якія дапамогуць наладзіць зімовую агратэхвучобу і арганізуюць масавую праверку засыпкі і аховы насення, будуць прэміяваны. Для рэдкалегій перадавых газет вызначаны тры прэміі. Першая прэмія—патэфон і мейсца ў доме адпачынку для рэдактара, другая —бібліятэка коштам у 100 руб. і для рэдактара—мейсца ў доме адпачынку, трэцяя прэмія—100 руб. і для рэдактара—50 рублёў. Для прэміявання лепшых селькораў-ударнікаў таксама вызначаны тры прэміі.

**«Кожнага калгасніка ахапіць вучобай»**—пад такім лозунгам **«Чырвоным трактарыстам»** выдана спецыяльная старонка аб палітвучобе і аўладанні агразоатэхнікай (Палітаддзел Жлобінскай МТС). У заметцы селькора **Калоснікава** газета выкрывае факты злачынных адносін да агратэхвучобы ў калгасе «Чырвоны гарадок», дзе справа не пайшла далей фармальнага стварэння агразоатэхгурткоў. У гэтай-жа старонцы газета расказвае, як ударніца-калгасніца Юдзенцова Параска, маючы пяцёра дзяцей, стала лепшай ударніцай вучобы.

**Злёт лепшых конюхаў раёна** склікае палітаддзел Рагачоўскай МТС. **«За большэвіцкія калгасы»**—газета палітаддзела прысвечае злёту падборку аб становішчы догляда коняй у калгасах і падрыхтоўцы іх да веснавых работ.

**Масавы рэйд рабселькораў па праверцы падрыхтаванасці калгасаў да сяўбы** праводзіць рагачоўская раённая газета **«Комунар»** і газета палітаддзела МТС **«За большэвіцкія калгасы».** Бюро РК КП(б)Б і палітаддзел МТС адобрылі ініцыятыву газет і прапануюць усім сакратарам партячэек і парторгам узяць пад сваё непасрэднае кіраўніцтва работу рэдкалегій і селькораў па правядзенні рэйду.

А. Дж.

# ПАД ГУЧНЫМ ЗАГАЛОЎКАМ

Было гэта 3 лютага. Чытачы крычаўскай раённай газеты **«Соцыялістычны шлях»** атрымалі чарговы нумар, пахнучы яшчэ друкарскай фарбай газеты. Чытачы ждалі з нецярплівасцю гэтага нумара і зусім зразумела: у ім было скапчэнне даклада тав. Сталіна.

На апошняй старонцы тлустым шрыф там газета паведамляе, што **«5 лютага прэзідыум РКК-РСІ»**. Тры калонкі, або 170 радкоў газетнага месца было адведзена гэтай «падзеі».

Мы зацікавіліся, што-ж тоіцца пад гэтым шматабяцаючым загалоўкам.

З тэксту стала відавочным, што на пасяджэнні будзе разгледжана 10 пытанняў. Не дрэнна, канкрэтна, здавалася-б, людзі зоймуцца рэалізацыяй указанняў таго, што было выказана ў газеце ў дакладзе тав. Сталіна аб канкрэтным жывым большэвіцкім кіраўніцтве, аб праверцы выканання.

Але гэта толькі нашы пажаданні. У Крычаве вырашаюць гэтыя пытанні «наогул». Вось праслухайце пару пунктаў з гэтага паведамлення.

1. Вынікі праверкі выканання дырэктыў партыі і ўрада аб вывазцы торфу па заводу «Калектыўная праца», або

2. Вынікі праверкі выканання дырэктыў партыі і ўрада аб жывёлагадоўлі.

Хопіць. Усе пытанні, разглядаемыя на пасяджэнні райКК ідуць пад агульным штампам «Вынікі праверкі дырэктыў партыі і ўрада». Аказваецца, крычаўская райКК на сваім пасяджэнні пад агульным штампам у адзін момант парашыла пакончыць з «хвастамі» і паставіла на разгляд такія справы, як «вывазка торфу, арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаван не соўгасаў, рамонт трактароў, захаванне бульбы, стварэнне жывёлагадоўчых баз, жывёлагадоўля, абслугоўванне працоўных медыкаментам» і т. д.

Самае цікавае тое, што па ўсіх гэтых дзесяці пытаннях дакладваў адзін чалавек—інспектар РКК-РСІ тав. Макоўскі, а ў дапамогу яму былі выкліканы цэлых добрых два дзесяткі людзей.

У Крычаве дадумаліся да таго, што пад кожным пунктам парадку дня значылася «дакладвае інспектар РСІ Макоўскі», а ў пачатку пункта значылася —«вынікі праверкі».

Не ўдаючыся па сутнасці ў ацэнку праведзенай праверкі выканання таго ці іншага пытання, мы проста спачуваем тав. Макоўскаму, якому прыдзецца аддувацца за ўсе гэтыя пытанні аднаму.

А аддувацца ёсць за што. Крычаў не можа асабліва пахваліцца ні па аднаму з гэтых пытанняў.

Але нам здаецца, што як-бы не шматабяцаюча гучэлі гэтыя абвесткі, але апрача пустой балбатні нічога такога пасяджэнне даць не можа. Нельга-ж апашляць так указанні партыі, калі адным узмахам пяра адзін чалавек за некалькі гадзін вырашае ўсю суму пытанняў, вакол якіх зараз павінна працаваць уся партарганізацыя, вядома не адзін дзень.

Таварышы з Крычава, мы вам раім—прачытайце ўважліва ў гэтым-жа нумары газеты, у дакладзе тав. **Сталіна** тое месца, дзе ён гаворыць аб «чэсных балбатунах». Мы вам яго напомнім.

«А цяпер,—гаварыў тав. Сталін, — аб другім тыпе работнікаў. Я маю на ўвазе тып балбатуноў, я-б сказаў, чэсных балбатуноў, людзей чэсных, адданых совецкай уладзе, але няздольных кіраваць, няздольных што-небудзь арганізаваць».

Гэта месца не ў брыву, а прама ў вока б'е па вас. Кіраваць «наогул», займацца гутаркамі «паогул», гэта не большэвіцкі стыль. Запамятайце гэта, таварышы з Крычава.

А цяпер аб газеце. Мала таго, што газета не ўзняла гэтых пытанняў на прынцыповую вышыню. Яна аказалася ў ролі штампоўшчыка. Мы пытаемся: навошта было са скромнага месца газеты адводзіць 170 радкоў на падобнага роду абвесткі? Ці не лепш было-б гэтыя 170 радкоў прысвяціць глыбокаму асвятленню аднаго з гэтых пытанняў? Нам здаецца, што ад гэтага газета толькі-б выйграла.

# ВІТРЫНА БРАКУ

## «РАБОТА РАЙКОМА ПРАХОДЗІЛА ПАД ЗНАКАМ»...

У смалявіцкай раённай газеце **«Шляхі калектывізацыі»** надрукавана рэзалюцыя раённай партканферэнцыі.

**«Работа райкома партыі за справаздачны перыяд (1932-1933 г. г.) праходзіла пад знакам выканання пастаўленых партыяй задач у завяршэнні пяцігодкі за чатыры гады (заключны год першай пяцігодкі) і ажыццяўленне праграмы першага года другой пяцігодкі пад знакам барацьбы за выкананне рашэнняў XVII-й канферэнцыі ВКП(б), студзеньскага пленума ЦК і ЦКК КП(б)Б і прамоў т. Сталіна аб рабоце на вёсцы на студзеньскім пленуме ЦК і ЦКК ВКП(б) і на ўсебеларускім з'ездзе калгаснікаў-ударнікаў аб ператварэнні ўсіх калгасаў у большэвіцкія, а калгаснікаў у заможныя і ажыццяўленне пастаноў пленума ЦК і ЦКК КП(б)Б».**

І кропка. Выццам-бы і не было больш пастаноў. Якая ўсё-ж такі абмежаванасць у смалявіцкіх «пісьменнікаў», якая нездагадлівасць. І паперу псуюць, і галовы чытачам марочаць і ўсяго таго, што ім хочацца, не здольны выказаць. Хіба не лепш было-б гэту-ж рэзалюцыю падаць так:

**«Работа райкома партыі за справаздачны перыяд праводзілася пад знакам выканання (глядзі «ВКП(б) В РЕЗОЛЮЦИЯХ», выданне інстытута Маркса-Энгельса-Леніна, ч. І і ІІ 1933 г.)».**

Было-б і коратка і ясна.

**Рыс. Вал. Мядзведзева.**



**Ці ня лепш было-б гэту ж рэзалюцыю падаць так...**

## АБ «ЛЯВАЦКІХ» ЗАСКОКАХ І ПАЛІТЫЧНАЙ «ПІСЬМЕННАСЦІ».

Некалькі слоў аб «лявацкіх заскоках контррэволюцыйнага трацкізма», «прымірэнцтве да іх вялікадзяржаўных і мясцовых шавіністаў» і аб палітычнай непісьменнасці уздзенскіх «кіраўнікоў».

**Рыс. Вал. Мядзведзева.**




**Уздзенскія «сочинители» за работай**

У рэзалюцыі уздзенскай партканферэнцыі ёсць такі пункт:

**«Райпартарганізацыя разбіла ўсякія папыткі правых апартуністаў, лявацкіх заскокаў контррэволюцыйнага трацкізма з прымірэнцтвам да іх вялікадзяржаўных і мясцовых шавіністаў, сіоністаў выступаўшых розных колераў і адценняў».**

(Поўнасцю захоўваем стыль і арфаграфію газеты. — РЭД.).

Якая складаная сітуацыя, якое хітрае спляценне класава-варожых сіл: правыя робяць «усякія папыткі», контррэволюцыйны трацкізм элегантна заскаквае ўлева, а «вялікадзяржаўныя і мясцовыя шавіністы і сіоністы выступаўшых розных колераў і адценняў» — падумаць толькі да чаго нахабны народ! — сядзяць сабе

спакойна і з усім гэтым прымірэюцца.

Ох, і бяда з гэтымі прымірэнцамі! Асабліва з такімі, што сядзяць у уздзенскім райкоме партыі і ў рэдакцыі райгазеты, разумеюць у палітыцы столькі, колькі фанвізінскі Мітрафанушка ў геаграфіі, і безадказна адносяцца да шкоднай палітычнай бязглуздзіцы, вывядзенай імі ўласнаручна на старонках **«Калгасніка Уздзеншчыны»**.

## АБ ЧЭРЫКАЎСКІМ «АКАННІ» І МАНІІ ШМАТКРОП'Я

Тав. **Цітоў** — адказны рэдактар чэрыкаўскай раённай газеты **«Соцыялістычная перамога»** — разважае так: чым думаць доўга над загалоўкам, лепш паставіць шматкроп'е і хоць гэтым зацікавіць чытача. Шматкроп'ю работнікі рэдакцыі надаюць выключнае значэнне. Інакш навошта рэдакцыі было-б ставіць тры кропкі ў такім напрыклад, загалоўку: **«Пагаварылі і... справа не рухаецца (№ 13 за 2-ІІ—1934 г.)**. А загаловак падан на тры калонкі, лішняе шматкроп'е б'е ў вочы чытачу.

У № 12 за 30-І—1934 г. газета надрукавала на другой старонцы буйны, але даволі загадачны загаловак:

**«Кармы раскрадваюцца, а...»**

У заметцы газета расказвае пра злоўжыванні на свінаферме калгаса «Перамога». Што хацела сказаць рэдакцыя гэтым загалоўкам, вядома, бадай, аднаму аўтару яго.

У № 13 за 4-ІІ—1934 г. газета зноў інтрыгуе чытача. На другой старонцы мы чытаем:

**«І гэта зусім не дзіўна, а...»**

А гутарка ў артыкуле ідзе аб разгортванні культурна-масавай работы камсамольцамі, дамамі ' соцкультуры.

Бяда, калі такія «шарады» і далей будуць практыкавацца на старонках масавай калгаснай газеты. Пашкадуйце, тав. Цітоў, чытача. А калі ўжо вы інакш не можаце, дык змяшчайце хоць пад кожным падобным загалоўкам-«шарадай» невялічкае тлумачэнне чэрыкаўскага праваліса.

## ЗНОЎ ПАШЛЯЦІНА.

Ушацкая раённая газета **«Прымежны калгаснік»**, у № 7 выкрываючы кулацкае нутро старшыні аднаго калгаса, ударылася ў такое мастацкае словазахапленне:

**«Гутарка будзе — піша газета — аб Галаі — старшыні калгаса імя Будзённага. Нічога дзіўнага. І думкі нават нельга дапускаць, што ён на чатырох нагах або не мае якіх частак «чалавека па стану, ці па полу».**

Мы пытаемся, што гэта брэд вар'ята, ці проста пашляціна. Пара, даўно пара пакончыць з літаратурным хуліганствам. Бо ад такіх апісанняў класавага ворага апрача шкоды ніякай карысці.

## «ЗА ДОБРУЮ ШАЙНАСЦЬ» І «БЫТАВЫЯ ЎМОВЫ СВІНЕЙ».

Каму вядомы змест слова «шайнасць»? Не разумеюць яго і калгаснікі Крупскага раёна. Але ў рэдакцыі крупскай раённай газеты знайшоўся «мовазнаўца» і ў нумары за 8 студзеня газета буйным шрыфтом выкідвае сваю «шайнасць» над аглядам лістоў селькораў:

**«Калгаснаму дабру — беражлівасць і шайнасць».**

Змагацца за паляпшэнне культурнага абслугоўвання калгасніка — рэч добрая. Аднак, гэта не азначае, што ў газеце трэба даваць апшлагі, якія дае жыткавіцкі **«Прымежны комунар»— «Палепшыць быт жывёлы»**. (№ 121). А ўслед за «Прымежным комунарам» уторыць у сваім трохкалонным загалоўку і газета палітаддзела Лагойскай МТС:

**«Свінням—добрыя бытавыя ўмовы».**

## ЯШЧЭ АБ «ЦІХАЙ САПЕ» І КРЫЧАЎСКІХ ПРАВІНЦЫЯЛІЗМАХ.

**«Соцыялістычны шлях»** — крычаўская раённая газета ўслед за няўдалай разверсткай «шапкі».

**«ДАРОГІНШЧЫНА»—ГЭТА ЦІХАЯ САПА кулака на фронце ільназагатовак»,**

пачала рэфарміраваць тэрміналогію калгасных жывёлагадоўчых ферм. Да гэтага часу мы ведалі фермы малочна-таварныя. свінагадоўчыя, аўцагадоўчыя і т. д. «Соцыялістычны шлях» пакуль што падвергнуў рэформе толькі малочна-таварныя фермы, перайменаваўшы іх у «кароўскія».

**«Абавязуемся зрабіць узорнай кароўскую ферму».**

— паведаміў «Соцыялістычны шлях» у № 24 за 30 студзеня.

«За «кароўскімі» мусіць паследуюць «свінскія», «аўцяныя» фермы і т. д.

Ад імя чытачоў крычаўскай газеты мы рашуча пратэстуем супроць такіх наватвораў.

# СОЦСПАБОРНІЦТВА—АСНОЎНЫ МЕТАД РАБОТЫ І ВУЧОБЫ ЗАВОЧНІКАЎ

## НАШЫ СОЦАБАВЯЗАЦЕЛЬСТВЫ

У адзнаку 17 з'езда ВКП(б) мы, **завочнікі КІЖ'а ушацкай райгазеты: Базылевіч А. і Ярмош П.** уступаем у соцспаборніцтва на лепшую пастаноўку завочнага навучання, аўладанне майстэрствам газетнай справы.

Нашы канкрэтныя абавязацельствы:

1. Своечасова дасылаць пісьмовыя заданні.
2. Па ўсіх заданнях мець адзнаку не менш, чым па «добра».
3. Па сваёй непасрэднай рабоце: забяспечыць своечасовы выпуск кожнага нумара газеты і аддзела, зрабіўшы кожны нумар баявой зброяй партыі па арганізацыі мас на большэвіцкае вырашэнне чарговых задач.

На такія-ж мерапрыемствы **выклікаем завочнікаў КІЖ'а: тав. Садоўскага Л. В., Дзесюкевіча С. К.** (газета «Калгасная праўда»—Лепель) і тав. **Байкачова Р. М.** —рэдактара газеты «Калгаснік Талачыншчыны».

**Арбітрам просім быць журнал «Большэвіцкі друк».**

ЗАВОЧНІКІ: **БАЗЫЛЕВІЧ, ЯРМОШ.**

* * *

Рэдакцыя журнала «Большэвіцкі друк» прымае на сябе абавязкі арбітра і заклікае ўсіх завочнікаў уключыцца ў соцыялістычнае спаборніцтва на лепшыя паказальнікі па вучобе і газетнай практыцы.

Соцыялістычны дагавор тав. Базылевіча і Ярмоша, аднак, вельмі агульны (ў частцы абавязацельстваў па іх рабоце ў газеце). У заключаемых соцдагаворах таварышы павінны **браць на сябе канкрэтныя абавязацельствы** па ўзняццю аператыўнасці газеты, па наладжанню работы з рабселькорамі, павялічыць у газеце колькасць пісем рабочых і калгаснікаў, лепш працаваць над літаратурна-палітычным афармленнем матэрыялаў, змяшчаемых у газеце, над «шапкай», загалоўкам.

## ЧАГО ПАТРАБУЮЦЬ РАБОТНІКІ РАЁН. і ПАЛІТАДДЗЕЛЬСКІХ ГАЗЕТ

### (ПІСЬМЫ ЗАВОЧНІКАЎ КІЖ'а)

**ТАВ. СЦЕФАНОВІЧ — намеснік рэдактара газ. «Большэвік Барысаўшчыны»**

Мае патрабаванні ад КІЖ'а: хуткая і глыбокая рэцэнзія. Крытычны разбор дасыламага нумара газеты, пры гэтым **паказаць, як трэба ліквідаваць той ці іншы недахоп.** Паказаць вопыт работы лепшых газет.

**Тав. ЛЕВІН — рэдактар газеты «Маяк комуны» — БЫХАЎ.**

Лічу, што дапамога завочнага КІЖ'а па вінна выразіцца ў навучанні нас, як правільна арганізоўваць работу, як расстаўляць сілы ўнутры рэдакцыі, як планаваць; у набыцці адпаведных ведаў па мове, літаратуры і тэхніцы газетнай справы, у навучанні нас, як літаратурна, тэхнічна правільна афармляць газету і адначасова павялічыць аб'ём нашых палітычных ведаў.

**Тав. БАЗЫЛЕВІЧ — намеснік рэдактара газеты «Прымежны калгаснік»—УШАЧЫ.**

Ад КІЖ'а я патрабую такой канкрэтнай дапамогі: даваць больш канкрэтных заўваг аб рабоце нашай газеты, прысылаючы нам нашы нумары з указаннем іх недахопаў і з вашымі заўвагамі.

**Тав. ЗАЙЦАЎ — рэдактар газеты «Калгаснік Любаньшчыны»**

Кожны рэдактар (і я таксама) высылае сваю газету ў КІЖ. Можна высылаць яшчэ адзін экземпляр. Трэба выкладчыкаў, або пад іх наглядам студэнтаў асноўнага КІЖ'а апошняга года навучання прымацаваць у якасці пазаштатных інструктароў да газет завочнікаў. Прымацаваны наглядае за газетай і 2—3 разы ў месяц дае свае заўвагі завочніку аб рабоце газеты. Памойму, гэта не так цяжка, але было-б сапраўднай дапамогай.

**Тав. САДОЎСКІ — намеснік рэдактара газеты «Калгасная праўда» — ЛЕПЕЛЬ.**

Я ўяўляю сабе дапамогу КІЖ'а такім чынам: кожны завочнік дасылае сваю газету, якой робіцца ўсебаковы агляд (палітычная вытрыманасць, якасць літаратурнай апрацоўкі, мова, апрацоўка пісем калгаснікаў, вёрстка і т. д.) і потым гэты агляд рассылаецца ўсім завочнікам. Безумоўна, не абавязкова рабіць агляд кожнага нумара. Можна рабіць агляд адразу некалькіх нумароў, напрыклад, хоць-бы раз у месяц.

**Тав. КАЗАЧУК — намеснік рэдактара газеты «Ленінскі сцяг» — ХОЙНІКІ.**

У завочным КІЖ'ы я хачу навучыцца аўладаць добра метадам сціслага, кароткага і цікавага выкладання сваіх думак, тэхнікай лепшага афармлення газеты — гэта ў галіне работы ў газеце. Зразумела, што КІЖ значна павысіць мой агульна-палітычны ўзровень.

**Тав. СКУРАТ-АНІСОВІЧ — рэдактар палітаддзельскай газеты Лельчыцкай МТС.**

Завочны КІЖ павінен навучыць рэдакцыйных работнікаў:

1. Правільна пабеларуску, жывой, цікавай мовай пісаць у газету і літаратурна яе афармляць.
2. Пісаць жывыя і цікавыя загалоўкі.
3. Навучыць, як падаваць у палітаддзельскай газеце міжнародную і ўнутраную інфармацыю.
4. Правільна кіраваць селькорамі і насценгазетамі калгасаў і праводзіць масавую работу.
5. Добра вярстаць газету.
6. Даваць агляды маёй газеты і інструкцыйныя пісьмы па асобных нумарах і нават па асобных заметках, калі гэта трэба.
7. Хацеў-бы дабіцца атрымання мастацкай літаратуры беларускіх пісьменнікаў.

**АД РЭДАКЦЫІ: Змяшчаемыя заўвагі газетных работнікаў рэдакцыя лічыць вельмі каштоўнымі для пастаноўкі завочнага навучання і ўпэўнена, што завочны КІЖ БССР улічыць гэтыя заўвагі ў сваёй рабоце.**

**Зварачаемся да завочнікаў з просьбай прысылаць і надалей у рэдакцыю журнала свае заўвагі і прапановы па разгортванню завочнага навучання газетных кадраў.**

## СПІС т.т. ДАДАТКОВА ПРЫНЯТЫХ НА ЗАВОЧНАЕ НАВУЧАННЕ У КІЖ БССР

1. Шатрукоў Ф. І. Адказн. рэдактар газ. «Калгаснік на варце»—Лельчыцы
2. Адась І. С. » » » палітаддзела Боркавіцкай МТС
3. Пыко М. П. » » » «Калектывіст» — Чэрвень
4. Бікашоў П. Е. » » » «Комунар Заслаўшчыны»
5. Салодкін І. І. » » » «Сталінскі шлях» — Клічаў
6. Арлоўская О. К. » » » палітаддзела Сенненскай МТС
7. Кулей Я. Н. Нам. рэдактара » «Сцяг калектывізацыі»—Глуск
8. Пісакоў А. І. » » » «Звязда на рубяжы» — Дрыса
9. Караткевіч С. Р. » » » «Калгаснік Лоеўшчыны»
10. Касоўскі І. М. » » » «Калектывіст» — Чэрвень
11. Пазына Е. В. » » » «Комунар Заслаўшчыны»
12. Яловік С. А. » » » «Сталінец» — Бешанковічы
13. Бурдыка М. С. Заг. партмасавага аддзела газ. «Калгаснік Беларусі»
14. Крушынскі Я. Р. » сельгаспадар. сектара » «Калгаснік на варце»—Лельчыцы
15. Малевіч А. П. » вайсковага сектара » «Калгаснік Беларусі»
16. Налівайка П. М. » аргмасавага сектара » «Ленінскі шлях» — Горкі
17. Сурыповіч П. Г. » сельгассектара » «Комунар» — Рагачоў
18. Кац С. С. » прамыслова-гаспад. сек. » «Комунар» — Рагачоў
19. Горфінкель » вайсковага сектара » «Большэвік Барысаўшчыны»
20. Лескавец І. А. Нам. рэдактара » «Сцяг Леніна» — Бярэзіна
21. Церашкевіч А. А. Прапагандыст Лельчыцкага РК КП(б)Б.
22. Кецко М. Ф. Адказны сакратар рэд. газет. «Калгаснік» — Чырвоп. Слаб.
23. Рубін Е. С. Адказны сакратар рэд. газет. «Ударнік» — Сураж
24. Харытончык Б. П. Літработнік партсавецк. аддзела газ. «Калгаснік Беларусі»
25. Ермакоў З. Ф. » газеты «Калгаснік Беларусі»
26. Зубровіч П. С. Літработнік-інструктар сельгассектара газ. «Калгаснік Беларусі».

**Завочны Сектар КІЖ БССР.**

# ІНІЦЫЯТЫВА, ВОПЫТ, ПРАКТЫКА

## ПА СТАРОНКАХ РАЁННАГА ДРУКУ



**Памятку пайшчыку спажывецкай кааперацыі** выдала глуская раённая газета **«Сцяг калектывізацыі»**. Памятка прысвечана справаздачна - перавыбарчай кампаніі спажывецкай кааперацыі і хлебазакупкам. Расказваючы пра асноўныя задачы пайшчыка ў хлебазакупках, рэдакцыя раённай газеты адначасова змяшчае ў памятцы бланк з заяўкай калгасніка кааперацыі. У гэтай заяўцы калгаснік паведамляе мясцоваму кааператыву аб тым, што ён хоча купіць з промтавараў і якую колькасць хлеба зможа прадаць кааперацыі.

**«Калгасны змагар» — бягомльская** раённая газета ўключылася ў абвешчаны райпрофсоветам і бюро РК ЛКСМБ конкурс-спаборніцтва на лепшую школу. 3-га лютага газета прысвячае конкурсу спецыяльную старонку.

**«Мацуйце новыя калгасы»** — пад такім аншлагам змяшчае старонку, прысвечаную рабоце з нова ўступіўшымі калгаснікамі газета палітаддзела Рагачоўскай МТС **«За большэвіцкія калгасы»**. У кароткіх аператыўных заметках газета расказвае як «палітаддзел рашыў паслаць спецыяльныя брыгады з калгаснага актыва для арганізацыйна-гаспадарчага ўмацавання нядаўна арганізаваных калгасаў, для падрыхтоўкі іх да сяўбы».

Адна з такіх брыгад дапамагла нова-арганізаванаму калгасу «Іскра Ільіча» ачысціць насенне, абсталяваць стайню, адрамантаваць інвентар. Наладжан выпуск насценнай газеты.

**Мабілізаваць нізавы друк і рабселькораў на падрыхтоўку да сяўбы**—пад такім лозунгам праводзіцца справаздачна-перавыбарчая кампанія рэдкалегій калгасных насценгазет **Любаньскага раёна.** На сельсоветскіх злётах рабселькораў рэдактары калгасных насценгазет абменьваюцца вопытам сваёй работы ў мінулую веснавую кампанію. РК КП(б)Б абавязаў рэдакцыю раённай газеты і райза выдаць і разаслаць ва ўсе калгасы макеты насценных газет. Для ўзмацнення работы з нізавым друкам у рэдакцыю раённай газеты РК ЛКСМБ накіроўвае двух камсамольцаў.

**«Поспехі навігацыі 1934 года кавать зараз»** — пад такім лозунгам друкуе аб'яднаную старонку **«Комунар Магілеўшчыны»**. Старонка арганізавана з удзелам усебеларускай водніцкай газеты **«Беларускі фарватар»**, яна насычана паказам канкрэтнай работы ўдарнікаў-воднікаў і заклікае іх да большэвіцкага выканання плана рамонта суднаў. Газета расказвае пра 8 лепшых ударнікаў-воднікаў, якія пастановай трыкутніка басейна занесены ў чырвоную кнігу гонару.

**«Жывыя людзі зрабілі перамогу»** — піша шматтыражка Бярэзінскага камбіната (Барысаў). Пад гэтым аншлагам **«Чырвоны бярэзінец»** выдаў спецыяльны нумар газеты да злёта ўдарнікаў, выканаўшых свае абавязацельствы, даныя 17 з'езду ВКП(б). У перадавым артыкуле «Злёт сцяганосцаў большэвіцкіх тэмпаў» газета з гонарам паведамляе, пролетарскай грамадскасці Барысава: **«Студзеньскі план выканан на 102 проц. 2 вагоны вышэйшай якасці запалак звыш плана выпушчана ў гонар 17 з'езда».**

**«Рабочае вока»** — шматтыражка Менскай чырвонасцяжнай гарбарні **«Большэвік»**—у нумары 7-8 дае старонку аб выніках прапрацоўкі даклада тав. Сталіна рабочымі гарбарні. Газета расказвае аб тым, як даклад тав. Сталіна прапрацоўваўся на кватэрах у рабочых. «Загадзя было дагаворана,—піша газета,—з групамі рабочых, якія пражываюць недалёка адзін ад аднаго, каб яны па 5-6 сем'яў сабраліся з жонкамі да аднаго рабочага і за чашкай чаю прапрацавалі даклад тав. Сталіна». Такая форма прапрацоўкі даклада вельмі зацікавіла не толькі саміх рабочых, але і іх сем'і.

### ЗАЎВАЖАНЫЯ ПАМЫЛКІ.

На 20-ай стар. у подпісі пад клішэ замест слоў «Жаночыя арганізатары...» павінна быць «Жанарганізатары...»

Менск, друкарня «Звязды». Галоўлітбел № 27